ISSN 0234—1387

2 ЛЮТЫ 1989

за кулісамі апарату

кароль элвіс першы

«людцы добрыя, за што...»

сямімільныя крокі?





# крыніца

Крыніца. 1989. 1—44.

Індэкс 74824

Цана 25 кап.

Плакат мастакоў ДАМАНАВЫХ





# У НЕБЕ І НА ЗЯМЛІ

Фота Юрыя ЗУБРЫНОВІЧА.






Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

КРЫНІЦА

№ 2 1989

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года





Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.



ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71, 36-61-13, 36-61-42



Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта
Беларускай ССР па справах
выдавецтваў, паліграфіі
і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.12.88.
Падпісана да друку 23.01.89.
АТ 17755.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,55.
Тыраж 46 060 экз.
Зак. 1370. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79

Афармленне 1-й стар. вокладкі
Уладзіміра КАЦАПАВА

# ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

## ГІСТОРЫЯ З ГІСТОРЫЯЙ

Мінулым летам мой таварыш паступаў у мінскі тэатральна-мастацкі інстытут. Прыйшоў да мяне і ўсхвалявана кажа: «Не ведаю, каму верыць. У школе нам расказвалі пра беззаконні сталінскіх часоў, аб ролі Сталіна ў народнай трагедыі. Колькі кніг выйшла, колькі артыкулаў і тэлеперадач! А ў нас на кансультацыі перад экзаменам па гісторыі нейкі выкладчык так і заявіў: «Калі, маўляў, хто-небудзь асмеліцца сказаць дрэнна пра таварыша Сталіна, няхай не разлічвае на вучобу ў інстытуце...»

Я спытаўся аб прозвішчы гэтага выкладчыка, але мой таварыш сумеўся, а потым увогуле махнуў рукою. Маўляў, сам разумееш, мне яшчэ паступіць трэба, а так, пачні я гвалт падымаць, хто яго ведае, як усё выйдзе. Я яго не асабліва асуджаю, таму што жыццё прымушае быць канфармістам... Але адно пытанне не дае мне спакою. Вось прачытаў я пра тое, што былы пракурор, а цяпер пенсіянер закідаў суды іскамі, патрабуючы прыцягнуць да адказнасці тых, хто асмельваецца сказаць прама: Сталін асабіста вінаваты ў злачынствах! З гэтага пенсіянера можна і пасмяяцца, што з яго возьмеш? Але ж многія, так сказаць, з тых, хто «застаецца ў страі», па сутнасці, выказваюць такія ж думкі. Прачытаў у «Чырвонай змене» артыкул студэнта журфака пра тое, што ў іх на лекцыях адзін прафесар дагэтуль называе М. І. Бухарына, іншых незаконна рэпрэсіраваных дзеячаў партыі ганебнай мянушкаю, прыдуманай катамі: «бандаю забойцаў і шкоднікаў»... І не сорамна пасля 19-й партканферэнцыі? Зрэшты, пры чым тут сорам: лічу, што такія выкладчыкі безумоўна маюць права на свой пункт погляду. Але толькі пры адной умове: калі здадуць свае партыйныя білеты і арганізуюць нефармальныя аб'яднанні аматараў сталіншчыны. Вось там няхай і аддаюцца любові да дарагога іхняму сэрцу «правадыра і настаўніка». А то выходзіць як у прымаўцы: «И невинность соблюсти, и капитал приобрести». Адной рукою такія «грамадазнаўцы» за перабудову, а другой за «добрыя старыя часы». За этапы, тройкі і Калыму.

**Ч. ФРАНЕВІЧ,**
**рабочы**



Мал. Канстанціна ВАШЧАНКІ

## «ЦЕНЬ НА ПЛЯЦЕНЬ»

**У нашай газеце «Гродненская правда» я прачытаў ліст групы вучоных і грамадскіх дзеячаў, якія асуджаюць мінскія нефармальныя аб'яднанні, пісьменніка Адамовіча. Я вельмі ўважліва прачытаў гэты артыкул, мы яго абмяркоўвалі з сябрамі, было выказана шмат думак. А потым пранеслася пагалоска, што некаторыя з тых, хто падпісаў гэты артыкул, як кажуць, не надта... у маральным сэнсе. Вось, скажам, акадэмік Дарожкін праславіўся ў саракавыя гады і як актыўны барацьбіт за сцвярджэнне ідэй Лысенкі. Ці патрэбныя тут каментарыі? Прафесар Філімонаў, кажуць, прысвяціў навуковыя даследаванні ў тыя ж саракавыя гады выдатнай (без двукосся) ролі Берыі і Сталіна ў жыцці нашага грамадства. І тут цяжка нешта дадаць. Магу, вядома, дапусціць, што паважаныя аўтары разумеюць, што награшылі ў маладосці, што ў некаторых пытаннях памыляліся. Цяпер мы ведаем, як прыцягвалі да грыміроўкі рэчаіснасці людзей нашмат больш маштабных, чым аўтары артыкулаў пра «нефармалаў». Нават М. Горкага і М. Шолахава Сталін уцягваў у «ідэалагічнае забеспячэнне» сваіх мерапрыемстваў. У прыватнасці, будаўніцтва Беламорканала, дзе гінулі тысячы вязняў, ці калектывізацыя на Доне...**

**Так што не буду сёння папракаць за даўняе гэтых вучоных. Але ўзнікае пытанне, а ці ж маюць яны маральнае права вось так судзіць, зноў выдаваць свае погляды ў якасці маральнае каштоўнасці для моладзі! Мне здаецца, што больш сумленна было б спачатку пакаяцца самім, а ўжо потым вучыць іншых. Так ва ўсякім разе лічыць акадэмік Дзмітрый Сяргеевіч Ліхачоў. Я цалкам падзяляю ягоную думку.**

**А можа, я ў чымсьці памыляюся! Тады скажыце праўду, даваце падыскусіруем.**

А. ВАЛОШКА

## ЧАКАЕМ ЦЯБЕ, ПАДРУЧНІК

Я пастаянная чытачка часопіса «Крыніца». Мне падабаецца, што на старонках часопіса закранаюцца важныя праблемы сучаснага грамадства, асабліва добрая рубрыка «Люстраная зала». Таму я хачу напісаць для яе пра перабудову ў нашай школе.

Цяпер перыяд перабудовы і галоснасці, разам з усімі павінна перабудоўвацца агульнаадукацыйная школа. Вельмі цяжкае становішча з падручнікамі. Напрыклад, падручнікі этыкі для 8-га класа 1982 года выдання цалкам «зацытаваны» Л. Брэжневым, у падручніку асвятляюцца задачы XXV з'езда КПСС. Няўжо за гэтыя шэсць гадоў няма чаго дадаць, можа, выправіць у тэксце падручніка, няўжо не адбылося змен у нашым жыцці? Многія падручнікі не адпавядаюць праграме, а некаторых увогуле не хапае. Хачу адзначыць таксама, што падручнікі, асабліва па дакладных навуках (алгебра, фізіка і інш.), напісаны нуднай і часам недаступнай моваю (гэта прызнаюць і самі настаўнікі). Трэба ставіць пытанне аб тым, каб Міністэрства народнай асветы часцей перавыдавала падручнікі (дапаўняла і змяняла некаторыя дадзеныя, а то звычайна перавыданне праходзіць так: тэкст падручніка застаецца стары, толькі вокладка і папера новыя) і ў вялікай колькасці. Цяпер я не баюся гаварыць пра гэта, перабудова раскрыла нам вочы і дала магчымасць сумленна і смела гаварыць. Вядома, акрамя гэтага ёсць у школе шмат добрага — гэта нашы выдатныя настаўнікі, якія стараюцца закрыць усе недахопы чымсьці добрым. Цудоўная настаўніца этыкі Драпеза Л. Я., нягледзячы на тое, што падручнік не зусім адпавядае патрабаванням, арганізавала новую форму ўрока — палітбой. Усім вельмі падабаецца, усе зацікаўленыя ўрокам, лягчэй працаваць настаўніку, і вучні лягчэй засвойваюць матэрыял.

Вось ужо чатыры гады перабудовы, але ў школе яна адчуваецца слаба. Я лічу, што агульнаадукацыйная школа павінна перабудоўвацца самым істотным чынам, бо ад таго, як нас выхоўвае школа і чаму навучыць, залежыць будучыня нашай краіны.

Я, вядома, не зусім упэўненая, што мой ліст будзе апублікаваны, бо, чытаючы часопіс, я не бачыла публікацый маіх равеснікаў. І тым не менш я вельмі рада (яшчэ раз паўтараю), што на Беларусі існуе такі часопіс, які ў першы год свайго выдання заваяваў велізарную папулярнасць сярод моладзі.

Усяго вам добрага!

**Наталля БАЛОЦКАЯ,**
**вучаніца 8-га класа**
**СШ № 8 г. Светлагорска**

## ПРА СВАЙГО БАЦЬКУ...

**Мне хутка будзе 16 гадоў. Паводле ўсіх мерак, я ўжо дарослая, але іншы раз мне здаецца, што гэта не так! Я, як дзіця, не магу нічым дапамагчы сабе. У школе я вучуся добра, амаль на адны пяцёркі. Усе настаўнікі лічаць, што я «дзяўчынка з даволі інтэлігентнай сям'і», усе сяброўкі думаюць, што ў мяне «класныя бацькі». Але не так гэта, не так! І мне цяжка, што бацька ў мяне — алкаголік, п'е амаль кожны дзень. Гэтага ніхто не ведае, нават лепшай сяброўцы сорамна расказаць. СОРАМНА! Калі мне было 12 гадоў, у мяне нарадзілася сястра. Як мне было цяжка, а стала яшчэ цяжэй. Хіба можна пражыць сям'і з чатырох чалавек на такую зарплату: 35 маміных + 130 р. бацькавых. Вось такая арыфметыка — ні новай адзежы, ні кіно, нічога. Я цярпела. Ніхто не бачыў тых слёз, якія я праліла начамі. Як мне хацелася, каб маці развялася! Бо калі дзіцёнка давалі бацьку, ён толькі і шукаў хвілінку, каб зазірнуць у бар. Я не люблю свайго бацьку, я ненавіджу яго, ненавіджу! Хіба ён зразумее, што я — дзяўчынка, што мне трэба прыгожа апранацца, хоць зрэдку пайсці з сяброўкамі ў кіно. І ён, і мама лічаць, што калі я ем і ў мяне ёсць усё «першай неабходнасці» (штаны, кофтачка, футра, куртка, боты), то я павінна быць шчаслівая. Спрабуй ім гэта растлумачыць не спрабуй, адказ адзін: «Грошай не хапае і так». І я стараюся вучыцца, каб куды-небудзь паступіць, мару ў ВНУ. Я вывучуся, каб ніколі не паўтарыць шлях сваіх бацькоў. Няхай я выйду замуж па разліку, але мае дзеці ніколі не будуць пакутаваць, як я.**

**Нават калі вы не надрукуеце мой ліст, я не пакрыўджуся, усё-такі ёсць каму выліць сваё гора. Але прашу вас, надрукуйце яго. Я ўпэўненая, што не адна ў сваім няшчасці.**

**Хаця я ўжо прывыкла атрымліваць адмовы.**

Валерыя Б.

**Аляксандр ЦЫПКО,**
**доктар філасофскіх навук**

# «ВЯЛІКАЯ МЭТА» І НІКЧЭМНАЯ РЭЧАІСНАСЦЬ

- **Троцкі і Сталін: забыццё ленінскіх запаветаў**
- **Месіянства і занядбанне быту — асаблівасці расійскай рэвалюцыйнай свядомасці**
- **Панскія перажыткі ў свядомасці рэвалюцыянераў**
- **Абстрактная мэта вышэй за тых, хто сёння жыве**
- **Апраўданне жорсткасці ў артыкуле Ніны Андрэевай**
- **Трацкізм у нашай свядомасці**

Многае, вельмі многае звязвае нас са светапоглядам Сталіна. Парадняе з ім і дзіва вартая для нармальнага чалавека ўсё яшчэ не пераадоленая абыякавасць да гібелі іншых, далёкіх. І. Клямкін спакойна, ані не бянтэжачыся, на старонках «Нового мира» даводзіць, што ў гісторыі не бывае ні малых, ні вялікіх ахвяр, ёрнічае з прычыны гібелі неразумных сялян, якія скачуць на сваім пахаванні. В. Кожынаў следам за ім, цяпер ужо на старонках «Нашего современника», спрабуе пераканаць грамадскасць, што рэпрэсій не было, а была толькі помста, адкрыта зларадпічае з прычыны гібелі рэвалюцыйнай, сацыялістычнай інтэлігенцыі. І там, і тут сталінскае фаталістычнае разуменне законаў гісторыі як прадвызначэння.

Але найбольш звязвае сённяшнюю тыповую інтэлігенцыю з палітычным мінулым затоеная, глыбокая мара пра чысты, абсалютна чысты сацыялізм. Чаму наша інтэлігенцыя, і не толькі рэвалюцыйная (прыгадаем А. М. Горкага), так лёгка змірылася з сталінскім насіллем над сялянамі, не адгукнулася на жахі раскулачвання і голаду ў пачатку трыццатых? Чаму яна была перакананая, што ёй жывецца добра?!

Я думаю, таму, што яна ўспрыняла ўсё, што сталася, як непазбежную цану за чысціню будучага грамадства, таму, што сапраўды была перакананая ў тым, што гісторыя рухаецца ў правільным кірунку. Сталін быў ёй блізкі менавіта сваёй рэвалюцыйнай перакананасцю, сваім імкненнем да новага, якое павінна быць аж такое новае, каб ані грана даўніны ў ім не было. Гаворка ішла пра веру ў магчымасць «унікальнага» і, самае важнае, «нетрывіяльнага» грамадства, у якім не будзе ні гандлю, ні селяніна, ні крамніка, ні мешчаніна.

Рызыкну сцвярджаць, што Сталін да канца дваццатых — пачатку трыццатых быў бліжэйшы большасці партыйнага актыву, большасці новай інтэлігенцыі, чым Ленін, які дыктаваў свой палітычны запавет. Бо Ленін у канцы жыцця адмовіўся ад наіўнай веры ў чысты сацыялізм, чым моцна расчараваў большасць тэарэтыкаў партыі і перш за ўсё Е. А. Прэабражэнскага, М. Л. Лур'е, Л. А. Гольцмана. Менавіта Ленін ахарактарызаваў гэтае самае абстрактнае імкненне да новага, «якое павінна быць аж такое новае, каб ані грана даўніны ў ім не было», як тыповую памылку рэвалюцыйнай свядомасці. А Сталін, наадварот, вёў барацьбу з нячысцікам да канца, не ішоў ні на якія кампрамісы ў гэтай свяшчэннай справе выкарчоўвання старога. Ён заклікаў да «бязлітаснай класавай барацьбы, барацьбы не на жыццё, а на смерць, барацьбы паводле прынцыпу «хто каго».

Зрэшты, нічога рызыкоўнага і нечаканага ў маёй прапанове няма. Бо пра гэта гаворыць і Дзмітрый Затонскі. Тое, што прапаноўваў Сталін у якасці сацыялізму, сведчыць гэты аўтар, усе ўспрынялі як звычайнае, прывычнае разуменне новага грамадства. Ленінская крытыка наіўных, рамантычных уяўленняў пра чысты сацыялізм не была пачута большасцю партыі, ідэя саюза народных сіл, саюза пралетарыяту з кааператыўным селянінам-таваравытворцам так і не ўвайшла ў свядомасць партыйнага актыву. Гэтым і тлумачыцца надзіва лёгкая перамога Сталіна над улюбёнцам партыі М. І. Бухарыным, асабістая трагедыя якога складалася ў тым, што ён быў адзін з тых нямногіх (Рыкаў, Томскі, Дзяржынскі), хто сур'ёзна паставіўся да ленінскага закліку «некамуністычнымі рукамі будаваць камунізм».

Зрэшты, ці варта здзіўляцца таму, што тады, у дваццатыя і ў трыццатыя, шмат хто хацеў, каб іх чыстая, светлая будучыня будавалася абавязкова чыстымі рукамі? Бо і сёння, пасля таго як мара пра чыста пралетарскі, «немяшчанскі», «негандлёвы» сацыялізм абярнулася апакаліпсісам трыццатых, многія прадстаўнікі нашай інтэлігенцыі, якія дэкларуюць сваю вернасць традыцыям марксізму, перакананыя ў тым, што дэмакратычнага сацыялізму ў нас не будзе да таго часу, пакуль мы да канца не разбурым рэшткі сялянскага «мы». Я маю на ўвазе канцэпцыю ўдасканалення сацыялізму ў нашай краіне, выкладзеную ў артыкуле І. Клямкіна «Якая дарога вядзе да храма?».

Вядома, даследаванне таго, што ў нас засталося ад Сталіна, ад сацыяльнага мыслення яго эпохі,— надзвычай складаная і адказная задача. Але ўсё-такі гэтую размову трэба пачынаць. Прычым з самага непрыемнага, з прызнання таго, што нашае сваяцтва са Сталіным звязана на утапізме.

Вытокі ўсіх нашых бедаў трэба шукаць у нашым самым абстрактным імкненні да новага, у містыфікаванні таго, што мае прыйсці пасля цяперашняга.

Знішчэнне дробнай прыватнай вытворчасці, канчатковае пераадоленне гандлю, сялянскай працы не было самамэтай для класікаў марксізму. Гаворка ішла перш-наперш пра такія адчувальныя рэчы, як дабрабыт, вартыя ўмовы жыцця, магчымасць свабодна развіваць сваю чалавечую прыроду. Гаворка ішла пра нармальнае чалавечае шчасце. Прычым для пераважнай большасці грамадства, уключаючы і такую ненавісную нам дробную буржуазію. «Калі каму-небудзь... магчыма, здасца, што ўзвышэнне раней прыніжаных класаў не можа адбыцца без зніжэння яго ўласнага жыццёвага ўзроўню, дык трэба памятаць, што гаворка ідзе пра стварэнне ўсім людзям такіх умоў жыцця, пры якіх кожны атрымае магчымасць свабодна развіваць сваю чалавечую прыроду, жыць са сваімі блізкімі ў чалавечых адносінах і не баяцца прымусовага разбурэння свайго дабрабыту» (Маркс К., Энгельс Ф. Соч., т. 2. С. 554).

У класікаў марксізму ідэал заземлены, будучае намёртва завязана на цяперашнім. Яны пра гэта заўсёды гаварылі адкрыта. Напрыклад, пра тое, што камунізм для іх не ідэал, не стан, да якога павінна прымяркоўвацца рэчаіснасць, а рух, які знішчае сённяшняе невыноснае становішча пралетарыяту. Будаўніцтва сацыялізму і бачнае паляпшэнне матэрыяльных умоў жыцця людзей непарыўна звязаны. Так падказваў здаровы сэнс. Рэальны гуманізм абмяжоўваў тое, што мы цяпер называем класавым падыходам альбо класавым пунктам погляду. Рэвалюцыя абараняе свае інтарэсы, умовы для развіцця асобы. Але гаворка павінна ісці пра тых працоўных, якія жывуць сёння, пра абарону сапраўдных сацыяльных даброт. Пры гэтым ні ў якой меры не дапушчальныя ні «ўстанаўленне анархіі ў галіне маралі», ні тыранія грамадскіх інтарэсаў над асабістымі.

Сталін і яго паплечнікі былі духоўна і маральна не гатовыя да лёсу першапраходцаў сацыялізму. Віною ўсяму, як мне ўяўляецца, менавіта іх занадта абстрактнае ўяўленне пра будучыню. Настойлівае імкненне адарваць новае ад старога, будучае ад цяперашняга якраз і пазбавіла іх надзейных крытэрыяў, патрэбных для ацэнкі сацыялістычнай працы. Абстрактнае, нерасчлененае ўяўленне пра будучыню нараджае гэтакія ж абстрактныя нявысветленыя ўяўленні пра тое, што такое добра і што такое кепска. У канчатковым выніку пры такой містыфікацыі сацыялістычнага будаўніцтва самамэтаю робіцца сам працэс змянення, ператварэння грамадскага жыцця, а адзіным крытэрыем прагрэсу робіцца сам факт непадобнасці сацыялістычнай цяпершчыны да капіталістычнай мінуўшчыны. Так нараджаецца небяспечнае перакананне, што ўсё новае лепшае за старое, што ў любым выпадку разбурэнне старога, калі нават няма адчувальных вынікаў, з'яўляецца дабром у сабе.

Адыграла фатальную ролю і славалюбства ідэолагаў рэвалюцыі, іх максімалізм, прага чагосьці незвычайнага, вялікай справы, якая перакульвала б звычайны парадак рэчаў. Нашыя рэвалюцыянеры, расійскія марксісты адчувалі сябе свабоднымі ад мінулага і цяперашняга, яны пераацэньвалі свае магчымасці, пластычнасць сацыяльнай рэальнасці задоўга да сваёй перамогі, нават не ведаючы, калі яны да яе прыйдуць.

Ужо Герцэн адчуваў гэты дэфект расійскай рэвалюцыйнай свядомасці. «Калі прагрэс мэта,— пытаўся ён,— дык дзеля каго мы працуем? Хто гэты молах, які, па меры набліжэння да яго працаўнікоў... толькі і ўмее адказаць горкай насмешкаю, што пасля іх смерці будзе цудоўна на зямлі. Няўжо і вы асуджаеце людзей на... тое, каб быць няшчаснымі працаўнікамі, якія па калені ў гразі цягнуць барку з таямнічым рунам і з паслушлівым надпісам «прагрэс у будучым» на сцягу... Гэта адно павінна было насцярожыць людзей; мэта, бясконца далёкая — не мэта, а, калі хочаце, улоўка; мэта павінна быць бліжэй, прынамсі — заработная плата альбо асалода ў працы».




Пра існаванне месіянскіх настрояў сярод рускай інтэлігенцыі грамадства ведала задоўга да Кастрычніка. Ужо ў «Вехах» падрабязна распрацавана тэма рускага рэвалюцыйнага максімалізму. «Пэўная неадсветнасць... мара пра Горад Божы, пра наступнае царства праўды... і потым імкненне да выратавання чалавецтва — калі не ад граху, дык ад пакутаў,— пісаў С. І. Булгакаў,— складаюць, як вядома, нязменную асаблівасць, якая адрознівае рускую інтэлігенцыю». Пра дзівосную «адвагу» рускага інтэлігента ў пытаннях тэарэтычнага абгрунтавання і правядзення «якой-небудзь найвялікшай сусветнай зямельнай рэвалюцыі» гаварыў У. І. Ленін.

Як мне здаецца, найлепш удалося разгледзець гэтую хваробу нашай рэвалюцыйнай свядомасці Ф. І. Шаляпіну. «Я не магу быць да такой ступені сляпым і прадузятым,— пісаў ён ужо ў эміграцыі,— каб не заўважыць, што ў самай глыбокай аснове бальшавіцкага руху ляжала нейкае імкненне да сапраўднага пераўладкавання жыцця на больш справядлівых, як здавалася Леніну і некаторым іншым яго паплечнікам, пачатках... Бяда ж была ў тым, што нашыя расійскія будаўнікі ніяк не маглі прынізіць сябе да таго, каб задумаць звычайны чалавечы будынак паводле разумнага чалавечага плана, а абавязкова жадалі пабудаваць «вежу да неба» — Вавілонскую вежу!.. Не маглі яны задаволіцца звычайным здаровым і бадзёрым крокам, якім чалавек ідзе на працу, якім ён з працы вяртаецца дамоў,— яны павінны рынуцца ў будучыню сямімільнымі крокамі... «Адрачэмся ад свету старога» — і вось трэба зараз жа вымесці стары свет так грунтоўна, каб не засталося ні кораня, ні пылінкі. І галоўнае — надзіва ўсё ведаюць нашы расійскія разумнікі. Яны ведаюць, як гарбаценькага шаўца ператварыць у Апалона Бельведэрскага, ведаюць, як навучыць зайца запальваць запалкі, ведаюць, што трэба гэтаму зайцу для шчасця...»

Ф. І. Шаляпін толькі не заўважыў (чаго здзіўляцца, яе не заўважылі многія правадары партыі) ленінскую спробу апусціць будаўнікоў Вавілонскай вежы на зямлю, нагадаць ім пра шкоднасць паспешлівасці, пра тое, што калі не будзе сытага рабочага і сытага селяніна, дык наогул нічога не будзе, не кажучы ўжо пра сусветнае царства ўсеагульнай роўнасці. Дзеля справядлівасці варта згадаць, што Сталін кароткі час падтрымліваў Бухарына, які спрабаваў даказаць, што без сытага селяніна і без сытага рабочага сацыялізм не сацыялізм, а хімера. Аўтар і рэжысёр самага страшэннага голаду ў шматвяковай гісторыі Расіі на XV з'ездзе ВКП(б) крытыкаваў Л. Д. Троцкага за тое, што той адрываў задачы будаўніцтва сацыялізму ад задач павышэння дабрабыту сялянства.

Але ўсё ж, на наша няшчасце, будаўнікі Вавілонскай вежы так і не апусціліся на гэтую грэшную зямлю. Урэшце з дапамогаю Сталіна перамог Троцкі, які лічыў, што нам патрэбен не ўсякі ўраджай, а толькі той, які «можа зрабіцца фактарам, што паскарае тэмп гаспадарчага развіцця ў бок сацыялізму». Яго ідэі настолькі трывала заселі ў нашай свядомасці, што яшчэ нядаўна яны былі агульным месцам нашай публіцыстыкі, якая вядзе барацьбу з «некаторымі таварышамі, што спрабуюць выкарыстаць падсобныя гаспадаркі для асабістага ўзбагачэння».

Я думаю, што калі б не было нашай традыцыйнай расійскай інтэлігенцкай пагарды да быту, да таго, што мы дагэтуль пагардліва называем звычайнасцю будзённага жыцця, Сталіну ўсё ж не ўдалося б пераканаць партыю ў згортванні нэпа, у магчымасці будаваць сацыялізм з пустым жыватом, без цывілізаваных выгод.

Тое, што было неаспрэчнай каштоўнасцю для Энгельса (гаворка пра гарантыі асабістага дабрабыту), для многіх яго расійскіх паслядоўнікаў было толькі атрыбутам буржуазнага

ладу жыцця, мяшчанствам. Трагедыя расійскага рэвалюцыянера, мабыць, была ў тым, што ў тым жыцці, якое цякло побач з ім, ён не мог знайсці сабе відавочных, адчувальных каштоўнасцей. Ён ненавідзеў усімі фібрамі сваёй душы заходняе мяшчанства з яго багаццем і з яго ўладкаванасцю быту. Але і ў сваім рускім жыцці ён часцей за ўсё адчуваў сябе чужым: наш патрыярхальны лад жыцця з яго размеркаванасцю, задухаю раздражняў яго яшчэ болей. Абагаўленне будучыні непазбежна вяло да скептычных адносін да таго, што ёсць, чым жыве чалавек сёння. Яшчэ ў мінулым стагоддзі, калі над помысламі інтэлігенцыі царавалі Бакунін і Ткачоў, у нас склалася цвёрдае перакананне, што нельга зрабіцца сапраўдным рэвалюцыянерам не ўзненавідзеўшы быт, усё ўстойлівае і шматпаўторнае ў жыцці чалавека.

Гэтую нянавісць да застаялага, звычнага жыцця мы знаходзім у многіх сацыял-дэмакратаў. У гэтай сувязі прыцягвае да сябе ўвагу мысленне Троцкага. Пры чытанні яго прац, асабліва аўтабіяграфіі, складваецца цвёрдае перакананне, што яго ва ўсёй ягонай рэвалюцыйнай дзейнасці цікавяць не так яе магчымыя сацыяльныя і эканамічныя вынікі, як сама магчымасць змяніць,ператрэсці тое, што ёсць, магчымасць надаць рэвалюцыі пастаянны, сусветны характар. У аснове яго тэорыі перманентнай рэвалюцыі якраз і ляжала перакананне, што раўнавага ўжо складзенага, незалежна ад таго, як яго ўспрымаюць самі людзі і што яно ім канкрэтна дае, сама па сабе ёсць зло, а таму няма больш высакароднай задачы, як пастаянна, не шкадуючы сілы, узрываць прывычны лад рэчаў. Грамадства, настойваў Л. Д. Троцкі, павінна «бесперапынна ліняць». «Адзін этап пераўтварэння непасрэдна выцякае з другога... Рэвалюцыі гаспадаркі, тэхнікі, ведаў, сям'і, быту, нораваў разгортваюцца ў складаным ўзаемадзеянні адна з адной, не даючы грамадству дасягнуць раўнавагі».

Троцкага да кар'еры прафесійнага рэвалюцыянера схіляў, у прыватнасці, сібірскі дастатак. Менавіта «рослыя сібірачкі, якія выносілі на станцыю смажаных курэй і парасят, малако ў бутэльках і горы печанага хлеба», умацавалі яго ў неабходнасці разбурыць дашчэнту стары свет (гл.: Троцкий Л. Моя жизнь. С. 158).

Троцкага было б вельмі карысна прачытаць сённяшнім пісьменнікам «патрыятычнага» кірунку. Бо ў іх шмат агульнага з ім у смяротнай варожасці да спажывецтва, да таго, што яны называюць «ціхім мяшчанскім шчасцем». Троцкі таксама быў перакананы, што няма большага зла ў гісторыі, як «матэрыяльная карысць» ад сваёй працы, а таму аддаваў перавагу казарменнай ўраўнілаўцы і салідарнасці бедных рабочых, якія жывуць надгаладзь. Троцкі лічыў, што рэвалюцыйная мараль ідзе на спад, калі людзі перастаюць галадаць, а таму смерць ад недаядання ў гады ваеннага камунізму ставіў намнога вышэй у маральных адносінах, чым сытае жыццё мільёнаў рабочых і сялян у перыяд нэпа.

Літаратары — Ю. Бондараў, В. Гарбачоў, А. Прахանаў,— якія спрабуюць пераканаць рускі народ, што яго грэхападзенне пачалося трыццаць гадоў таму назад, калі ён, дзякуючы хрушчоўскім паслабкам, перастаў галадаць і забрудзіў сваю душу такімі «грубымі сіламі быцця», як свой дах над галавою і сціплы дастатак, абавязаны ведаць, чые ідэі яны паўтараюць.

Месіянізм, абагаўленне будучыні альбо якой-небудзь вялікай ідэі — гэта не так слабасць, як вялікі грэх перад чалавекам, перад сваім народам. Нянавісць да руціны жыцця, якімі б самымі высокімі меркаваннямі яна ні апраўдвалася, усё ж заўсёды была нянавісцю да жыцця. Бо без руціны, без штодзённых, заўсёдных турботаў пра хлеб надзённы, пра дах над галавой, пра дастатак для дзяцей — жыцця няма.

Можна з поўнай падставай сказаць, што характэрная для нашай інтэлігенцыі так званая нянавісць да мяшчанства, да руціны жыцця не так узвышала, як прыніжала розум, волю да ісціны і праўды. Вядома, у асобных канкрэтных выпадках гэтая нянавісць дазваляла супрацiўляцца «благім абставінам» захаваць сябе. Але ў масе яна ўмацоўвала ілюзію, што можна пабудаваць жыццё, у якім не будзе руціны, усіх гэтых дробных будзённых спраў, усіх гэтых дробных нудных абавязкаў чалавечых, што можна гаспадарыць, не дакранаючыся да таго, што Ю. Бондараў называе «грубымі сіламі быцця», што можна назаўсёды выключыць з жыцця «матэрыяльную карысць» і карысталюбства.

Гэтай ілюзіяй, дарэчы, жылі і карміліся ўсе нашы «левыя» апазіцыі. Так як сёння Ю. Бондараў і А. Праханаў дакараюць эканамічную рэформу за тое, што яна спакушае чалавека дастаткам і ўстойлівасцю быту, так і Л. Д. Троцкі і Р. Я. Зіноўеў грамілі ў дваццатыя гады нэп, «як выяўленне мяшчанскай цягі да парадку і спакою» (Троцкий Л. Перманентная революция. С. 32). Сапраўды няма нічога новага ў паднябеснай.

Ва ўсёй гэтай нянавісці да быту, да будзённых чалавечых абавязкаў, да практычнага боку жыцця шмат чаго ад традыцыйнага рускага панства, ад старой пагарды да тых, хто вёз і вязе на сабе цяжар грамадскага жыцця. Парадокс усёй нашай гісторыі ў тым, што барацьба з самаўладдзем, пакуты герояў рэвалюцыі не толькі не садзейнічалі пераадоленню панскай, дваранскай пагарды да паўсядзённай, будзённай працы, а, наадварот, замацавалі гэты недахоп адчування рэальнасці, недахоп моцных сувязей з плоццю чалавечага існавання.

Дзякуючы марксізму, яго вучэнню пра непазбежнае адміранне капіталізму традыцыйная «антыбуржуазнасць» нашага мыслення атрымала магутнае ідэалагічнае падмацаванне. Кляймуючы мяшчанства, духоўную паўзучасць буржуазнага ладу жыцця, а разам з ім і яго спажывецтва, мы знаходзілі тым самым маральнае апраўданне нашаму няўменню працаваць, гандляваць, арганізаваць разумна сваё паўсядзённае жыццё, дасягнуць дастатку і дабрабыту. Барацьба з прымітывізмам і меркантылізмам буржуазнага мыслення дапамагала нам апраўдваць наша традыцыйнае няўменне лічыць, аналізаваць, прадбачыць.

Што непакоіць Ю. Бондарава і іншых праціўнікаў эканамічнай рэформы найбольш? Каб напрамілы бог рускі чалавек не пачаў лічыць, не насыціўся, не здабыў дастатку, нармальных умоў быту і ў гэтым сэнсе не стаў падобны на заходняга чалавека. Гэтыя пісьменнікі глыбока перакананы, што наша традыцыйная беднасць, няўмеласць ва ўсім, што датычыцца вытворчасці добрых тавараў, мае большую маральную і духоўную каштоўнасць, чым уладкаванасць заходняга быту. Больш таго, яны спрабуюць даказаць, што выпрабаванне галадоўкамі, рэпрэсіямі і традыцыйным дэфіцытам уяўляюць меншую небяспеку духоўнаму здароўю нацыі, чым выпрабаванне гаспадарчым разлікам, зацікаўленай працай, прадпрыемлівасцю і заробленым дастаткам.

Я разумею, што сталінізм як практыка, напрыклад, насаджэння калгасаў і саўгасаў быў спароджаны не толькі ідэяй чыстага сацыялізму, імкненнем наблізіць грамадства да каштоўнасцей, у імя якіх здзяйснялася рэвалюцыя. У справе «вялікага пералому» адыгралі вялікую ролю і самыя звычайныя чалавечыя слабасці і найперш прага ўлады над іншымі, улады не толькі над іх уласнасцю і працай, але і над іх душамі. Тут ужо сваё слова сказалі пісьменнікі, напрыклад В. Бялоў і Б. Мажаеў. І тут нельга не адзначыць, што ўсе элементы сталінізму як ідэалогіі непазбежна выцякалі з нашага традыцыйнага нізкапаклонства перад будучым. Такая рыса сталінізму, як імкненне да аднастайнасці, да стандартызацыі, таксама арганічна звязана з містыфікацыяй будучыні. Пачатковая недагаворанасць пра будучыню, якая так запаланіла новую інтэлігенцыю ў дваццатыя і трыццатыя гады, непазбежна павінна была нарадзіць недыферэнцыраваныя адносіны да сённяшняга. Пакуль у людзей застаюцца утапічныя ўяўленні пра будучыню, яны, у прынцыпе, не здольныя да ўдумлівай, асэнсаванай працы, да стварэння дыферэнцыраванай, г. зн. жыццястойкай рэчаіснасці.

Чалавек, перакананы ў тым, што самае галоўнае ў гісторыі адбудзецца ў будучыні, што наша жыццё і наша праца нішто ў параўнанні з унікальнасцю і казачнасцю чаканага быцця, не можа па вартасці ацаніць ні мінулага, ні цяперашняга. Ён міжволі робіцца ворагам культуры.

Разбуральніцтва — непазбежная цана за рамантычныя, нерэалістычныя адносіны да будучыні.

Заканчэнне будзе





Пётр
РОГАЎ

# ДУБІНКА Ў РУКАВЕ

Мінулай восенню ў Мінску даволі часта чуліся такія пытанні:

— Ці былі вы 30 кастрычніка на мітынгу? І яшчэ жывыя? А ці праўда, што Адамовіч і Быкаў уваходзяць у «Тутэйшыя»? Кажуць, што «Талака» б'е ўсіх, хто не хоча гаварыць пабеларуску?..

І хоць большасць пытанняў былі абсурдныя, я засмучана падумаў: у якім жа мы, журналісты (нават у перыяд публічнасці!), даўгу перад чытачамі. Інакш наўрад ці зблытаў бы хто-небудзь аб'яднанне маладых літаратараў «Тутэйшыя» з сусветна вядомымі імёнамі пісьменнікаў. Дый калі б некаторыя аўтары артыкулаў пра «Талаку» не спаборнічалі між сабою ў вынаходніцтве абразлівай лаянкі, а далі б «нефармалам» магчымасць расказаць пра сябе,— наўрад ці спатрэбілася б акадэмікам адрывацца ад справы і корпацца ў біяграфіях «талакоўцаў», пільным вокам шукаючы крымінал. Вядома, юнацкі максімалізм і невялікі жыццёвы вопыт некаторых прамоўцаў «Талакі» зрабілі ім кепскую паслугу. Адышоўшы ад дзейнасці па ахове помнікаў і ад абмеркавання філалагічных праблем, «Талака» бясстрашна кінулася ў бурныя палітычныя хвалі. І ў некаторых перахапіла дыханне... Асабліва пасля размоў пра «нацыянальныя вайсковыя фарміраванні» і прывілеі для маладых сем'яў «беларускага грамадзянства». Магчыма, гэткія тэмы хвалююць кроў у Эстоніі і Літве, але ў Беларусі, з яе традыцыйным братэрствам народаў і талерантнасцю, усё гэта гучыць проста несур'ёзна.

Але які ўзняты вэрхал, якія магутныя сілы з ліку вучоных і шаноўных ветэранаў кінуты на аб'яднанне маладых людзей, па-юнацку захопленых і па-юнацку нястрыманых на словы! Грымнулі ідэалагічныя гарматы буйнога калібру. Але замест безумоўнай перамогі атрымалася даволі сумная карціна ў стылі славутых незабыўных праборак. Вучоныя мужы, якія папрывыкалі за бурныя дзесяцігоддзі барацьбы за месца пад «навуковым» сонцам да пракурорскай тэрміналогіі (у духу незабыўнага Вышынскага), нагналі столькі страху, што ў тых, хто чытае, узнікла натуральнае жаданне зачыняць не толькі дзверы, але і аканіцы.

А цяпер запытаемся: няўжо ў Мінску няма іншых грамадазнаўцаў і прапагандыстаў, апроч тых, хто старанна забяспечваў ідэалагічнае абгрунтаванне так званага «застойнага перыяду»? Апроч «абоймы» мысліцеляў «хуткага рэагавання», заўсёды гатовай рушыць у «паход», падпарадкоўваючыся вышэйшаму загаду? Вось што адбылося мінулай восенню: усплёск грамадскай актыўнасці, стварэнне «Мартыралога», гарачыя дыскусіі ў Доме кіно і ў Доме палітасветы. Па сутнасці, гэта ўсё новыя працэсы, і вельмі шкада, што лідэрства ў іх абмеркаванні зноў захапілі людзі са старымі, мякка кажучы, поглядамі... У «Вячэрнім Мінску» першы ўзяў слова даволі вядомы ўсім У. Бягун. Ва ўласцівай яму агрэсіўнай манеры ён параўнаў Алеся Адамовіча з... дзеячам, па даносах якога былі нібыта рэпрэсіраваны ў трыццатыя гады многія беларускія інтэлігенты. Хіба гэта палеміка? Праўда, сёння «сілагізмы» Бегуна наўрад ці ўвядуць у зман многіх — занадта ж груба зроблена і разлічана на тупіц. Толькі іх цяпер вельмі мала, тупіц...

Бязумоўна, права на свой пункт гледжання мае кожны, але зусім недапушчальна, што зноў першымі на трыбуну караскаюцца і атрымліваюць месца на газетных старонках тыя, хто яшчэ нядаўна дубасіў грамадскасць, якая ўсё цярпела, кувалдай, скляпанай з цытат Брэжнева, а сёння абгарнуў гэтую кувалду вясёлым паркалікам з надпісам «перабудова».

Існуюць дзівосныя натуры — пры кожным павароце гісторыі яны першыя. «Масы» толькі пачалі вывучаць азы дэмакратыі і палемічнай культуры, вучыцца перабудове, а ідэалагічныя жакеі зноў на хвацкім кані, зноў, гарцуючы перад строем, пільна ўзіраюцца: «А хто там незадаволены? Можа, не перабудаваўся? Хутка перабудуем...»

«Урачу, вылечвайся сам»,— казалі ў даўніну. Па-мойму, у самую кропку.

Сёння ні ў кога няма манаполіі на «селекцыю», на права мець пропуск на тэрыторыю перабудовы, ніхто не можа лічыць сябе носьбітам ісціны. Але відавочна адно: тыя, хто прэтэндуе на асабістую і асаблівую ролю ў духоўным абнаўленні грамадства, проста абавязаны мець незаплямленае маральнае аблічча. А лектары, публіцысты, пісьменнікі — генератары перабудовы — павінны яшчэ раз успомніць пра адказнасць за сказанае слова, про тое, як яно адзавецца.

...На партыйным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў пажылы паэт расказаў прыціхлай зале пра сцэну, сведкам якой ён быў 30 кастрычніка. Нейкі грамадзянін спрабаваў прарвацца праз міліцэйскія кардоны на шашу, дзе стаялі групы моладзі.

— Куды вы, грамадзянін? — супакойваў яго капітан.

— Як гэта «куды»? Біць «Тутэйшых».

З рукава паліто ў яго тырчэла важкая ножка ад старога крэсла.

Капітан разгубіўся:

— За што?

— Біць іх трэба,— упэўнена адказаў грамадзянін.— Сабраліся, разумееш, па-беларуску гаворраць, гарлапаняць. Хіба дазволена гарлапаніць? Да таго ж і ў газетах пісалі, што яны фашысты.

У словах паэта прагучалі трывога і роздум:

— Вядома, такім усё роўна, каго біць. Але ці няма і нашай віны ў тым, што мы стварылі напярэдадні мітынгу ў Мінску такі эмацыянальны фон, што наш, сваёй гадоўлі чарнасоце-

нец узброіўся дубінкаю і пайшоў наводзіць блізкі яго сэрцу парадак, пры якім «не дазволена гарлапаніць»?

З гэтым немагчыма не пагадзіцца. Адыёзныя выступленні, растыражаваныя ў газетах,— колькі ў іх звычайнай дэмагогіі! Я маю на ўвазе і заўвагу аднаго аратара-рабочага аб тым, што пакуль ён працаваў у шахце, яго вучоныя апаненты елі ягоны хлеб і пачытвалі кнігі. А хто вучыў яго чытаць, хто пісаў для яго буквар — яны таксама дармаеды? Хіба вугаль можа замяніць у гэтым свеце ўсё?.. І наогул, уявіце, што кожны з нас пачне папікаць адно аднаго кавалкам хлеба.

Вось будзе перабудова!

Не ўжо, лепш не трэба!

Тым болей што ўсё гэта — спрошчаную класавую нянавісць — мы даўным-даўно праходзілі, а экзамен быў трагічны... У агульнанароднай дзяржаве не павінна быць эліты.

У рэдакцыю газеты прыйшоў ліст, падпісаны групай маладых мінчан, што прысутнічалі на адной з дыскусій у Доме палітасветы. Яны расказваюць, у прыватнасці, што сталі сведкамі наступнага пасажу. Доктар гістарычных навук А. Малашка граміў «нефармалаў» і раптам заявіў прыкладна наступнае: яму, прынамсі, стала вядома (?!), што у час застою многія з іх у Мінску здолелі сабраць мільённае багацце і цяпер збіраюцца скупляць апусцелыя вёскі і ператварыць нас (?!) у палесцінцаў... Гэта што, таксама плюралізм, клопат пра дэмакратызацыю або нешта іншае?.. Так і хочацца заўважыць: «Калі гэты доктар навук хворы, яго трэба лячыць, калі здаровы — няхай адказвае за свае словы...» Мне здаецца, што такая распушчанасць цалкам тлумачыць з'яўленне добраахвотнікаў з дубінамі ў рукавах паліто...

Жыццё і людзі робяцца іншымі, а многія публіцысты і прапагандысты, на жаль, упарта трымаюцца за зручныя і звычныя абломкі старых стэрэатыпаў.





У газеце «Літаратура і мастацтва» (дарэчы, газета стала ў Мінску не менш дэфіцытнай, чым «Огонек») з'явіўся водгук на падзеі 30 кастрычніка. Аўтар знайшоў «самаігральны» факт — у сярэдзіне дня, калі побач з Маскоўскімі могілкамі адбываліся сумныя падзеі, па рэспубліканскім тэлебачанні перадавалі нарыс пра міністра ўнутраных спраў В. Піскарова.

Перадавалі дык перадавалі. Што ж з таго? Якая тут сувязь з тым, што было каля могілак? Ніякай, натуральна. Але прачытаеш водгук і міжволі ўзнікае думка пра нейкую асаблівую і асабістую адказнасць міністра. І добра б, абмежаваўся б аўтар крытычнымі «стрэламі-персаналіямі», хай бы палюбаваўся сваёй «смеласцю» — гэта справа густу. Але ж увесь падтэкст артыкула такі: у тым, што адбылося, маўляў, вінаватыя выключна супрацоўнікі міліцыі. А вось гэта ўжо небяспечна, бо, не падумаўшы пра прычынна-выніковыя сувязі інцыдэнту, публіцыст расставіў зусім не тыя акцэнты. Узнікае натуральная думка, што ўсё: і забарона мітынгу, і наступныя дзеянні — выключна ініцыятыва міліцыі. І вось ужо ў горадзе паўзуць чуткі, вось ужо гарачыя галовы патрабуюць: «Да адказнасці!»

Я не апалагет міліцыі. Але лічу, што рабіць з яе супрацоўнікаў «крайніх» — амаральна, а падрываць агулам яе аўтарытэт — сацыяльна безадказна. Сумны інцыдэнт 30 кастрычніка прымушае задумацца пра галоўнае: чаму замест агітатараў і прапагандыстаў на сустрэчу з людзьмі прыйшла міліцыя? Ці прапагандыстам не было чаго сказаць? Не веру. Лідэр «Мартыралога» Зянон Пазняк, вядома, цудоўны аратар, але з ім можна паспрачацца. Дый паспрабаваць перамагчы ў спрэчцы. Проста не трэба баяцца дыспутаў. Прыгадаем: А. В. Луначарскі на абедзьве лапаткі раскладваў свайго апанента, высокапастаўленага князя царквы. А мы напяклі легіёны дактароў і кандыдатаў навук, а пачаць з імі аргументаваную спрэчку, адстаяць пазіцыі, пераканаць апанента няма каму...









Няўжо няма каму?..

Няўжо і надалей замест дыспуту нашы прапагандысты, а таксама камсамольскія работнікі будуць біць чалом міліцыі і прасіць яе памагчы? Спосаб, вядома, апрабаваны, калісьці ён быў універсальны, але сёння ён зусім непрыдатны. Тым болей калі кожны з нас можа ўбачыць на тэлеэкране, як сустракаецца з людзьмі і не ўхіляецца ад вострых адказаў лідэр нашай дзяржавы.

Здаецца, неблагі прыклад, а паслядоўнікаў не бачна.

Не, не трэба баяцца «Талакі», не трэба гіпербалізаваць сціплую ролю «Тутэйшых» у сучасных грамадскіх працэсах.

Бо адмаўляцца ад дыялога — значыць саступаць. Трэба ўсвядоміць, што новае — гэта вельмі настырная госцейка: яе гоняць у дзверы, а яна абавязкова пралезе ў акно. Трэба ўсяго толькі мець смеласць называць рэчы сваімі імёнамі. У прыватнасці прызнаць, што «Мартыралог» — святая справа! Памяць пра ахвяры рэпрэсій яшчэ крывавіць, і ўсім нам трэба ведаць праўду пра сталінскія злачынствы, бо толькі Праўда дапаможа нам жыць сумленна ў будучым. Але пры гэтым трэба бачыць, што ініцыятары высакароднай справы ставяць часам калёсы паперадзе каня. Некаторыя з іх, як кажуць, любяць не мастацтва ў сабе, а сябе ў мастацтве. Адсюль і некаторыя празмерныя, далёкія ад рэальнасці запатрабаванні, занадта гучны голас...

Палемічна гучыць і сам тэрмін — «Народны фронт». Безумоўна, справа не ў форме, а ў змесце. Але, здаецца, запазычаны тэрмін выклікае неразбярыху і ўжо сам па сабе падзяляе людзей. Не варта ў сённяшнім, даволі складаным грамадскім становішчы бразгаць бутафорскімі мячамі. Будзем рэалістамі. Адказнымі рэалістамі, якія разумеюць своеасаблівасць сённяшняй сітуацыі, калі сярод матываў, што выклікаюць палітычную актыўнасць, могуць быць не толькі грамадзянскія парыванні, але і жаданне пакрасавацца, «самавыявіцца», дый проста паспрабаваць, выкарыстоўваючы момант, зрабіць кар'еру.







Сёння патрэбна кансалідацыя, а не раз'яднанасць.

Разам з тым сёння ва ўсіх нас вострая патрэба ў пэўным каталізатары перабудовы, мы не павінны спадзявацца на даволі ходкі заклік «пачні з сябе». Гэты заклік недасканалы, ён вядзе да падаўлення ініцыятывы, а без яе замаруджваецца, а то і зусім глухне любое, самае прагрэсіўнае пачынанне. Сёння ніхто не павінен мець права заяўляць: «Я перабудаваўся». Сёння патрэбны грамадскі рух, які прыняў бы самы актыўны ўдзел у працэсах перабудовы, адраджэння сапраўднай культуры, у барацьбе супраць дэкрэтавання думкі, у наступе на бескантрольны, здольны сам аднаўляцца бюракратызм. Гэты рух, безумоўна, не павінен быць альтэрнатывай партыі, прафсаюзам і камсамолу. Ён павінен несці пазітыўны зарад, настройваць моладзь на стварэнне і працу. Тады ў цэнтры імкненняў будуць не схаластычныя дыскусіі пра «Пагоню», а па-сапраўднаму актуальныя і значныя праблемы, якія існуюць у эканоміцы, культуры, экалогіі Савецкай Беларусі.

Абавязковая ўмова — павінны быць адчынены дзверы для ўсіх, хто па-сапраўднаму непакоіцца лёсам перабудовы. Для партыйных работнікаў і пісьменнікаў, рабочых і студэнтаў, настаўнікаў і ўрачоў. У ім знойдзецца месца для Васіля Быкава і студэнта С. Вітушкі, першага сакратара гаркома партыі У. Галко і таго былога шахцёра, які абавязкова атрымае там урокі сапраўднай палітычнай культуры. Вельмі важна, каб гэты рух не ператварыўся ў дыскусійны клуб, дзе няспынна пераліваецца з пустога ў парожняе вадзічка пустых дэкларацый. Рух можа самым актыўным і дзейсным чынам удасканальваць нашую сістэму. У тым ліку і вылучэннем кандыдатаў у органы Савецкай улады. Ёсць, вядома, і абавязковая ўмова: актывісты, удзельнікі руху ў дапамогу перабудове, павінны штодзённа даказваць непарыўнасць слова і справы. Справай гонару для іх павінна стаць правіла: быць самымі бескампраміснымі ў дыскусіях і самымі лепшымі на асноўнай працы. На балбатуноў мы ўжо наглядзеліся! Хопіць!

Хацеў бы нехта ці не хацеў, але не спыніць грамадскай думкі! Патрэбны дыялог, патрэбна сумесная праца ўсіх, хто не на словах, а на справе лічыць сябе патрыётам і інтэрнацыяналістам. Вось толькі б у гэты рух не забраліся людзі канформныя па сваёй сутнасці, гатовыя скарыстаць заклікі перабудовы ў сваіх асабістых мэтах. Тыя, хто ўсцешыўся, прачытаўшы сачыненне Ніны Андрэевай, хто лічыць, што наша будучыня знаходзіцца ў мінулым, і тыя, каму ўскружылі галовы дэструктыўныя заклікі экстрэмістаў,— усе яны з'яўляюцца па сутнасці магільшчыкамі перабудовы.

Афармленне Аляксандра ЛЬДОКАВА

ФЕЛЬЕТОН

Павел ЯКУБОВІЧ

# МАХНЁМ НА ПРЫРОДУ!

У нашым жыцці ёсць таямніцы. З ліку вечных. Паходжанне і лёс Тунгускага метэарыта, пытанне аб тым, куды дзяваюцца лёзы для галення, а таксама заблытаны шлях членскіх узносаў шматлікіх добраахвотных арганізацый.

Я сустракаў у сваім жыцці школьнікаў малодшых класаў, якія маглі заткнуць за пояс акадэміка. Мой сусед Вася аднаго разу выклаў на стол груду членскіх білетаў, што безумоўна сведчыла аб яго неверагоднай эрудыцыі. Вася быў паўнапраўным членам Таварыства аховы помнікаў і Таварыства аховы прыроды, меў дачыненне да ДТСААФ і Чырвонага Крыжа, уваходзіў ён, натуральна, і ў Таварыства аматараў кнігі. І яшчэ некуды, я збіўся з ліку. Зачараваны надзвычайнай шматграннасцю дапытлівага юнака, я рупліва падрыхтаваўся да гутаркі з ім. Мне хацелася даведацца пра лёс Мірскага замка і рэліктаў Белавежскай пушчы, на высокім інтэлектуальным узроўні падыскуціраваць аб прафілактыцы СНІДа, хацелася таксама высветліць ягоную пазіцыю па праблемах стральбы лежачы з дробнакалібернай вінтоўкі: што важней — роўная мушка ці плаўны спуск?..

На жаль, гутаркі не атрымалася. Хлопчык Вася нічога не чуў пра Мірскі замак, вельмі цьмяна ўяўляў сабе, што такое СНІД, а па лініі Таварыства аматараў кнігі вылучаўся тым, што за апошні год не прачытаў ніводнае кнігі.

— Васіль,— здзівіўся я,— дык у чым тады выяўляецца ваш удзел ва ўсіх гэтых таварыствах? Што дае вам членства ў іх?

Вася апусціў голаў.

— Не ведаю... Але ўзносы я плачу акуратна.

Гісторыя гэтая прыгадалася мне ў няўтульнай судовай зале, дзе слухалася адна досыць нудная справа. Сяргей Вячаслававіч Кастусік, малады інтэлігентнага выгляду чалавек, з натуральным хваляваннем чакаў прысуду. Хвалявацца было ад чаго! За кароткі час Сяргей Вячаслававіч прысвоіў нешта каля трох тысяч рублёў. Не, грамадзянін Кастусік не быў начным злодзеем, не шнарыў з фомкаю па кватэрах, не браў з сумленных капеларатараў даніну. Кастусік краў грошы, выконваючы абавязкі адказнага сакратара прэзідыума Партызанскага раённага Савета Беларускага таварыства аховы прыроды. Як сапраўдны матэрыяліст, ён не чакаў ад прыроды падарункаў, а крута падпарадкаваў яе сабе.

Механізм узаемадзеяння з прыродаю быў просты. Адчуўшы чарговы прыліў любові да сябе, Кастусік падымаў трубку і тэлефанаваў у пярвічныя арганізацыі роднага таварыства. Нізавыя прыродаахоўнікі акуратна запісвалі тэлефанаграму.

— Як з узносамі?

— Поўны парадак! Стопрацэнтны ахоп!

— Гэта добра,— хваліў аматара прыроды Кастусік,— гэта сведчыць аб пазітыўным стаўленні працоўных да пытанняў экалогіі. А то, разумееш, хутка не будзе каго заносіць у Чырвоную кнігу. А энтузіязм насельніцтва нам дапаможа.

— Так,— згаджаўся аматар,— энтузіязм, ён, вядома... Вось сто пяцьдзесят рублёў сабралі за маркі. Зашапацяць лістотаю дрэўцы!

— Зашапацяць,— пацвярджаў Кастусік,— так што вы не цягніце, а тэрмінова падвязіце мне гэтую соценьку. Мы яе ўмомант апрыходуем.

Ведаў Кастусік, як трэба гаварыць з нізавымі аматарамі прыроды, каб тыя адчулі самае шчырае хваляванне за яе лёс. І таму меў рэпутацыю чалавека, гатовага легчы за зялёнага сябра пад тваранняк.

Але пры чым тут Вася, някемлівы хлапчына, які акуратна плаціў усе свае членскія ўзносы, беручы грошы ў маміным кашальку? А пры тым, што і ягоныя капейкі рабіліся важкімі кроплямі ў ручаі, што журчэў у адным напрамку — у партмане бясстрашнага байца за прыроду С. В. Кастусіка.

І што важна: амаль пяць гадоў меў сур'ёзны дадатак да сваёй зарплаты прафесійны сябра флоры і фауны. І ні ў кога не ўзнікала нават сумнення. Маркі распаўсюджваюцца! На паперы поўны парадак? Абсалютны! А куды ідуць сродкі ад марак — гэта звычайная тайна, якой нават нясціпла цікавіцца. Ёсць жа ў дзяржавы вышэйшыя, недаступныя простаму падаткаплацельшчыку інтарэсы? Вядома, ёсць. Вось і не варта быць залішне цікаўным, уносіць ажыятаж у абсалютна яснае пытанне. Ваша справа — плаціць, падтрымліваць, так сказаць, высакародныя імкненні. Усё астатняе вас не датычыць.

Такая звыклая пастаноўка справы радуе і ўзвялічвае. І мы плацім грошы са светлай усмешкаю, з гонарам за сваю далучанасць да чагосьці вялікага і важнага.

Адно толькі трохі псуе настрой. Праўда, зусім не трохі. Я маю на ўвазе інфармацыю, якая ўсё ж такі даходзіць калі-нікалі да нас, прарываючыся скрозь заслону сакрэтнасці. Напрыклад, факт аб прыродаахоўчай рабоце Кастусіка. Ці аб прывабнай ініцыятыве дзіцячага фонду, які вырашыў субсідзіраваць конкурс прыгажосці. Хіба ж не стала нам лягчэй жыць пасля гэтае навіны? Раней мы неяк наіўна меркавалі, што ў нас яшчэ не ўсё ў парадку з дзіцячымі дамамі, Дамамі дзіцяці, дый увогуле з пытаннем шчаслівага дзяцінства. Мы нават узрадаваліся заснаванню дзіцячага фонду і з пачуццём высокай адказнасці сталі адрываць ад сябе часткі зарплат і накіроўваць іх на адпаведны рахунак у банку. Дзеля дзяцей нічога не шкада! Але выявілася, што на нашыя грошы ладзяць арганізаваныя вострасюжэтныя і азартныя спаборніцтвы паміж бландзінкамі і брунеткамі. На статнасць, аб'ёмы бюста і іншыя пікантнасці.

Цікава таксама канстатаваць, што, нягледзячы на гіганцкі ахоп па лініі ДТСААФ, нашы хлопчыкі па-ранейшаму вісяць сасіскамі на турніку. Хоць у любым райкоме дадзенага добраахвотнага таварыства можна ўбачыць на поўніцу ўкамплектаваны бравымі адстаўнікамі штат. На якія сродкі існуюць дадзеныя штаты? На добраахвотныя!

А народжаныя магутным парывам кан'юнктуры таварыствы цвярозасці? Калі выстраіць, уявіўшы, у патыліцу адзін аднаму ўсіх прафесіяналаў дадзенага таварыства, якія няблага ўладкаваліся за кошт членскіх узносаў, то чарга будзе ніяк не меншая за сярэднюю чаргу ў вінны аддзел. Так і існуюць. Адны п'юць, другія пішуць паперы пра шкоду алкаголю, трэція плацяць узносы.

І ўсе задаволеныя, усе смяюцца. Хоць не смешна ведаць пра тое, што пад выглядам добраахвотных таварыстваў існуюць прафесіяналы. То барацьбы за мір, то за ахоп насельніцтва мастацкай літаратурай, то адэпты яшчэ якой-небудзь высакароднай місіі. Вядома, не ўсе яны вартыя згадкі ў адным шэрагу з Кастусікам. Дый не пра асоб гаворка. Яна — аб прынцыпе. Вось нібыта змагаемся мы з бюракратамі, носімся па гарадах і вёсках з ліхтаром — шукаем іх. А яны ж у нас пад самым бокам. На нашыя ж грошы, не надта лёгка заробленыя, існуюць.

Стаўлю кропку і задумваюся. Быць бядзе! Пасыплюцца абвяржэнні. Абвінавацяць у неразуменні важных спраў. У адным страі выступяць штатныя работнікі з розных добраахвотных таварыстваў. Суровы будзе іхні адпор крытыкану і ачарніцелю. Што ж, цікава будзе паслухаць. Асабліва вось аб чым: а куды ж усё-такі ідуць нашыя ўзносы? На якія мэты?

# ЧОРНАЯ РУЖА

Алег ЧАРНОЎ

Прызнацца, доўга не рашаўся пра гэта пісаць. Ці змагу дадаць да той праўды, што прыходзіць да нас апошнім часам адтуль, ад саміх удзельнікаў і сведкаў падзей?

А пра незвычайны музей у 119 сярэдняй школе Мінска, на адкрыццё якога мяне запрасілі, пісаць не хацелася. Хоць у стварэнне яго багата сіл і душы ўклалі і вучні, і педагогі, і, вядома, яны заслужылі добрага слова.

Але няхай не было б такіх музеяў!

Лепей бы Мікалай Васільевіч і Вера Міхайлаўна Кароткія — рабочыя з ВА «Інтэграл» — не разрэзалі стужку пры адкрыцці ТАКОГА музея.

Але ўсё гэта было.

І гучаць галасы, трывожаць памяць, сумленне...

**З ЛІСТА ІГАРА КАРОТКАГА:** *«Дзень добры, мае дарагія, любімыя Тата, Мама і Андрэй (такая арфаграфія: Тата і Мама — толькі з вялікай літары.— А. Ч.), у мяне ўсё добра, здароўе нармальнае. Мама, ты ніколі не хвалюйся, што іншы раз так доўга няма лістоў ад мяне. Са мной ўсё добра, спі спакойна і не перажывай. Мама, да нас у часць цяпер таксама прывезлі гародніну: моркву, цыбулю і бульбу. Дык мы ўранку і ўдзень ходзім на адборку лепшай гародніны.*

*Кормяць нас зусім цудоўна. Кожны дзень на абед даюць свежую тушаную бульбу, як ты ведаеш, гэта маё аб'ядзенне. Але дома ты гатуеш у сто разоў смачней.*

*Мама, Тата і Андрэй, у нас ужо таксама пачаліся халады. Днём тэмпература дваццаць — дваццаць шэсць градусаў цяпла, а ноччу — каля пяці. Так што мы ўжо ходзім у бушлатах...»*

**ВЕРА МІХАЙЛАЎНА:** «Атрымліваем позву з ваенкамата. Выклікаюць сына з бацькамі. Мы ўжо ведалі: пытаюцца, дзе хочаш служыць? Пры бацьках. Я яму перад тым сказала: «Дзе бацька...» А бацька служыў у Германіі. Я маці, вы мяне зразумейце...

А ён ваенкому адказвае: «Дзе трэба Радзіме, туды і пашліце».

Ідзём дадому. Ён маўчыць, і я маўчу.

— Чаму ж ты не сказаў, як я вучыла, сынок?

— Мама, а я што, лепшы за другіх?»

**З ЛІСТА ІГАРА КАРОТКАГА:** *«Тата, як у цябе ідуць справы, як пажываюць твае рыбкі? Напішы, як здароўе бабулі? Якая ў бабулі ў гэтым годзе бульба: добрая ці дрэнная? І наогул напішы, гэты год ураджайны ці не?*

*Мама, я тут увесь час успамінаю аб прысмаках, якія ты гатавала, і думаю, калі ж зноў буду іх есці. Напэўна, калі прыеду, аб'емся імі.*

*Мама, як здароўе бабулі Анюты? Напішы, калі ласка, і перадай ёй вялікае прывітанне».*

**ВЕРА МІХАЙЛАЎНА:** «Гэта мая мама — бабуля Анюта. А бабуля па бацьку, Праскоўя Васільеўна, жыве пад Мінскам у вёсцы Лешніца. Гэта за сем кіламетраў ад станцыі Міханавічы. Ігарок кожны выхадны і канікулы летнія праводзіў у вёсцы. Яго ўсе там ведалі. На работу безадмоўны. Прыеду ў выхадныя: «Ігарок, пабудзь з намі, адпачні!» — «Ага, мама!» А спаў на сенавале. Уранку мы яшчэ адпачываем, а брыгадзір ужо да яго: «Ігар, дапамажы з сенам!» — «Іду, іду!»

**З ЛІСТА СЫНА:** *«Мама, як у Андрэйкі ідзе вучоба — добра ці дрэнна? Што бываюць двойкі ў яго, дык яны і ў мяне былі. Але трэба іх выпраўляць, чым хутчэй, тым лепш.*

*Мама, Тата і Андрэй, як ваша здароўе? Што ў цябе, Мама, і ў цябе, Тата, чутно на рабоце?*

*Тата, калі ты ездзіў у вёску, дык напішы, як здароўе бабулі і што новага ў вёсцы?*

*Цалую Вас шмат-шмат разоў. Ваш сын Ігар».*

**ВЕРА МІХАЙЛАЎНА** (мужу). Коленька, помніш, ты вучыў яго анучы абмотваць?..

**МІКАЛАЙ ВАСІЛЬЕВІЧ.** Я кажу Ігарку: вось ты ўжо — абаронца Радзімы. А абуцца па трывозе не ўмееш. Трэніруйся давай...

А ён мне адказвае: «Не, тата, табе за мяне чырванець не прыйдзецца».

Божа ты мой! Навошта мы ўсё гэта... у такой строгасці сына выхоўвалі! Няхай бы ён у свае дзіцячыя гады гуляў колькі хацеў...

Ігар у снежні нарадзіўся. Думаў паступаць у вучылішча — ён абраў прафесію будаўніка — будзе адтэрміноўка ў ваенкамаце. Не згадзіўся. Хацеў з усімі разам на службу пайсці. А на работу без вучылішча не бралі. І вось уладкаваўся на камбінат будматэрыялаў. Як ён радаваўся! Вучнем да добрага чалавека, майстра Дудніка, прызначылі. Ён яго так паважаў! Толькі і размоў: які ў яго настаўнік, у які выдатны калектыў ён трапіў. І праца ладзіцца. Што ні дзень, то новае.

— Як у цябе справы, Ігарок?

— Тата, мяне Дуднік сёння вучыў пліткай абліцоўваць! Тата, а заўтра я працую самастойна!

У аэрапорце па вуліцы Чкалава абліцоўку рабілі і ў сталоўцы на Брылеўскай. І на камбінаце паказвалі: вось ваш Ігар пакінуў аб сабе памяць...

**З ЛІСТА КАМАНДЗІРА ЧАСЦІ:** «Ігар па прыбыцці ў часць хутка ўвайшоў у калектыў, сваёй бездакорнай дысцыплінай і стараннасцю заваяваў павагу камандзіраў. Спасцігаў на занятках тонкасці нашай сапёрнай прафесіі і лепш за многіх саслужыўцаў асвоіў яе, а ў час, які адводзіцца на добраўпарадкаванне салдацкага побыту, паказаў свае залатыя рукі... Мы пабудавалі новы ўмывальнік для салдат. Ігар прапанаваў аздобіць яго знутры пліткаю. Дальбог, такой якасці выканання работы салдатам я яшчэ не бачыў за шаснаццаць год сваёй службы ў арміі. Потым усе — і афіцэры, і радавыя — прыйшлі да аднадушнай высновы, што гэты ўмывальнік самы лепшы, зручны і прыгожы з усіх, што ім даводзілася бачыць ў Афганістане. Цяпер нававбранцам старaслужачыя салдаты кажуць: «Гэты ўмывальнік зрабіў Кароткі, будзь акуратны з ім».

**АПОШНІ ЛІСТ ІГАРА КАРОТКАГА:** *«Дзень добры, мае любімыя! Мама, Тата і Андрэй, атрымаў Вашы лісты і адразу пішу адказ. Мама, я атрымаў твой ліст з фатаграфіяй, дзе вы сфатаграфаваліся ўсе ўтраіх: Тата, ты і Андрэйка, а яшчэ раней атрымаў ліст з фатаграфіяй, дзе Андрэйка з бабуляю.*

*Мама, я вельмі ўдзячны табе за гэтыя фатаграфіі, а таксама ўдзячны за віншаванне са святам. Я Вам таксама выслаў паштоўку. Мама, у мяне ўсё добра, здароўе выдатнае, а кормяць цудоўна.*

*Мамуля, у нас зноў стала цёпла. Тата, мы перайшлі ўжо на зімовую форму адзення і цяпер ходзім не ў паўбацінках, а ў ботах. Далі цёплую нацельную бялізну. Тата, і асабліва, Мама, Вы не перажывайце, калі ад мяне не будзе доўга лістоў, галоўнае, Вы не чакайце. Тата, пятнаццатага лістапада ідзём у горы. Сам ведаеш, навошта, усё можа здарыцца, але ўсё добрае застанецца. Тата, на колькі ідзём, не ведаю, так што, можа, месяц, можа, болей лістоў не будзе. Не хвалюйся, калі ласка.*

*Мама і Тата, як ваша здароўе? Як у Андрэйкі ідзе вучоба? Тата, сёння 7 лістапада і ў нас у батальёне будзе святочны абед, усё салодкае і смачнае, але дома разам з Вамі адзначаць яго лепей.*

*Тата, як пачувае сябе бабуля, а калі паедзеш у вёску, перадай бабулі вялікае прывітанне і моцнага ёй здароўя на доўгія гады жыцця.*

*Татуля, мілы, ты не разумееш, як я цябе люблю і як мне цябе не хапае, мой дарагі, у цяжкую хвіліну.*

*Ну вось і ўсё.*

*Цалую Вас, Тата, Мама і Андрэй. Да пабачэння. Ігар.*

*7.11.84.».*

**З ЛІСТА КАМАНДЗІРА ЧАСЦІ:** «Але прыйшоў час роце, у якой служыў Ігар, ісці на баявыя дзеянні. Яна годна выканала задачы, пастаўленыя камандаваннем, і немалая заслуга ў тым радавога Кароткага Ігара Мікалаевіча, які паказаў незвычайную кемлівасць, вынослівасць, веданне справы і таму неўзабаве быў назначаны ў групу сапёраў, што забяспечвала рух разведвальнага падраздзялення ў гарах. Душманы часта мініруюць горныя сцежкі, а таму сапёры заўсёды наперадзе, правяраюць шлях. Так было і на гэты раз. 11 снежня 1984 года разведдазор указанага падраздзялення, у складзе якога быў Ігар, трапіў у засаду. Тут няма памылкі камандзіра, бо добра арганізаваную засаду ў скалах загадзя выявіць практычна немагчыма. На гэты выпадак і ідзе наперадзе дазор, каб не трапіла пад удар усё падраздзяленне. Гэта неабходная рызыка. Душманы адкрылі агонь па дазоры ва ўпор з-за скал. Ігар умомант даў чаргу ў адказ са свайго аўтамата — прыкрыў таварышаў. Практычна ўвесь агонь узяў на сябе, даючы магчымасць таварышам адскочыць за выступ скалы. Страляць Ігар навучыўся, яго сябар яфрэйтар Сімакоў бачыў, як пасля другой чаргі Кароткага адзін з душманаў зваліўся са скалы. Але тыя, што заселі, таксама стралялі, трэцяй чаргі Ігар зрабіць не паспеў...

**МІКАЛАЙ ВАСІЛЬЕВІЧ:** «Віцька Купрэйчык вярнуўся з Афганістана, ён на год пазней Ігарка прызываўся. «Дзядзька Коля, я вам перадаю вялікае прывітанне!» — «Ад каго?» — «Я сустрэў камандзіра ўзвода, з якім Ігар быў на заданні, і ён расказаў, як загінуў Ігар...

Так, іх дазор наткнуўся на засаду. Ігар быў паранены. Узяў агонь на сябе... Побач — камандзір узвода. І такая сітуацыя — каму адыходзіць?

— Вы ідзіце! — крычыць Ігар.

— Не, ты! — загадвае камандзір.

Ігар быў смяротна паранены некалькімі кулямі...

Сябры двое сутак насілі яго з сабою, каб не аддаць душманам. «Цаной жыцця Ігара я застаўся жывы,— сказаў камандзір.— Перадай паклон бацькам...»

«Міністэрства абароны СССР.

Паважаны (ая) Вера Міхайлаўна, Мікалай Васільевіч.

Паведамляю, што Ваш сын радавы Кароткі Ігар Мікалаевіч за праяўленыя мужнасць і адвагу пры выкананні баявога задання камандавання Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 20 чэрвеня 1985 года ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

Подзвіг Вашага сына заўсёды будзе яркім прыкладам самаадданага служэння нашай любімай Радзіме, Камуністычнай партыі, савецкаму народу.

Памяць пра Вашага сына назаўсёды застанецца ў сэрцах баявых таварышаў.

Ваенны камісар Кастрычніцкага раёна падпалкоўнік Руткевіч».

**МІКАЛАЙ ВАСІЛЬЕВІЧ.** У камандзіравым лісце так расказана пра гібель сына. А той чалавек, які суправаджаў яго, сказаў, што Ігар быў забіты адной куляй у горла...

**ВЕРА МІХАЙЛАЎНА.** Коленька, не трэба!..

**З ГАЗЕТ:** «10 чэрвеня 1985 года ў Афганістане загінуў мой сын (ва ўсякім разе, так напісана ў паведамленні). Мёртвым я яго не бачыла, і ніхто мне не дакажа, што ў труне быў ён. А можа, ён таксама дзе-небудзь у падземнай нары?..

Пісала я лісты ў часць, але адказамі не заспакоена, таму што камандзір піша адно, а ў афіцыйнай паперы — іншае».

«Литературная газета» ад 8 чэрвеня 1988 г.

**МІКАЛАЙ ВАСІЛЬЕВІЧ.** Не, мой сын не ў палоне... Я пайшоў у ваенкамат.

— Вы хочаце знаць праўду? — перапытаў ваенком.

— Так. Вы аддайце мне ваенны білет сына.

— Мікалай Васільевіч, я ж вам прыносіў, паказваў білет...

— Калі гэта было?

— Ладна, зараз я паклічу таварыша з аддзела, ён прынясе.

Таварыш з аддзела:

— Мы ж яго... з-за тэрміну даўнасці ліквідавалі...

— Дык вы, можа, яго спалілі?!

— Так...

— Але гэта ж памяць пра майго сына! Не можа быць, каб спалілі!

**ВЕРА МІХАЙЛАЎНА.** Коленька, супакойся!.. А вось гэты ліст Ігарок даслаў мне да дня нараджэння. (Дастае з сумачкі, якую ўсюды носіць з сабой, салдацкі канверт. У ім — танюсенькія пялёсткі ружы. Чорныя.) Гэта афганская ружа. Яна — чырвоная, пачарнела толькі...

Памятаю, пайшлі да міністра: помнік сыну ніяк не можам заказаць. Ва ўсіх граніт чырвоны, і нам хацелася сыночку...

**МІКАЛАЙ ВАСІЛЬЕВІЧ.** Гэта быў намеснік міністра. Ён мне так заяўляе: «А чаму вы спяшаецеся? Вы хадзіце на магілку, кветачкі кладзіце...»

Маладзейшы за мяне — і такі... Хто ж цябе на гэты пост паставіў? Ты мне, можа, яшчэ скажаш, па якой цане кветачкі купляць? Дарадчык!

**ВЕРА МІХАЙЛАЎНА.** Паехалі ў Калядзічы заключаць пагадненне на выраб помніка — там таксама грубасцю сустракаюць. Без нашай згоды памянялі ўмовы: нешта ў праекце абрэзалі, спрасцілі... Чаму?

«Ах, так, ну гэта табе абыдзецца ў капеечку!» — пагразіў мужу чыноўнік. Вось другое пагадненне — яно ўжо на тысячу даражэйшае... Але бог з імі, з грашыма, хаця яны нам і нялёгка даюцца...

**МІКАЛАЙ ВАСІЛЬЕВІЧ.** Крыўдна другое... Наш Ігарок павінен быў ісці на службу, скажам, сёння. А яшчэ там сынок аднаго — на машыне ўсё падкатваў — заўтра. І раптам майму — адтэрміноўка на дзень. А той на машыне прыехаў, і яго сынок пайшоў... Што я ў яго спытаю?.. І вось, сустракаю неяк яго нядаўна, а ён і кажа мне проста ў вочы: «А мой пайшоў тады ў Германію! Ужо чаго мне гэта каштавала, але сына збярог...»

Хавалі Ігара Кароткага ўсёй школай, усёй вуліцай Ландэра. І ў вёсцы Лешніца пра бяду даведаліся...

Прыехала бабуля, васьмідзесяцігадовая Праскоўя Васільеўна.

Усё помняць людзі...

Помняць гаротны крык бабулі над труною ўнука:

— Людцы добрыя, за што?!



Алена ШАБАЛІНА

# ПАВОЛЬНАЕ ТАНГА

**НАЗВА:** міжнародная маладзёжная акцыя «Пошук міру»

**ДАТА ПРАВЯДЗЕННЯ:** 1988 год

**МЭТА АКЦЫІ:** умацаванне сяброўства і ўзаемадапамогі паміж людзьмі розных краін, напісанне кнігі «Пошук міру»

**УДЗЕЛЬНІКІ:** 43 савецкія, шведскія і амерыканскія школьнікі і студэнты ва ўросце ад 16 да 18 гадоў

**МАРШРУТ:** СССР — Швецыя — ЗША

Такая вось своеасаблівая анкета паездкі, у якой мне пашчасціла ўзяць удзел. Дадам толькі некалькі слоў пра названую ў ёй кнігу. Кнігу, карпатлівая праца над якою пачалася ў дзень сустрэчы ўдзельнікаў паходу ў Маскве і працягвалася ўсе шэсць тыдняў, праведзеных разам,— у Кіеве, Мінску, Ленінградзе, Стакгольме, Вашынгтоне, Нью-Йорку, іншых гарадах Швецыі і Злучаных Штатаў Амерыкі. Гэтая кніга пабудавана не толькі на ўражаннях кожнага з нас пра ўбачанае ў новай для сябе краіне, але і на роздумах пра жыццёвыя прынцыпы, мэты, ідэалы, пра няпросты шлях да міру.

Спадзяюся, што некалькі фатаграфій, якія ілюструюць гэтую публікацыю, дадуць чытачу нейкае ўяўленне пра тое, дзе і як мы вялі пошук міру. А дадаткова я прывяду толькі некалькі дыялогаў, запісаных на сустрэчах і дыскусіях, у сем'ях амерыканцаў і шведаў, дзе нам даводзілася спыняцца, а то і проста за столікам у кафэ, у самалёце, уначы ў гатэлі.

Сустрэча ў Ленінградскім Палацы моладзі. Вядучы звяртаецца да ўдзельнікаў паходу:

— Падыміце рукі тыя, у каго ёсць якая-небудзь запаветная мара. Раз, два, тры... Дзевяць. Так... А хто можа ёю падзяліцца з намі? Адна рука?.. Прашу вас на сцэну.

— Мяне завуць Эндзі дэ Брабэр. Мне 17 гадоў. Я са Злучаных Штатаў Амерыкі, штат Мічыган.

— А як усё ж такі наконт мары?

— Я мару стаць прэзідэнтам Амерыкі. Мару і стану ім. Калі мне будзе гадоў сорак.

Мая суразмоўніца — Ліэн (ЗША, Каліфорнія), 16 гадоў.

— Эндзі... Я хацела б, каб ён стаў прэзідэнтам. Тады б я жыла спакойна. Ён жа такі добры! Ён у бога верыць. Ён усім гатовы дапамагчы.

— А якая твая запаветная мара, Ліэн?

— Я хацела б, каб на ўсёй зямлі спыніліся войны, каб ва ўсіх людзей былі роўныя правы. А яшчэ я марыла б з'ездзіць зараз з усімі маімі новымі сябрамі да мяне дамоў, у Фостэр Сіці... Як шкада, што гэта немагчыма!

Андэрс (Швецыя), 17 гадоў.

— Андэрс, можна пытанне?.. Толькі што, калі афіцыянт пацікавіўся, што ты будзеш піць, ты адрэзаў: «Усё, што хочаце, толькі не напоі кампаніі «Кока-кола». Чаму?

— Гэтая кампанія — амаль мой асабісты вораг. Мяне прыгнятае, што «Кока-кола» знайшла цёпленькае месца для збыту сваёй прадукцыі ў краінах «трэцяга свету».

— А што ў гэтым дрэннага?

— Тое, што кампанія робіць сваімі ахвярамі непісьменных і даверлівых людзей. «Купляйце сваім дзецям напоі кампаніі «Кока-кола», і яны будуць такія ж шчаслівыя і здаровыя, як і нашы дзеці»,— крычаць стракатыя рэкламы з амерыканскімі дзецьмі, якія радасна, бесклапотна ўсміхаюцца. І ў халупах, дзе няма малака, прадуктаў харчавання першай неабходнасці, з'яўляюцца яркія шкляначкі з «Кока-колаю», шкляначкі, напоўненыя хіміяй. Хварэюць дарослыя, паміраюць ад голаду дзеці. А банкаўскі рахунак кампаніі расце і расце. Вось я і вырашыў выказаць свой асабісты пратэст. І мяне падтрымалі вельмі многія сябры ў Швецыі.

Дэн (ЗША, Паўночная Караліна), 16 гадоў.

— Што цябе больш за ўсё ўразіла ў нас, Дэн?

— Руская ўсмешка. Увогуле, і ў амерыканца заўсёды на твары ўсмешка. Але яна нейкая не такая. Яна занадта абавязковая, дзелавая, дзяжурная. Праўда, у мяне ёсць сябар, які ўсміхаецца заўсёды шчыра. Я вельмі ганаруся ім, лічу яго лепшым сябрам на ўсёй зямлі. І калі думаю пра яго, то перш за ўсё бачу яго цудоўную ўсмешку. Цяпер я згадаў пра сябраву ўсмешку невыпадкова. У Савецкім Саюзе ўсміхаюцца так — адкрыта і шчыра. Як сапраўдныя сябры. Так могуць усміхацца толькі вельмі добрыя людзі.

Барт (ЗША, Масачусэтс), 17 гадоў.

— Не, убачыць сацыялізм на амерыканскай зямлі я не хацеў бы. Навошта? Я досыць шчаслівы пры капіталізме.

— А што такое шчасце, Барт?

— Шчасце — мажлівасць мець усё, што я хачу. Купляць і бачыць усё, што хочацца, шмат падарожнічаць.

— Значыцца, ты не звязваеш сваё шчасце ні з кім, акрамя сваёй асобы?

— Але ж ты спыталася пра маё шчасце. Пры чым тут усе астатнія?

— Няўжо ты можаш быць цалкам шчаслівы, калі вакол столькі няшчасных людскіх лёсаў?

— Што ты маеш на ўвазе? Жабрацтва — гэта, вядома, праблема. А калі ты аб раса-

Заканчэнне на стар. 33.







# НАШЭСЦЕ

Хуан Анхель КАРДЗІ

Яны наблізіліся з вялікай хуткасцю, праімчаліся праз усё сяло і спыніліся каля невялікага вясковага парку. Пакуль адны разгортвалі нейкія стракатыя плакаты, другія старанна выдзьмухвалі са сваіх дудак гукі нацыянальнага гімну. Іх было чалавек дваццаць, і кожны трымаў у руках маленькі чамаданчык і яшчэ нейкую нікому не вядомую рэч. Хвілін праз дзесяць, пад пільным наглядам лейтэнанта Кіраса, з другога канца парку насустрач ім асцярожна рушылі трыццаць чатыры салдаты і сяржанты, што складалі гарнізон Старога Сяла. Той, што, здавалася, быў верхаводам незнаёмцаў, ужо зрабіў некалькі крокаў, як сяржант Малакара адважна высунуў з-за дрэва пісталет і грозна загарлаў:

— Ні з месца! Страляць буду!

Пярэдні дзяцюк спыніўся так рэзка, што яго ная нага так і засталася ў паветры. Пот пачаў ператварацца ў іней, і ён асцярожна дастаў з кішэні хусцінку, каб выцерці лоб. Бравы ж лейтэнант зразумеў гэты жэст як сігнал да перагавораў.

— Што, здаліся? — выгукнуў ён, высоўваючыся з-за аўтамабіля.

Але ўсе невядомыя, аточаныя салдатамі, ужо і так трымалі рукі ўгору. З выглядам пераможцы, які хоча прадыктаваць самыя суровыя ўмовы капітуляцыі, лейтэнант Кірас наблізіўся да варожага камандзіра. Яны яшчэ вялі перамовы каля дзвярэй царквы, як з'явіліся Гічэ Перэс з велізарным «Томпсанам» у руках і Ларэнса Авэнданья ў цірольскім капелюшы і з дубальтоўкай за плячыма.

— Да вашых паслуг, лейтэнант,— сказалі яны дуэтам.

— Дзякуй, сеньёр алькальд. Дзякуй, шаноўны Гічэ. Тут нічога асаблівага не здарылася, хаця б і магло... Аднак ваш учынак варты занясення на скрыжалі гісторыі, бо сведчыць пра тое, што ваенныя і цывільныя ўлады — адзіныя ў сваіх імкненнях падтрымліваць парадак, чаго б гэта ні каштавала.

— А гэтыя сеньёры, хто яны? — прамармытаў алькальд.

Рогат лейтэнанта Кіраса аглушыў усё наваколле.

— Гэта мыльнікі! — выгукнуў ён.

— Фабрыканты мыла? — пацікавіўся Гічэ.

Камандзір былых ворагаў паспяшаўся растлумачыць:

— Мы агенты «The American Beauty Trust Company» ў Нью-Йорку.

І пакуль Авэнданья і Перэсківалі галовамі ад глыбока інстынктыўнай пашаны да англійскай мовы, той дадаў:

— Мы прыехалі з высакароднай місіяй зрабіць больш прыгожымі жанчын гэтага маляўнічага сяла.

Перэс усміхнуўся, а Авэнданья пацінуў плячыма. І толькі тут да ўспацелага хлопца вярнуліся страчаныя рэфлексы, і ён змог апусціць паднятую нагу.

Па сігнале трубы салдаты адступілі, а місіянеры прыгажосці ўзнялі страшэнны гвалт сваімі дудкамі, пакуль іхні правадыр, разглядаючы план сяла, даваў стратэгічныя ўказанні. Тактыка ж была вельмі простая. Кожны вандроўны рыцар прыгажосці з дастаўкай на дом стукаўся ў дзверы, ветліва пытаў у гаспадыні дазволу зайсці ў хату і даставаў з чамаданчыка два срабрыстыя пакеты, шэсць флаконаў з каляровымі налепкамі, дзве пяцікутныя скрыначкі і чатыры круглыя шкатулкі. Потым, не марудзячы, хапаўся за свой таямнічы прадмет, які быў усяго толькі круглым футаралам чырвонага дрэва з даўжэзнай стужкай усярэдзіне. На стужцы былі запісаныя шматлікія пытанні анкеты, складзенай ці то вялікім інквізітарам Тарквемадам, ці то нейкім вясёлым жартаўніком-пісьменнікам.

— Ваша імя, калі ласка? — спытаў адзін з крыжакоў у жонкі Анорыя Саморы.

— Віялета Флорэс,— зацікаўлена адказала тая, апускаючы вялізныя, амаль на ўвесь твар, вочы.

— Выдатнае імя. А ваша другое прозвішча?

— Перэс.

— Ваш узрост, даруйце маё нахабства?

Хуан Анхель Кардзі — вядомы кубінскі пісьменнік, аўтар шматлікіх апавяданняў, аповесцяў і раманаў. Доўгі час працаваў у сатырычным часопісе «Палантэ». Тады ім быў напісаны зборнік кароткіх сатырычных апавяданняў, які называецца «Аповяды Старога Сяла». За гэты зборнік Хуан Анхель Кардзі атрымаў прэмію Палітычнага ўпраўлення Рэвалюцыйных узброеных сіл Кубы.

— Трыццаць гадоў.
— Вы выглядаеце нашмат маладзей.
— Дзякуй,— і веі затрымцелі, як птушыныя крылы.
— Замужам?
— Ага,— уздыхнула сеньёра Самора.
— Як звалі вашых бацькоў?
— Нікалас і Тамаса.
— А як завуць вашага мужа?
— Анорыя Самора Тудэліа.
— Яго ўзрост?
— Сорак два гады.
— Колькі гадоў вы замужам?
— Дзевяць.
— Дзеці ёсць?
— Двое. Дзяўчынцы сем, а хлопчыку два месяцы.
— Якое супадзенне! У маёй сястры хлопчыку чатырнаццатага таксама будзе два месяцы. Роды праходзілі нармальна?
— Чаму ж не?
— Вельмі добра. З вашага дазволу...

Чароўны інквізітар выцягнуў з кішэні кравецкі сантыметр і нейкую бліскучую прыладу. Сантыметрам ён змерыў рост, бюст, сярэдзіну, сцёгны і ногі здзіўленай сеньёры Саморы, а невядомым інструментам — нос, глыбіню насавой поласці, адлегласць паміж краямі вачэй, перыметр ілба, шырыню рота, таўшчыню вуснаў, дакладную форму вушных ракавін, абрыс твару Віялеты Флорэс, словам, атрымаў усе звесткі, якіх патрабавала анкета. Нарэшце ён цмокнуў языком і спытаў:

— Вы калі-небудзь фарбавалі валасы?
— Крый божа!
— Чаму?
— Таму што Самора забіў бы мяне.
— А ці часта вы ходзіце ў цырульню?
— Пра якую цырульню ты кажаш, чалавеча?
— Як? У вас няма цырульні?
— Ані блізка! Ёсць у гарадку за шэсць кіламетраў адсюль, але мае сяброўкі кажуць, што лепей ужо схадзіць у Санта Клару, калі хочаш зрабіць добрую прычоску.
— Значыць, вы робіце прычоску сваімі рукамі?
— А хто ж мне будзе рабіць?
— А што вы ўжываеце для прычоскі?
— Грабеньчык, чалавеча!
— Я хацеў спытаць, якія брыльянцін вы ўжываеце: вадкі ці цвёрды?
— Ніякі.
— А шампунь?
— Таксама ніякі. Каб змякчыць валасы, лепей за ўсё бялок з яек, а каб завіць — піва.
— Выбачайце, сеньёра, але ж гэтыя сродкі не прызнае навука і забараняе рэлігія. Якім мылам вы мыецеся?
— Якім прыйдзецца.
— А твар?
— Што? Ці ж так мыюцца — адным мылам твар, а другім — усё астатняе?
— Уявіце, сеньёра, мыюцца.
— Святая Марыя!
— Зрабіце ласку, скажыце, якую пудру вы ўжываеце і якога колеру?
— Шкарлупінкі ад яек. Іх кладуць на сонца і добра таўкуць...

Тут інквізітар перапыніў яе магутнай, асляпляльнай усмешкай:

— Вы ўжываеце руж?
— Які руж?
— Ну, румяны!
— Збаў божа!
— Зноўку Самора?
— Ага. Ен бы мяне забіў, калі б знайшоў румяны ці памаду.
— Які дзікун! Скажыце, як вы перажылі пубертатны перыяд?
— Перажыла што?




— У вас былі калі-небудзь прышчыкі на твары?
— Не, не было,— адказала Віялета, адводзячы вочы.

Маладзён зазірнуў у «Табліцу параўнання і ацэнак эстэтычных фактараў», задаў, можа, яшчэ з тузін пытанняў, памножыў чатырохзначную лічбу на трохзначную, атрымаў у выніку восемдзесят шэсць і чатыры дзесятыя і абвясціў:

— Шаноўная Віялета, я вельмі рады паведаміць вам, што будова скуры ў вас — сто шэсць і адценне адпаведна — пятнаццаць ікс працяжнік адзінаццаць. Гэта значыць, што вам патрэбна апрацоўка эл дзевяць на корань квадратны з чатырох. Гэта навуковая апрацоўка, ідэнтычная той, што ўжывалі царыца Саўская, Семіраміда і Клеапатра, а таксама імператрыцы Кацярына, Жазефіна і Марыя Хрысціна, а яны, як вядома, па прыгажосці не мелі роўных. Вы — каралева і імператрыца дамашняга агменю і маеце пад рукой сакрэт вечнай маладосці, як і вядомая Нінон Ленкло, прыдворная дама, якая ў свае сто два гады пятнаццаць раз выходзіла замуж і ніхто гэтаму не здзівіўся. І наадварот, Папэа была б заўсёды маладой, калі б не гнятучая жорсткасць яе мужа. Урэшце, сеньёра, ужываючы нашу апрацоўку скуры эл дзевяць на корань квадратны з чатырох, вы зробіцеся аб'ектам захаплення ўсіх мужчын і зайздрасці жанчын. У першую чаргу вы павінны мыцца нашым гіпермылам «Камоліве», выраблёным з малака самых высокапародных асліц, чысцейшага экстракту какосаў з вострава Барнеа, аліўкавага алею, папярэдне падверг- нутага электроннай мацэрацыі, звышмяккага ланаліноlю і вітамінаў А, В, С і К. Усё гэта строга дазіфікавана ў самых новых і самых вялікіх лабараторыях свету амерыканскімі вучонымі. Каб дасягнуць поўнай прыгажосці, вы павінны тры разы на дзень мыць твар нашым ультрамылам «Пальмай». Цудоўным мылам, сакрэт якога знайшлі ў егіпецкім папірусе, напісаным за 10 839 гадоў да нараджэння Хрыстова, а ў тую эпоху, як вам вядома, жанчыны не ведалі брыдкасці зморшчын, іхняя скура была аксамітна-свежая, бліскучая і мяккая. Дзякуючы гэтаму, скура адной вавілонскай жанчыны, якая памерла 3208 гадоў таму, засталася такая далікатная і маладая, нібыта яна сканала ў мінулы чацвер. Сеньёра, ад ужывання мыла «Пальмай» сыдуць назаўсёды падобныя на курыныя лапы зморшчыны, якія так псуюць ваш тва... вашы дзівосныя вочы, назаўсёды знікнуць гэтыя брыдкія барозны пад вачыма. Вашы зубы, чароўная Віялета, адносяцца да групы эм тры адзін і патрабуюць пасты «Гольсадэнт», якая праз дзевяноста дзён зробіць іх перламутравымі, бо стварае празрыстую ахоўную плеўку, аднолькавую па фізічна-хімічнаму саставу з той, што выраб- ляюць сапраўдныя перліны.

Тут гаварыльная машына ў абліччы добрапрыстойнага юнака зрабіла кароценькую паўзу, каб працягваць усхваленне незвычайных якасцей таго, што было ў ягоным арсенале.

Віялета Флорэс слухала яго разявіўшы рот. Раптам выраз яе твару рэзка змяніўся: з прыдуркавата-зачараванага стаў разгубленым і спалоханым. Для параўнання такіх з'яў у хлопца не было табліцы, а таму ён не зразумеў нічога і працягваў, не заўважаючы, што робіць амаль непрыстойныя жэсты.

— Усё гэта, гэтыя тавары, каштуюць дзевяць песа і семдзесят пяць сэнтава, але «The American Beauty Trust Company» ў Нью-Йорку, палаючы філантрапічным жаданнем зрабіць кубінскіх жанчын больш прыгожымі, прапануе поўны набор з адзінаццаці прадметаў усяго толькі за чатыры песа і дзевяноста дзевяць сэнтава. Да кожнага прадмета дадаецца інструкцыя для правільнага карыстання імі.

Невядома, ці рабіў ён тыя непрыстойныя жэсты, не маючы на ўвазе нічога такога, а дурніца Віялета зразумела іх на свой капыл і пачала адсоўвацца як мага далей, ці то гэта была толькі частка ягонай гандлёвай тактыкі, але рыцар прыгажосці паціху, як воўк, падступаўся да жанчыны.

— Добра пачытайце інструкцыю, як трэба карыстацца мылам «Камоліве», прыгажуня,— цурчэў ягоны мядовы голас.— Не ўсе ўмеюць правільна мыцца. Перш за ўсё павольна-павольна распраніся. Памятай, што мыццё — гэта не толькі фізіялагічная патрэба, але і ні з чым непараўнанае задавальненне. Мы павінны мыцца з асалодай, не спяшаючы. Распрануўшыся, уважліва даследуй сваё цела ўваскрэслай Венеры (тут будучая кліентка, амаль загнаная ў кут, нешта здушана выгукнула), пусці ваду і паціху намыльвайся, пяшчотна, лёгенька, далікатненька прашаруй усе часткі свайго цела. Асабліва інтымныя часткі. Хочаш, я пакажу табе гэта зусім без грошай? Ты ведаеш, што такое інтым?..

Скончыць ён не паспеў. Жанчына раптам голасна заенчыла, а вандроўны рыцар прыгажосці адчуў моцны ўдар па галаве. Нібыта ў роздуме, як мякчэй і зручней зваліцца, ён павярнуўся і ўбачыў мужчыну з доўбняй у руцэ.

Гэты малады герой быў не адзінай ахвярай сяроду захопнікаў з амерыканскай кампаніі жаночай прыгажосці ў Нью-Йорку. Пасля падліку страт выявілася, што адзінаццаць чалавек атрымалі пашкоджанні розных ступеней цяжкасці. Нашэсце мыльнікаў было адбіта, бо, на шчасце, у Старым Сяле жылі ў большасці такія, як Анорыя Самора.

**Пераклаў з іспанскай Якуб ЛАПАТКА**



Адам Глобус

# МІНСКІ АВАНГАРД

## НАТАТКІ БЫЛОГА МАЛАДОГА І ЛЕВАГА МАСТАКА

### У КАБІНЕЦЕ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Той дзень я запомніў. На запыленым асфальце ў нашым двары валяліся кветкі. Хавалі Рыгора Семашкевіча, які выпаў з акна на пятым паверсе. Беларуская інтэлігенцыя з купленымі букетамі ў руках развітвалася з літаратарам. А тым часам, пад гукі пахавальных маршаў, кватэрны злодзей абрабаваў Уладзіміра Караткевіча.

Так ужо атрымалася, што той дзень я аднаўляў потым у памяці ледзь не па хвілінах. Дзе! З кім! Як! Калі! Колькі!

Два следчыя запрасілі мяне на размову ў кабінет, дзе я чатыры гадзіны запар надыктоўваў ім хроніку таго дня. Пісалі яны па чарзе, я спачуваў следчым, бо ім жа давялося ехаць з Мінска ў Мсціслаў, дзе я працаваў на рэстаўрацыі баракальнага сценапісу. Ад Мсціслава да Мінска больш як 300 кіламетраў, і крыміналісты праехалі 12 гадзін (у абодва бакі) аўтобусам, каб разбурылася досыць лагічная версія, паводле якой малады мастак абкрадае свайго суседа — вядомага пісьменніка, а нарабаванае хавае ў былым саборы, дзе-небудзь у прапахлых цвіллю глыбокіх сутарэннях. Версія, як і кожная сапраўдная лагічная пабудова, узнікла не на голым месцы і не беспадстаўна. Сярод знесеных скарбаў быў і невялічкі (10×12 см) рускі абразок у зашклёным футарале, звычайная танная атрыбутыка праваслаўнага культу, якая шырока тыражыравалася на самым пачатку стагоддзя. Сваімі досыць агрэсіўнымі развагаманнямі я, здаецца, пераканаў дасціпных следчых, што злодзей не разбіраецца ў мастацтве, калі бярэ бляшаны футарал і пакідае вісець на сцяне драўлянага анёла XVIII стагоддзя. Мы пашкадавалі, што скульптуры не ўмеюць гаварыць, а потым яшчэ з гадзіну абмяркоўвалі іншае здарэнне. У мсціслаўскіх музыкаў, што лабалі на танцпляцоўцы ў скверыку, таксама перанаселеным нямымі сведкамі — мядзведзямі і аленямі вытворчасці аптымістычных 50-х,— зніклі барабаны. А я, як на зло, напярэдадні крадзяжу прыходзіў на гэтую, тры разы мне не патрэбную пляцоўку і слухаў іх местачковы рок — «наш калгас багаты, сто чатыры хаты»... Самае дзіўнае для следчых было тое, што я доўга прастаяў у пазычаным (таксама падазрона) плашчы пад дажджом, а на танцы не завітаў ніводзін чалавек. Уначы знікла бубнарская ўстаноўка і мікрафон. Адзіным падазроным, на думку правінцыяльных рокменаў, быў чалавек з касцёла ў плашчы з капюшонам, гэта значыць я. Усе гэтыя следствы і знікненні мяне не хвалявалі, цікавіла іншае...

Для аматараў дэтэктыўнага жанру паведамляю. Кватэрнага злодзея, што «паставіў» трохпакаёўку Уладзіміра Караткевіча, не знайшлі. Куды падзеліся мсціслаўскія барабаны, не ведаю. Так што пытанні засталіся. А тады мяне ўсхвалявала іншае. Чаму злодзей не ўзяў сапраўднага жывапісу! Хаця б той самы эцюд Сергіевіча, які я перацягнуў на новы падрамнік і пакрыў лакам, ці, скажам, нацюрморт Астравуха, што ўпадабаў і папрасіў мяне падарыць гаспадар кватэры. Чаму засталіся некранутыя графічныя аркушы Кашкурэвіча і Капеляна, як і баракальныя скульптуры! Акрамя двух невялікіх анёлаў, у куце стаяў белы апостал. Чаму на паліцах засталіся каштоўныя кнігі, а знікла безгустоўна-кічовае мельхіёравае вядро для ахалоджвання пляшак шампанскага! Я, вядома, мог адказаць на ўсе гэтыя пытанні, але не мог пагасіць крыўды. Мне было крыўдна як мастаку, таму што злодзей, як ніхто іншы, паказаў стаўленне грамадства да мастацкіх твораў і, зрэшты, да саміх мастакоў і літаратараў.

Калі я вярнуўся ў Мінск, дык зайшоў да Караткевіча, каб распавесці пра следчых і пагаварыць пра Мсціслаў. Уладзімір Сямёнавіч пісаў кнігу пра гэты старажытны горад, з якой пасля смерці аўтара пільныя рэдактары выкасавалі шматлікія абзацы з фактамі накшталт таго, што ў 1654 годзе князь Трубяцкой спаліў Мсціслаў і выразаў 30 000 чалавек у 33-тысячным горадзе, а тых, хто застаўся, і па сёняшні дзень не-не дый назавуць «недасекамі».

Мы сядзелі на канапе ў пракураным, застаўленым кніжнымі стэлажамі кабінеце і палілі «Беламор». Тады Караткевіч паскардзіўся мне на свой літаратурны лёс. Ён пакутаваў, што вымушаны пісаць дэтэктыўныя і прыгодніцкія гісторыі, каб людзі чыталі па-беларуску. Але мне ён параіў паспрабаваць пісаць сур'ёзную паэзію і прозу, і толькі калі не атрымаецца, не пойдзе, перайсці на фантастыку і ўлічыць густы і цікаўнасць большасці. Пасля Караткевіч распавёў мне сюжэт свайго новага (не ведаю, ці напісаў ён яго) апавядання пра Францішка Скарыну.

Маладую прыгожую жанчыну абвінавацілі ў тым, што яна задавіла сваё немаўля. Нарадзіла і задавіла. Жанчына пераконвала следчых, што дзіця яе нарадзілася мёртвае. Пераконвала, але давесці не змагла, бо сведкаў не мела. Пакутніца звярнулася да Скарыны. Той у прысутнасці следчых выказаў такое меркаванне: калі дзіця было жывое, дык крычала і ў лёгкіх павінна застацца паветра, а калі яно нарадзілася нежывое, тады паветра ў лёгкіх няма. Скарына дастаў лёгкія дзіцяці і апусціў іх у місу з вадою. Паветра ў лёгкіх не было. Так Францішак Скарына выратаваў жанчыну ад вогнішча.

Караткевіч наліў мне пачастоўную стограмоўку гарэлкі і зварыў вялікі кубак кавы. Мы пілі каву, калі ён сказаў, што скончыць жыццё самагубствам — вельмі цяжка, і сам ён не можа гэтага зрабіць, бо не разумее смерці і таму застаецца толькі піць і пісаць так званую гістарычную прозу.

У кабінеце над дзвярыма вісела літаграфія Капеляна — славянскі князь з воямі, што ашчэрыліся дзідамі і мячамі.

«У яго іншы шлях,— сказаў Караткевіч і кіўнуў на чырвона-бронзавую літаграфію.— Ён з'ехаў, эмігрыраваў. Ён меў магчымасць з'ехаць. А куды можам з'ехаць мы!»

### СТАГОДДЗЕ КАЗІМІРА МАЛЕВІЧА

З мастакоў, што з'ехалі за мяжу, асабіста я ведаў двух — Барыса Заборава і Віктара Паўлоўскага.

Калі пасля восьмага класа я вырашыў паступіць у мастацкую вучэльню, мае бацькі зусім не ўзрадаваліся. Яны добра ведалі законы, паводле якіх жыў мінскі мастацка-літаратурны свет, і хацелі, каб я стаў матэматыкам. Таму і запрасілі Заборава, каб той паглядзеў малюнкі і адгаварыў мяне займацца няўдзячнай справаю. Ён акуратна перакладаў мае гуашы,



Барыс ЗАБОРАЎ. «Кампазіцыя»

што я падрыхтаваў, склаўшы стосам на стале. Ён пытаўся пра назвы кожнага малюнка. І, на здзіўленне маёй маці, пачаў тлумачыць, як трэба паводзіць сябе на экзаменах: што лепей стаць бліжэй да акна, каб нацюрморт, які трэба будзе напісаць акварэллю, меў як мага меней ценю і выглядаў больш сакавіта і кантрастна. Маці спыталася, а чаму ён вырашыў, што я павінен паступаць. Забораў пажартаваў, што вырашыў не ён, а я сам, і што чалавек, які адрознівае Сезана ад Ван-Гога, абавязаны займацца жывапісам.

Сезан і Ван-Гог з'явіліся ў ягоным адказе не са столі: на кніжнай паліцы стаяў куплены бацькам і выпэцканы мною ў краплак том лістоў Ван-Гога, а на сцяне вісела вялікая рэпрадукцыя з сезанаўскага нацюрморта.

Забораў з'ехаў, калі я ўжо займаўся ў інстытуце і разам з тэмпераментнымі аднадумцамі рабіў «рэвізію» кубізму. На першых курсах усе лічаць сябе геніяльнымі, і я, на жаль, не быў выключэннем. Пэндзлем, шырынёю ў два сантыметры, я «квасіў» двухметровыя палотны, ляпіў на іх этыкеткі ад клею і віна ды пісаў словы накшталт: бум, трах, перамога, воля... Манументальнае мастацтва я лічыў адзіным вартым сапраўднага мужчыны заняткам. Напэўна, таму рафінаваныя манерныя ілюстрацыі Барыса Заборава да містычных казак Аскара Уайльда мне не толькі не падабаліся, а выклікалі саркастычны смех. А вестка пра ягоны ад'езд праляцела лёгкім сентыментальным халадком. Апошні раз мы выпадкова сустрэліся ў холе Дома літаратараў, куды Забораў прыходзіў абедаць. Мы павіталіся — і ўсё...

Калі ў размаітым артыкуле пра Алега Цалкова ў «Литературной газете» з'явілася характарыстыка «тогда еще нищий Борис Заборов», я вельмі, не кажучы больш, здзівіўся сцвярджэнню Еўтушэнкі, бо ніколі не бачыў жабрака Заборава. Я ведаў знарочыста модна апранутага барадатага мастака з падкрэсленым заўсёдным пачуццём уласнай годнасці. Адзін бэжавы вельветавы, у шырокі равок, касцюм (1977 — самы піск) чаго быў варты!! Усе кабеты і дзяўчаткі азіраліся і заглядаліся. А чорны капялюш з шырокімі палямі!..

Я ведаў графіка Барыса Заборава, якога паклікаў да сябе ўсё яшчэ модны Парыж.

«Нищим» быў Віктар Паўлоўскі. Ён таксама насіў капялюш, але было ўражанне, што гэты капялюш доўга і неакуратна насілі і да яго. А скураны плашч, што ратаваў гаспадара ад дажджу і снегу, прыплыў калі не з 20-х, дык з 40-х дакладна.

Майстэрня Паўлоўскага была ў доме,

з якога выселілі людзей, бо збіраліся знесці, але чамусьці не зносілі. У ёй было цёмна і пахла вільготнымі паперамі і анучамі.

У гэтай майстэрні мінскія мастакі і святкавалі стагоддзе аднаго з найвялікшых мастакоў нашага часу Казіміра Малевіча. Правесці афіцыйнае святкаванне ўлады адмовіліся.

Мы з Уладзімірам Сцяпанам дапамагалі Паўлоўскаму зрабіць у майстэрні невялікую выставу. Ён займаўся тады геаметрычным абстракцыянізмам, задзьмухваў з аэрографа мутна-зеленкаватыя пласкасныя кампазіцыі і быў на той час самы блізкі да творчай спадчыны віцебскай школы 20-х гадоў.

На святкаванне сабралася чалавек дваццаць. Тады яшчэ левыя Алесь Марачкін і Алег Мацієвіч прынеслі свае палотны і паставілі каля сцен. У Марачкіна былі сціплыя зімовыя краявіды, і ён жартоўна паведаміў, што на адным з іх намалявана царква, у якой хрысцілі Малевіча. Алег Маціевіч выставіў аўтапартрэт, праўда, пазнаць яго было цяжкавата, але попельны каларыт і тэмпераментная манера пісаць кампенсавалі, вядома, часткова, непазнавальнасць. Жывапісец Маркавец карцін не прынёс, ён прывёў сваю сястру, гожую русявую беларусачку, і зрабіў яшчэ на парозе заяву, што ён не авангардыст, а сумленны афіцыйны мастак, які малюе ветэранаў працы.

Пачалося свята досыць традыцыйна, сухім дакладам пра жыццё і творчасць сусветна вядомага мастака. Паведамленне рабіў Міхась Раманюк, які пазней узначаліў рэдакцыю часопіса «Мастацтва Беларусі». Таго самага часопіса, у якім пры Раманюку была Беларусь і амаль не было мастацтва, а пасля Раманюка няма ні таго ні другога.



Барыс ЗАБОРАЎ. «Кампазіцыя»

Алесь Разанаў вельмі запамінальным голасам пачытаў свае новыя кароткія паэмы.

А потым пачаліся спрэчкі пра нацыянальныя і агульнаславянскія матывы ў Малевічавых колеразлучэннях. Маркавец тэмпераментна трос часопісам «Амерыка» з глянцавітымі адбіткамі з супрэматычных палотнаў. Паўлоўскі ў шызых спартыўных штанах з адвіслымі каленямі і сінім, брудным па-мастакоўску халаце вельмі расхваляваўся. Ён размахваў рукамі, не раўнуючы, што вятрак, высока задзіраў рэдкаватую рудую бараду і даводзіў прыземленым этнаграфістам (тэрмін з'явіцца значна пазней, каб хоць неяк акрэсліць гурт беларускіх мастакоў, што малююць наміткі і ручнікі з нацыянальнымі арнаментамі) пра касмізм Малевічавых архітэктонаў. Яго ледзь супакоіла сястра Маркаўца.

Мы з Уладзімірам Сцяпанам, які нават не думаў, што калі-небудзь стане весці тэлеперадачы «Літаратурная Беларусь», злосна смяяліся, проста душыліся смехам. Мы ж былі на першым курсе мастацкага інстытута і, адпаведна,— геніяльныя.

З'яўленне на стале шклянак і пляшак з «Кабернэ» канчаткова згасіла страсці, колькасць віна не дала новай энергіі і свята скончылася сціпла і ціха.

Калі быць дакладным, дык Віктар Паўлоўскі не пакінуў Радзіму і не з'ехаў — ён уцёк. Ён не мог напісаць заяву на выезд, не мог арганізаваць выклік з-за мяжы і фіктыўны шлюб, ён змог толькі падмануць і ўцячы.

А здарылася гэта так. Беларускім мастакам дазволілі ездзіць на экскурсіі ў Парыж. Групу экскурсантаў фарміравалі ледзь не за год да падарожжа. Правяралі, пераправяралі, удакладнялі, пераўдакладнялі, збіралі даведкі і характарыстыкі, патрабавалі медыцынскія аналізы... Ну, як звычайна. Некага выкрэслівалі са спіса, некага перасоўвалі з асноўнага складу ў рэзерв. Паўлоўскі, як не зусім надзейны (абстракцыяніст), быў у рэзерве. Толькі нехта на некага з асноўных накатаў данос за некалькі дзён да ад'езду, месца вызвалілася, і Паўлоўскі апынуўся зусім побач з Манмартрам. А ў горадзе Парыжы за два дні да запланаванага вяртання ў сталіцу БССР сышоў з гатэля і не вярнуўся. Яго шукалі. Але дзе ж ты знойдзеш, калі чалавек не хоча, каб яго знайшлі за два дні. Вось з-за гэтай выхадкі большасць нашых мастакоў страціла надзею ўбачыць Луўр і аголеную «Алімпію» Эдуарда Манэ.

## ІМПРАВІЗАЦЫЯ З ВЕРШАМ ГЕНРЫХА ГЕЙНЭ

Маіх знаёмых здзівіў, але ўсе адразу паверылі ў той факт, што мастак-манументаліст Гена Хацкевіч-Мінскі ўзяў два кавалкі гаспадарчага мыла, загарнуў іх у паперу і ў самалёце, што ляцеў з Мінска ў Растоў, зрабіў паведамленне, што ў яго зусім не просты пакунак, а сапраўдная бомба, і таму самалёт павінен сесці не ў Растове, а ў Парыжы. А каб лётчыкі не застрэлілі нашага вясёлага Генку, ён да пакунка з мылам прыкруціў два дроцікі, якія прымацаваў да прышчэпкі, а тую прышчэпку развёў. Карацей, так зрабіў, што нібыта, калі сцісенецца прышчэпка, дык замкнецца кантакт і адбудзецца жахлівы выбух. Актор Гена выдатны, на інстытуцкіх капусніках ён такія ролі сабе выдумляў, што проста ў галаве не ўкладваецца. Напрыклад, выйшаў ён на сцэну, дастаў з кішэні вялізны кухарскі нож і распароў сабе жывот. Пачуўшы дзікунскі Генаў крык, гледачы ўбачылі, як на сцэну вываліліся сапраўдныя кішкі. Зала ўтрупянела. Не напалохаліся толькі тыя, хто ведаў, што Хацкевіч-Мінскі за тыдзень да капусніка набыў тыя кішкі ў краме «Мяса. Малако». Пасля ўтрупянення вельмі абураліся выкладчыкі з акторскага аддзялення. Але тэатральна-мастацкі інстытут заглушыў іхнія рэплікі свістам і воплескамі. А ў самалёце выбуху не адбылося і воплескаў не было. Дый як могуць выбухнуць два кавалкі гаспадарчага мыла! Гена апынуўся на нарах растоўскай турмы, так казачна багатай на фальклорныя традыцыі. За спробу ўгнаць самалёт Хацкевічу-Мінскаму пагражала досыць змрочная перспектыва. Але ўсё павярнулася ў іншы бок. Растоўскі следчы прыехаў у Мінск. Ён не знайшоў тайнай арганізацыі масонаў-мафіёзі, якая закідвала свайго чалавека ў разбэшчаны Парыж, а знайшоў аднадушнасць у сведчаннях Генавых знаёмых, што той — дзіўны чалавек, нават крышачку з вар'яцінкаю. Хацкевіча-Мінскага з растоўскай турмы перапраўілі ў мінскую вар'ятню. Дзе і пратрымалі амаль год. Але Гена не сумаваў, ён распісваў сцены ў гэтай досыць змрочнай установе. Сценапіс ён рабіў сакавітым і яркім, і тым самым спрыяў аздараўленню агульнай атмасферы і набліжаў, як мог, свой выхад на волю. Нарэшце Гену выпусцілі. Ён гуляе па Мінску, п'е сокі, малюе вясёлкава-вясёлыя карцінкі і ўсім гаворыць, што ляцець у Парыж да мастакоў ён больш не збіраецца. І здаецца, што ўсё нармальна. Толькі вось мастак Хацкевіч-Мінскі сам сябе цяпер лічыць хворым.

А так даволі смешная гэтая гісторыя з пералётам Мінск — Парыж. Толькі вось з другім мастаком, студэнтам-дыпломнікам аддзялення манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, адбылася гісторыя зусім не смешная.

Валік Дзялендзік, які падпісваў свае неардынарныя нацюрморты псеўданімам «Дзік», не рабіў спробы ўцячы ў Парыж. Ён хацеў размеркавацца ў Магілёў і стварыць там філію рэстаўрацыйных майстэрняў. Але яго выключылі пасля чацвёртага курса за прафесійную няздатнасць. Яму паставілі двойку па асноўнай дысцыпліне — малюнку — і не залічылі летняе практыкі. Дзіўным было тое, што творчую нямогласць свайго студэнта выкладчыкі заўважылі не на ўступных экзаменах і нават не пасля першых курсаў, а толькі тады, як надышоў час рабіць дыпломны роспіс. З майстэрні Валік трапіў у казарму. Потым яго камісавалі. Праз год Валіка аднавілі ў Інстытуце, і ён пачаў рабіць эскіз роспісу. Работа ў яго ішла блага, ён ледзь паспяваў напрацоўваць неабходны мінімум. Але, на першы погляд, усё павінна было скончыцца нармальна, ды ў Валікавай групе вучыўся, пасля акадэмічнага адпачынку, Лёня Еўтух, які адсек сам сабе тры пальцы на левай руцэ. Свае пальцы ён адсякаў сякерай на калодцы, і сек іх два разы, бо спачатку мала адхапіў. Еўтух рабіў, як ён сам мне пазней тлумачыў, кубістычную збіўку, каб пазбавіцца ад прыгнёту цёмнай сілы. Невытлумачальная для мяне Еўтухава трактоўка кубізму і якаснага скачка перапалохала не толькі студэнтаў, а і сівавусых выкладчыкаў. І таму можна зразумець, што ўсе баяліся больш сякеры, чымсьці сцізорыка. Таму больш пільна сачылі за Лёнікам. І нават з цягам часу было зроблена так, каб Еўтух і Дзялендзік працавалі ў розных майстэрнях.

І вось аднойчы ў чыста падмеценай майстэрні дацэнт кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР Уладзімір Стэльмашонак убачыў замест свайго студэнта-дыпломніка Валіка Дзялендзіка нябожчыка-самазабойцу. Валік скончыў жыццё самагубствам, ён павесіўся. Акуратна прыбраў майстэрню, склаў чыстую кашулю і пакінуў гэты свет.

Валік Дзялендзік, Лёня Еўтух і Гена Хацкевіч — мае сябры. (На жаль, гледачы амаль не ведаюць іхняе творчасці. Таму ў бліжэйшых нумарах «Крыніцы» будзе выпраўлена гэтая памылка лёсу.) Разам з імі я праводзіў авангардныя выставы-аукцыёны.

Ідэя правесці аукцыён прыйшла да мяне, калі глядзеў на стосы парваных палотнаў, што валяліся ў майстэрнях і па калідорах пасля чарговага экзаменацыйнага прагляду. Мне стала шкада Сізіфавай працы, якая называецца ў нас працэсам навучання і праходзіць паводле схемы: намаляваў — паказаў — парваў — выкінуў — скончыў 1 семестр, намаляваў — паказаў — парваў — выкінуў — скончыў 2 семестр — скончыў І курс... І так пяць ці шэсць гадоў у інстытуце і чатыры гады ў мастацкай вучыльні. Вельмі рэдка



Барыс ЗАБОРАЎ. «Партрэт»

Рэпрадукцыі
Уладзіміра КАЦАПАВА



Рыгор СЕМАШКЕВІЧ. З архіва сям'і Семашкевічаў

сустракаліся студэнты, якія захоўвалі свае малюнкі. У схему навучання я спачатку вырашыў увесці слова «падарыў» замест «парваў». Але яно не спрацоўвала або спрацоўвала часткова. Напрыклад, падорыш эцюд, а потым бачыш, як на тым самым падрамніку і на тым самым палатне напісалі ўжо другі эцюд. І тады я зрабіў спробу ўвесці словы «прадаў» і «набыў» замест «парваў» і «ўкраў» (добрыя падрамнікі знікалі вокамгненна, незалежна ад таго, што на іх было напісана; не дапамагалі нават імёны ўласныя, напісаныя густой алейнай фарбаю, іх згаблёўвалі).

Першы наш аукцыён быў досыць выразнай карыкатурай на працу закупачнай камісіі. Бо звычайна ў гэтых камісіях запраўлялі тыя ж монстры ад мастацтва, чые «шэдэўры» купляліся. І спрэчкі там ішлі не пра тое, набыць ці не набыць, а пра тое, набыць за пяць тысяч ці набыць за дзесяць. На нашым аукцыёне першапачатковы кошт карціны на добрым падрамніку, у добрай раме, выкананай з улікам тэхнікі жывапісу, быў два рублі. Самае дарагое палатно было прададзена за шэсць рублёў.

Што мяне здзівіла і ўразіла, гэта тое, што амаль ўсе карціны, якія прайшлі праз аукцыён, былі павешаны на сцены ў майстэрнях. Бо неяк было няёмка замаляваць эцюд, калі ўсе бачылі, як ты яго купіў, і выкінуць ужо рука не падымалася.

На першым аукцыёне было чалавек пятнаццаць, а на чацвёртым — каля сотні. Прыйшлі нейкія калекцыянеры, якіх ніхто не запрашаў, прыйшлі акторы і рэжысёры, прыйшлі і такія людзі, якіх мне, шчыра кажучы, бачыць не хацелася. І аукцыёны зніклі і сталі гісторыяй Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

Да кааператываў было далёка, але ніякіх рэпрэсій з боку інстытуцкай адміністрацыі не было. Дый было б смешна, каб прафесар Гаўрыла Вашчанка, чые палотны набываюцца музеямі за тысячы і бліщчаць у розных галерэях, папракнуў Лёню Еўтуха за тое, што ён набыў за тры рублі палатно Гены Хацкевіча-Мінскага і прадаў сваю кампазіцыю за два рублі і дзесяць капеек. Было б смешна, але самі папрокі я не выключаю.

За тыдзень да самагубства Валік Дзялендзік папрасіў мяне забраць у яго з майстэрні тры свае карціны, бо ён сказаў, што хоча перабрацца працаваць у другое месца, і калі мне не цяжка, дык хай карціны месяц ці два пастаяць у мяне. Карціны я забраў і нават думаць не думаў, што назаўсёды.

Лёс Валіка Дзялендзіка тлумачыць мне сэнс жахлівых радкоў Генрыха Гейнэ:

Я — меч! Я — зніч!
Я свяціў вам у цемры, а калі распачаўся бой, я змагаўся наперадзе, сярод першых.
Вакол мяне мае забітыя таварышы, але мы перамаглі, толькі вакол мяне мае забітыя таварышы. Ва ўрачыстых пераможных песнях гучаць жалобныя харалы. Толькі ў нас няма часу ні на радасць, ні на гора. Зноў грымяць барабаны, наперадзе новы бой.
Я — меч! Я — зніч!
(мая імправізацыя паводле верша «Гімн»)

## РАДОК, ПАПРАЎЛЕНЫ МІХАСЁМ СТРАЛЬЦОВЫМ



Міхась СТРАЛЬЦОЎ. Фота Карласа Шэрмана

Так, мы перамаглі!!. На выставах у Палацы мастацтваў экспануецца цікавы жывапіс. У часопісах друкуецца добрая проза і паэзія. На экранах ідуць праблемныя фільмы. Выдатную іранічную аповесць Рыгора Семашкевіча «Бацька ў калаўроце» перакладаюць і выдаюць у нашай краіне і за мяжой, і людзі смяюцца з ідыятызму нямоглых навукоўцаў і кар'ерыстаў, якія апанавалі дзяржаўны універсітэт. Уладзімір Караткевіч цяперака, як шкада, што пасля заўчаснай смерці, самы любімы і папулярны пісьменнік на Беларусі. Карціны Барыса Заборава і Віктара Паўлоўскага вісяць на выстаўцы (не здзіўляйцеся! А лепш усё ж здзіўляйцеся) у Траццякоўскай галерэі. І мінскія мастакі жартуюць, што самы кароткі шлях з Мінска ў Маскву ляжыць праз Парыж.

Здаецца, на мажорнай ноце можна зрабіць і добрую канцоўку, якая звычайна бывае ў адрэдагаванай прафесарскай рукою фальклорнай казцы.

Але калі я азіраюся назад і бачу скалечаныя лёсы мастакоў і пісьменнікаў,— п'янства Караткевіча, грамадскую апатыю Стральцова (спадзяюся, што часовую), Хацкевіча-Мінскага і Еўтуха, самазабойства Дзялендзіка і трагедыю Семашкевіча, мне робіцца страшна. Гэтак жа страшна мне было, калі я ўсвядоміў, што Заборава і Паўлоўскага я лічыў мёртвымі. Я так многа чуў: «яны» і «мы», «іх свет» і «наш свет», «іх лад жыцця» і «наш лад жыцця», «як добра ў нас» і «як блага ў іх»... Так многа і ў такіх шматлікіх варыяцыях, што паступова плаўна і незаўважна «іх свет» ператварыўся ў «іншы свет» — свет загробны. І можна з мяне пасмяяцца і паздзекавацца, але я больш прымаю і разумею трагедыю Рыгора Семашкевіча і п'янства Уладзіміра Караткевіча, чым уцёкі Віктара Паўлоўскага, бо не ўяўляю сябе без Радзімы, без Беларусі, якая яна б ні была. Дый як, скажыце мне, я магу зрабіць іншы выбар, калі ў тым самым пакоі, дзе я паказваў малюнкі Забораву, праз дзесяць год я чытаў свае вершы Міхасю Стральцову. І мы выпраўлялі ў маёй першай кніжцы радкі. Замест «стаяла безнадзейнае надвор'е» мы ўпісвалі «стаяла надзвычайнае надвор'е». І Стральцоў казаў: «Стары, ты ж і сам ўсё разумееш... А будзеш збор твораў выдаваць, дык усё вернеш». І нават калі гэта не лепшае тлумачэнне майго выбару, а просты збег акалічнасцей, я застаюся пры сваіх думках, на сваёй зямлі.



Барыс ЗАБОРАЎ. «Аўтапартрэт»

## АВАНГАРД І АВАНГАРД

Цяпер шмат пішуць пра авангард у мастацтве і літаратуры. Асобныя арыгіналы-мастацтвазнаўцы паспелі залічыць у доўгі спіс прыкладаў авангардызму нават садова-паркавую скульптуру ўсмешлівых 50-х гадоў: ну гэтых дзябёлых весляроў, мядзведзікаў з бочкаю, ганарлівых аленяў... Залічылі — і цудоўна, можа, нарэшце змагары за прагрэс у мастацтве перастануць адбіваць галовы жалезабетонным студэнтам, якія схіліся над падручнікамі алюмініевага колеру.

А я ў загалоўку не прэтэндаваў на ўсеахопнасць, у мяне сваё, досыць банальнае разуменне авангарду: гэта творчасць і лёс мастакоў і літаратараў, у якіх я вучыўся, за якімі я ішоў, бо яны крочылі наперадзе, у авангардзе, калі глядзець з майго боку.



# МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП



Рэпрадукцыя з работы Сяргея СТЭЛЬМАШОНКА

Уладальнік звання «Ганаровага доктара гуманізму» Майкл Джэксан, вядомы сваімі высакароднымі ахвяраваннямі, у час свайго апошняга турнэ па Вялікабрытаніі пералічыў чвэрць мільёна долараў на рахунак дабрачынных арганізацый Англіі.

Вакаліст «Твістэд Свістэр» Дзі Шнайдэр канчаткова парваў са сваёй групаю і, падпісаўшы кантракт з вядомай пласцінкавай фірмаю «Атлантык», прыступіў да працы над сольнай пласцінкаю. Лідэр-гітарыст «металічнай» групы «Мэноўар» Рос дэ Бос неўзабаве будзе ствараць сваю групу.

Судовы канфлікт паміж лонданскай фірмаю «Чарлі Рэкордз» і членамі знакамітай групы «Бітлз» закончыўся перамогаю апошніх. Яшчэ ў студзені 1962 года маладыя «бітлы» зрабілі запіс некалькіх сваіх песень для фірмы «Дэка». Тады ансамбль гэтай фірме не спадабаўся, але запіс застаўся. Вось адну з ягоных копій і спрабавала самавольна выпусціць на пласцінцы «Чарлі Рэкордз», што, натуральна, выклікала справядлівы гнеў адвергнутых колісь музыкантаў.

Пол Макартні прыступіў да працы над новым альбомам, які ён запісвае разам з Элвісам Кастэла. Прадзюсер пласцінкі — Трэвар Хорн.

Вядомая англійская група «Блэк Сабэт», якая распалася пасля шэрага няўдалых работ апошніх гадоў, цяпер зноў збіраецца. Іграць на барабанах запрошаны Козі Паўэл. «Блэксабэтаўцы» вельмі разлічвалі на вакаліста Роні Джэймса Дыа. Аднак той ад прапановы адмовіўся заявіўшы, што ён хоча зноў сабраць сваю групу, распушчаную некалькі месяцаў назад пасля амерыканскіх гастроляў.

У спісах музычных відэафільмаў газеты «Саўндз» на першым месцы Майкл Джэксан з калекцыяй відэафільмаў «Легенда працягваецца». На другім месцы ён жа з відэастужкаю да пласцінкі «Трылер».

Дэвід Боўі прыняў рашэнне на працягу трох наступных гадоў актыўна супрацоўнічаць з рознымі тэатрамі і кінастудыямі. Ён заявіў, што збіраецца шмат падарожнічаць і амаль цалкам адмовіцца ад канцэртных выступленняў.

«Юрая Хіп» выпусцілі канцэртны альбом, запіс якога зроблены на Алімпійскім стадыёне ў Маскве ў час гастроляў па Савецкім Саюзе. З гэтае нагоды газета «Саўндз» публікуе інтэрв'ю з гітарыстам і кіраўніком «Юрая Хіп» Мікам Боксам. У ім Бокс адзначыў вельмі цёплы і зычлівы прыём савецкай аўдыторыі і на заканчэнне сказаў, што гастролі ў СССР на ўсё жыццё застануцца незабыўнымі днямі для ўсіх членаў групы.

Любіміца польскай публікі, 10-гадовая Сільвія, запісала чатыры новыя песенькі, якія выйдуць на яе дэбютнай касеце. Гэта: «Мне 13 гадоў», «Вялікі белы свет», «Ну дык што, што ў мяне вяснушкі» і «Спяваю пад радыё».

Лі Аарон скончыла працу над сваім новым альбомам. На ім будуць кампазіцыі Джона Банджоўі, Рычы Самбары і Джанатана Кэйна. Дыск неўзабаве з'явіцца ў магазінах (але не нашых).

У новым вобразе Ірвіна Кершнэра (герой «Зорных войнаў») выступіць Джон Купер Меленкамп. Гэта яго першая роля ў кіно.

Зноў чуваць Шэйкінга Стывенса. Ён выдаў сінгл «Адчуваю патрэбу ўва мне».

Хорст Маер-Торн не вытрымаў, надламаўся. Перажыў шок, крызіс. Нервы здалі, і вырашыў развітацца з групай «Бонфайр». Яго месца заняў Анджэл Шляйфер.

Мартэн Харкэт ажаніўся! Яго выбранніца — Марыя Дэль Мар Кастэла. Супакойцеся, дзяўчаты! Гутарка ідзе пра фільм! Мартэн выступіў у якасці аднаго з галоўных персанажаў у фільме «Каміла» і там, уласна, можна назіраць гэтыя сцэны.

Усе будуць задаволеныя: кампанія «Сток» (Эйткен Уотэрман), дыскжакеі, гандляры і, вядома, Кілі Міног. Чаму! Таму што нарасхват разыходзіцца яе навейшы хіт «Лока-Марын». Дзеля справядлівасці трэба заўважыць... нумар гэты ўпершыню праспявала ў 1962 годзе Літл Ева (Ева Нарцысус Бойд), потым Кэрал Кінг...

Вымушана развітацца з ансамблем «Бананарама» Джэкі О'Саліван. Выявілася, што не можа знайсці агульную мову з Карэн Вудвард і Сарай Далін.

Для фірмы «Мелодия» падрыхтаваны спецыяльны музычны матэрыял, які змясціўся на двух пласцінках альбома «Грынпіс-Брэйксроўз». Сярод выканаўцаў «Ю-Ту», «Юрытмікс», «РЭМ», «Прэтэндэрз», «АСВАД», «Сімпл Майндз».

Ліза Мінэлі — славутая кіназорка (глядзі фільм «Кабарэ») паведаміла пра сумесныя запісы з «Пэт Шоп Бойз».

20 верасня з'явілася першая вялікая пласцінка першай групы хэві з Іспаніі. Дыск называецца «Падарожнік у будучыню», а запісаў яго квартэт «Хелплэс» у складзе: Хуан Бодзі, Сімо Санчыс, Пепе Карцэлер і Пачы Калада.

Таніта Цікарам грае выдатна на гітары, ёй 19 гадоў, сама піша тэксты і мае ўжо сусветны баявік «Добрая традыцыя».

«Левель 42» у новым складзе. Безумоўна, Марк Кінг спявае як і раней, акрамя яго, у склад групы ўваходзяць Мік Ліндуп, Алан Мёрфі і Гары Хасбэнд.

НОВЫЯ ПЛАСЦІНКІ: Марк Алманд — «Зоркі як мы», Чык Карэя — «Светлавыя гады», Фалька — «Венская кроў», Джон Фарнхэм — «Эпоха розуму», «Хэйвэн 17» — «Тэдзі Бір Дзюк і Псіхо», Вангеліс — «Кірунак», Карэл Фіялка — «Чалавечая жывёла», Віксан — «Віксан», Эл Сцюарт — «Апошнія дні стагоддзя».

Падрыхтавалі
Ігар ГУКОЎСКІ
і Уладзімір КОНАНАЎ

# КАРОЛЬ ЭЛВІС ПЕРШЫ








## ФАКТЫ

### АНКЕТА

Імя: Элвіс Прэслі.
Дата і месца нараджэння: 8 студзеня 1935 года, Тупэло, штат Місісіпі.
Знак Задыяка: Казярожац.
Рост: 185 см.
Вага: 90 кг.
Вымярэнні: грудзі — 100 см, клубы — 97,5 см, стан — 80 см.
Колер вачэй: нябесны.
Валасы: цёмны бландзін.
Любімы напой: кока-кола.
Любыя строі: спартыўныя.
Любімыя спевакі і артысты: Том Джонс, Марлон Брандо, Сеан Конэры (агент 007), Брыджыт Бардо.
Хобі: водныя лыжы, каратэ, матацыкл.
Адукацыя: сярэдняя школа, Мэмфіс.
Амбіцыя: добрае акцёрства.
Найбольш каштоўная станоўчая якасць: лаяльнасць.
Запісана ў 1968 годзе.






РОК-АРХІЎ



Калі тэлевізійная кампанія прапанавала 60 000 долараў за выступленне Элвіса ў тэлепраграме, менеджэр Прэслі, Томас А. Паркер, спытаў: «Гэта толькі мне, а колькі вы прапануеце Элвісу!»

Радыё Ганалулу ў 1962 годзе перадавала песні Элвіса Прэслі на працягу 75 гадзін. Было прынята 10 000 тэлефонных заказаў на трансляцыю элвісаўскіх шлягераў.

21-шы «залаты» элвісаўскі альбом быў прададзены за 63 мільёны долараў.

За 21 год (1956—1977) Элвіс запісаў 54 арыгінальныя альбомы, а ўвогуле за гэты час — звыш 100 альбомаў.

За 16 гадоў (1956—1972) Прэслі зняўся ў 33 фільмах і амаль кожны год уваходзіў у дзесятку самых касавых акцёраў.



У час смерці Элвіса ў брытанскім фан-клубе было 12 000 членаў, праз год іх лічба ўзрасла да 36 000, а ў 1982 годзе клуб налічваў 30 000 членаў.

Адзін з брытанскіх элвісаўскіх прыхільнікаў паглядзеў 53 разы фільм «Кароль Крэол», 48 разоў — фільм «Дзявочае шчасце» і 38 разоў — фільм «Дзяўчаты! Дзяўчаты!».

Адна з самых вялікіх калекцый пласцінак Прэслі была сабрана іранскім шахам Махамедам Рэзой Пехляві.

На аукцыёне элвісаўскіх пласцінак, які адбыўся ў 1982 годзе ў Каларада, адзін з альбомаў прадалі за 940 долараў.

У 1982 годзе 1403 амерыканцы зрабілі сабе пластычныя аперацыі, каб быць падобнымі да караля рок-н-ролу.

21 «залаты» альбом, 66 «залатых» песень, а ўвогуле — 87 «залатых» пласцінак запісаў Элвіс Прэслі.



Падрыхтавала Наталля ВАЎЧОК




У 1968 годзе Элвіс Прэслі атрымаў узнагароду: «Чалавеку, які дае найлепшы прыклад амерыканскай моладзі».

За восем год (1969—1977) Элвіс даў 1094 канцэрты.



Уладзіслаў
**АХРОМЕНКА**

# Канстанцін Кінчаў: «Я спяваю для тых, хто ідзе сваім шляхам...»



**МАГНІТААЛЬБОМЫ**

«Моцныя ідуць наперад» (1984)
«Энергія» (1985)
«БлокАда» (1987)
«206, частка другая» (1988)

Створаны ў 1981 годзе ленінградскі рок-клуб — несумненная адметнасць горада на Няве. У маладых «пецярбуржцаў» ён карыстаецца папулярнасцю не меншай, чым Эрмітаж, рок-клубаўскія экспанаты «Акварыум», «Джунглі», «Заапарк», «Патрыярхальная выстава» і іншыя — адзначаны ўвагаю нашмат большай, чым экспазіцыя Кунсткамеры.

Даўно прайшлі часы «паўпадвальных сэйшнаў», і сёння вядучыя рок-клубаўскія музыканты атрымалі досыць вялікую «жыццёвую прастору» — яны адносна свабодна канцэртуюць па краіне, запісваюць дыскі і нават здымаюцца ў кіно. «Нефіларманічны рок» атрымлівае грамадскае прызнанне.

Своеасаблівым піянерам ў новым кінематаграфічным буме — выпуску стужак «з жыцця маладых» з неадменным удзелам «нефіларманічных» рок-гуртоў — стала «Аліса». Нагадаю, што і свой дыск «Энергія» (які заняў, дарэчы, у хіт-парадзе «Крыніцы» адно з першых месцаў) група запісала нашмат раней за іншых у рок-клубе.

У сённяшнім выпуску «Музычнага праспекта» прымае ўдзел Канстанцін Кінчаў, лідэр «Алісы».

— Косця, адной з прыкмет маладзёжнага кінематографа апошніх гадоў становіцца ўдзел рок-клубаўскіх гуртоў. Не ведаю, ці згодзіцеся Вы са мною, але і «Узломшчык» (дзе, апрача «Алісы», удзельнічалі «Бурацінa» «Аукцыён», «Прысутнасць», «Кава») і «Асса» (Адпаведна «Акварыум», «Кіно», «Саюз кампазітараў») проста расчаравалі. «Узломшчык» — няўдалая спроба сінтэзу ігравога і дакументальнага кіно, прычым прэтэнцыёзнасць і надуманасць у асвятленні жыцця айчынных тынэйджэраў выклікала іншы раз адкрытую непрыязь. Кінастужку «Асса» не ўратавалі ні Грабеншчыкоў, ні Цой — сюжэтныя нацяжкі (як, напрыклад, з'яўленне ў шытым белымі ніткамі фінале В. Цоя) былі відавочныя ўсім. А Вы ж выканалі ва «Узломшчыку» галоўную ролю...

— Скажу адразу — мне вельмі няёмка і сорамна за «Узломшчыка». Аднак не здымацца я не мог — у мяне проста не заставалася іншага выйсця, і вось чаму: калі ты займаешся музыкай па-за сценамі якойсьці ўстановы ці канцэртнай арганізацыі і не маеш пры гэтым «афіцыйнага» месца працы, цябе неадкладна запішуць у дармаеды. Менавіта ў такой сітуацыі я і апынуўся — «Аліса» пастаянна рэпеціравала і запісвалася, я быў заняты і, вядома, «непрацаўладкаваны». Выйсце было адно — прыняць запрашэнне «Ленфільма», аб чым цяпер вельмі шкадую. Расчараванне нашае было такое вялікае, што «Аліса» рашуча адмовілася ад удзелу ў кінастужках «Рок» і «Барды пакідаюць двары», нягледзячы на ўпартыя запрашэнні...*

Тут я не вытрымаў і пацінуў Кінчаву руку — сапраўды аб'ектыўная ацэнка заўсёды выклікае павагу, крытычнае ж асэнсаванне ўласнае працы — павагу падвоеную.

— ...а што ж да кінастужкі «Асса»,— дадаў Кінчаў,— як на мой погляд, дык гэта яшчэ ў сто разоў горш, чым «Узломшчык».

— Сёння цяжка знайсці выданне, у якім бы не сустракалася слова «рок». Аднак ніхто так і не можа даць дакладнага адказу на пытанне: «А што ж гэта такое?»

— Прывід мастацтва некан'юнктурнага і некамерцыйнага заўсёды лунаў над Расіяй. У наш час гэты прывід матэрыялізаваўся ў рок-музыцы. Для мяне рок пачынаецца тады, калі на сцэну выходзіць чалавек (няважна з чым — хоць з балалайкаю), якому ёсць што сказаць людзям. Сказаць не тое, што яму «дазволена», а тое, да чаго ён прыйшоў сам.

У нас дужа доўга культываваўся плакатны тыпаж «годнага пераемніка слаўных традыцый 20-х (30-х, 40-х, 50-х), «які ідзе шляхам герояў, шляхам бацькоў». Трывіяльны афіцыёз не дапускае нават думкі аб неаднароднасці пакалення — толькі «поўная аднадушнасць і гарачая падтрымка».

Натуральна, што ў любога сапраўды кампетэнтнага ў маладзёжных праблемах чалавека такое асвятленне праблемы нічога, апроч шчырае агіды, выклікаць не можа.

«Мое поколение сидит по
углам,
Мое поколение боится
петь,
Мое поколение чувствует
боль —
И снова ставит себя под
плеть»,—

канстатуе «Аліса». Заўважу, што ў такім самым ключы вытрыманы кампазіцыі і «ДДТ», і «Навуцілуса-Пампілівуса», і «Хмарнага краю». І думаецца, што памыляюцца тыя, хто спрабуе звесці творчасць «нефіларманічных» рок-гуртоў толькі да крытыкі «негатыўных бакоў нашай рэчаіснасці». Дазволенай мастацкімі саветамі крытыкаю за тарыфную стаўку займаюцца чытальнікі-сатырыкі дзе-небудзь на тэлевізійным «Блакітным агеньчыку». Айчынная «нефіларманічная» рок-культура, музычны «андэграўнд» — не проста «крытыка», а своеасаблівыя адчуванне і разуменне свету.

Мое поколение смотрит
вниз,
Мое поколение боится
дня,
Мое поколение пестует
ночь,
А по утрам — ест себя!

Не падабаецца? Паспрабуйце давесці адваротнае.

— Косця, сённяшняя сітуацыя ў «нефіларманічным» року рэзка змянілася. Кампазіцыі, якія параўнальна нядаўна ўспрымаліся як «левыя», слухаюцца сёння як абсалютна натуральныя, мала таго, учарашняе «іншадумства» часам нават кананізуецца. Сучасная моль, як вядома, не рэагуе на нафталін, бо прызвычаілася да яго. Выдае на тое, што і слухачоў музычнага «андэграўнда» неўзабаве перастане прывабліваць адна толькі «сацыяльная накіраванасць» тэкстаў, бо, апроч іх, у року ёсць яшчэ і музыка. Соцыум і музыка ў айчыннай рок-культуры застаюцца «скаваныя адным ланцугом», прычым сацыяльная нагрузка тэкстаў часам пераважвае ўласна мастацкі момант — самую музыку. А «музычная публіцыстыка» наўрад ці можа прэтэндаваць на мастацкую каштоўнасць па вялікім рахунку. «Нефіларманічная» рок-музыка, без усялякага перабольшвання,— унікальная з'ява нашай культуры, але сёння ў ёй няма выканаўцаў, якіх можна было б паставіць у адзін рад з Робертам Фрыпам, Браянам Іна, Фрэнкам Запаю, Лаураю Андэрсэн, з групамі ўзроўню «Кінг Крымсан», «Пінк Флойд», раннім «Джэнэсіс»...

— Справа ў тым, што ўсе пералічаныя Вамі групы і выканаўцы працуюць пераважна студыйна. У іх і апаратура больш якасная, і магчымасцей болей. Тэхніка, з якою вымушаныя працаваць мы, горшая за тую, якою гадоў дваццаць пяць — трыццаць назад карысталіся Білі Хэйлі і Элвіс Прэслі.

— Цікава, якім бачыце Вы будучыню музычнага «андэграўнда» гадоў праз дзесяць. Дый ці будзе ён увогуле існаваць?

— Я ўсяго толькі музыкант і не ўмею прадказваць будучае. Мы не можам думаць пра дзень заўтрашні, калі існуе са сваімі праблемамі дзень сённяшні. Галоўнае цяпер — зліцца з часам і быць на грэбені хвалі.— Кінчаў трохі памаўчаў, а потым дадаў: — Рок, рок-н-рол — вечны. Хіба праз дзесяць гадоў людзям не будзе чаго сказаць адно аднаму!

Відаць, па-свойму Кінчаў мае рацыю. Аднак мне ўсё-такі здаецца, што справа не столькі ў тым, пра што пісаць музыку, а ў тым, якая музыка атрымліваецца ў выніку. Не ў тым, пра што спяваць, а ў тым, як спяваць і граць. На фоне «Навуцілуса», што зусім нядаўна «ўсплыў на паверхню», гурта, які ставіць не толькі сацыяльныя, але і па вялікім рахунку мастацкія задачы (не кажучы ўжо пра замежных калег, якія робяць не сацыяльны соцыум, а сацыяльную музыку), «рок для плошчы» «Алісы» выглядае часам састарэлым. А пакуль... А пакуль сёння крэда «Алісы» сапраўды падкупае сваёй шчырасцю:

В воронке ядерного взрыва,
И просто в кино,
И сидя на крыше,
И стоя в метро,
И даже там, где нельзя,
Я буду петь рок-н-ролл!

Параўнальна нядаўна Ленінград быў адзіным буйным цэнтрам музычнае «контркультуры». Сёння рок-клубы створаны ў многіх гарадах і нават у нас, у Мінску. У пачатку — сярэдзіне васьмідзесятых у краіне з'явілася мноства цікавых гуртоў — «Навуцілус-Пампілівус», «Чайф», «Кабінет» (Свярдлоўск), «Лямант Свістаплясава» і «Калежскі асэсар» (Кіеў), «Хмарны край» (Архангельск). Музычная крытыка назвала новую з'яву «правінцыйным рокам». Я пацікавіўся, што думае з гэтае нагоды Кінчаў.

— Самую з'яву я толькі вітаю — было б дзіўным ставіцца да яе неяк інакш. Мне вельмі блізкія «Чайф» і «Хмарны край» — асабліва архангельскі гурт. А вось «Навуцілус-Пампілівус», нягледзячы на ўсю маю да іх павагу, я не разумею. З беларускіх груп слухаў толькі «Зарціпо». Калі будуць шмат працаваць, з іх можа атрымацца цікавая «каманда». Дарэчы, клавішнік «Алісы» Павел Кандраценка — ваш зямляк, гамельчанін.

— Косця, апошняе пытанне: «Алісаю» вы называецеся ў гонар гераіні Люіса Кэрала. Чаму?

— Таму што ўсе мы жывём у краіне цудаў...

---

* Рыхтуюцца да выхаду ў пракат «Іголка» (П. Мамонаў і зноў В. Цой) і «Інтэрв'ю з невядомымі» («ДДТ», «Капітальны рамонт»).

**«АЛІСА»**

Канстанцін Кінчаў (Панфілаў) — вакал, тэксты
Пётр Самойлаў — вакал, гітара, бас
Павел Кандраценка — клавішныя
Андрэй Шаталін — лідэр-гітара
Міхаіл Няфёдаў — ударныя
Аляксандр Жураўлёў — саксафон
Аляксандр Цімашэнка — адміністратар

**Г. БРАЦІШОЎ,**
**былы першы сакратар Навабеліцкага райкома камсамола, цяпер завуч сярэдняй школы**

# НАМЕНКЛАТУРА



Заканчэнне. Пачатак у № 1.

## МЫ СУСТРАКАЕМ ГАСЦЕЙ

Што ж змянілася ў міжасабовых адносінах апаратных кіраўнікоў? Зноў жа форма, вонкавы выгляд — і тое не ва ўсім. Унутраная структура засталася ранейшая. Усё тое ж аўтарытэтнае кіраўніцтва зверху ўніз, усё тыя ж безапеляцыйныя пастановы вышэйшых у іерархіі, якія, што догмы, намі павінны не проста прымацца да ведама і быць агульнымі накірункамі ў працы, а падлягаюць пастаноўцы на кантроль і выконвацца як свае. Як гэта ні сумна, але ў камсамоле, бы непахісная цвярдыня, захавалася субардыняцыя і гэтае ялейнае «Вы». І толькі раённага камсамольскага работніка могуць назваць Іван ці Пётр, а на ўзроўні горада, вобласці і вышэй маладзёжны «лідэр» ужо прадстаўлены як Іван Іванавіч ці Пётр Мікалаевіч... Гэта і розная мера адказнасці ў нас і ў іх — за свае словы, дзеянні, учынкі. У нас, у раёне, за неправедзенае мерапрыемства атрымліваеш як мінімум вуснае павучанне альбо табе проста зачытваюць, як хлопчыку, максімум — чарговую выснову. Сарванае ці жахліва праведзенае мерапрыемства горадам ці вобласцю застаецца незаўважанае...

Можна прыводзіць і яшчэ прыклады, якія характарызуюць узровень узаемаадносін у нашай рабоце, але змест застанецца ранейшы. «У чым жа справа? — спытаецеся вы.— Усе нібыта ў адной арганізацыі, усе маладыя, аднаго ўзросту і, галоўнае, робіце адну агульную справу?» Адказ просты: засталося ранейшае засілле бюракратаў і «ліпавікоў». Старыя кадры пераважна засталіся на месцы і пры пасадах. Яны па-ранейшаму мяняюць свае крэслы на мякчэйшыя, а кабінеты — на больш камфартабельныя.

Гэта людзі, якія ў максімальна кароткія тэрміны здолелі «перабудавацца», памяняўшы жыццёвыя лозунгі і пафас застольных дыфірамбаў аб значнасці камсамола ў лёсе маладога чалавека на адточаныя і ўпэўненыя тырады: «Таварышы! Малавата сёння прагучала крытыкі, слаба ўводзіце дэмакратызацыю, галоснасць і самакіраванне...» і г. д.

Усё можна зразумець: «цяжкае дзяцінства», «гады застою», але чаму я ці хто іншы павінен быў у гэтыя гады змагацца, адстойваць элементарныя правы моладзі і статутныя прынцыпы камсамола, атрымліваючы за гэта незаслужаныя панукванні, вымовы, знядце з работы, а нехта іншы — атрымліваць «заслужаныя» ўхвалы, а потым — гонар і павагу і, адпаведна, прасоўванне па службе. Дык чаму ж цяпер, калі флюгер разгарнуўся на 180 градусаў, я ці нехта іншы павінны верыць усім ім і набліжаным да іх, верыць іхнім сімпатычным усмешкам, іхнім поўным разумення кіўкам і спачувальным позіркам? А пры такім раскладзе дзе гарантыя таго, што час не зменіцца і вецер перамен будзе дзьмуць не ў спіну, як цяпер, а ў твар?

Пакуль не будзе істотных змен наверсе, інакш кажучы змены старых камсамольскіх кадраў 50—60-х гадоў нараджэння на маладыя — 70-х, на кадры, якія толькі што ўступілі ў новае жыццё,— карэнных трансфармацый у камсамоле не будзе. Але гэта, на жаль, выбачайце за адступленне, з вобласці фантастыкі. А пакуль мы, зыходзячы з пачуцця інтэлігентнага жалю да іх і з прыродным страхам за сябе будзем назіраць, як будуць працягваць у дзяржаве вонкава пераўтварацца маладзёжныя «лідэры». Як вы самі разумееце, іхняя дзейнасць у камсамольскіх кабінетах не заканчваецца, а значыцца, і красавіцкага свежага ветру ў камсамоле ў бліжэйшыя 18—20 гадоў няма чаго і чакаць.

Узровень узаемаадносін будуецца паводле аднае трывалае мадэлі, менавіта ж: ёсць добры плакат, дзе ўвасабленнем начальніка з'яўляецца малаток, а падначаленых — цвікі. Хто не зняў шляпку, таго згінаюць або забіваюць. Вось гэты самы плакат пра нас: карацей, не пярэч, а то...

Прывяду адзін тыповы прыклад, а заадно раскажу, як мы сустракаем гасцей. Гасцямі мы называем прадстаўнічыя камісіі з розных ведамстваў і міністэрстваў, замежныя дэлегацыі. Пра іхні прыезд нас, вядома, інфармуюць у першую чаргу. А нашая задача, забыўшыся на ўсе справы, забяспечыць ім у першую чаргу найлепшыя месцы, максімум увагі і... Гэты наш радужна-зычлівы пыл у вочы — даўняя традыцыя, але занадта дорага абыходзіцца ён нам матэрыяльна, а яшчэ больш маральна.

У нашым раёне знаходзіцца дашкольны дзіцячы дом. Я — ягоны куратар па камсамольскай лініі. Калі вы памятаеце, то ў ліпені 1987 года была прынятая пастанова ЦК КПСС па дзіцячых дамах. Да ліпеня клопат, просьбы, праблемы дзіцячага дома кіраўнікі ведамстваў, прадпрыемстваў, арганізацый, у тым ліку і камсамольскіх, стараліся не заўважаць— пасля пастановы карціна рэзка змянілася, адбылося чарговае калектыўнае прасвятленне, і паехалі, і пайшлі хадакі ў наш дзіцячы дом. У жніўні ЦК ЛКСМБ правёдзіў абласны семінар па пытаннях школ-інтэрнатаў і дзіцячых дамоў, дзе я, адказваючы на пытанні, шчыра расказаў, як у нас было раней і як стала цяпер. Імгненна спрацоўвае трывалы прынцып «не вынось смецце з хаты». Спытаецеся, куды ж яго падзець? Той, хто прыбірае, ведае, што бруд абавязкова трэба выносіць, інакш можна ператварыць свой дом у свінушнік, а тыя, за кім прыбіраюць, наўрад ці гэта нават разумеюць. Так што, калі не хочаце псаваць адносіны з тымі, хто вас вышэй, варыцеся ва ўласным саку і перакладвайце смецце з аднаго пакоя ў другі. Інакш чакайце чарговых гнеўных павучанняў, праверак, камісій, запрашэнняў на бюро і пастаноўкі пытання на кантроль. Увогуле рознага, але вельмі рэдка — сур'ёзнае канкрэтнае дапамогі. Ну а далей, праз паўгода ці год, знядце гэтага пытання з кантролю паводе тае самае схемы, пра якую я згадваў вышэй. Вось так працуем і жывем.

## ШАВЕЦ БЕЗ БОТАЎ

Якія ж новыя незвычайныя формы работы, якія змены з'явіліся ў камсамоле пасля XX з'езда ВЛКСМ? Пераважна зерне перабудовы мы пазычылі ў XXVII з'езда КПСС. Усё было б добра, ды грунт розны. Не ўсё, што пасадзілі, узышло.

Узносы ў камсамоле мы сталі збіраць па безнаяўным разліку, інакш кажучы камсамольцы не самі, свядома, прыходзяць і здаюць іх у сваю арганізацыю, як гэта робяць камуністы, а ў камсамольцаў іх адразу ж вылічваюць з зарплаты. Гэта выгадна райкомам камсамола, бо раней гэта было адно з балючых пытанняў. Многія «члены» ВЛКСМ проста ігнаравалі выплату ўзносаў. Скажаце: «Трэба было выключаць!» Вядома, можна, але падае працэнт колькасці членаў, а за гэта, як кажуць, «да бар'ера». Прыходзілася такіх членаў пераконваць, праводзіць тлумачальную работу і г. д. Раней даводзіліся лічбы і ўсемагутны працэнт папаўнення членамі раённай камсамольскай арганізацыі. Цяпер карціна змянілася. Нікога ў камсамол не зацягваюць. Пераважна прыходзяць па жаданні і перакананні. І ўсё ж атрымліваецца так, што, паспяшаўшыся з уводам безнаяўнага разліку, законна замацавалі яшчэ на пяць-шэсць гадоў велізарны баласт, інакш кажучы, кожнага трэцяга-чацвёртага «прысутнага» ў камсамоле. Ёсць, вядома, тэхнічны бок справы, ёсць яшчэ і статутны, і маральны. Можна толькі спадзявацца на час, ён пакажа, каму гэта выгадна: райкомам ці пярвічным камсамольскім арганізацыям.

Мы перайшлі на гасразлік у парадку эксперыменту. Цяпер галава ў райкомаў камсамола баліць аб адным — як выканаць даведзенае заданне ЦК па фінансах. Грошы любой цаною, пачынаючы ад капеечных суботнікаў і канчаючы адкрыццём школьных кааператываў,— інакш кажучы, тое, што раней было амаральным, стала маральным. Можна было б на гэтыя рэчы заплюшчыць вочы, бо ў гэтым пытанні ёсць свае «за». На жаль, ёсць важкае «але». У вобласці з 28 райкомаў на датацыі знаходзяцца 18. Гэта тыя райкомы, якія не могуць выканаць даведзенае заданне па ўзносах і іншых грашовых сродках і якія з'яўляюцца нашай непасрэднай «беднай раднёю». Плюс да гэтага — ад нашых адлічэнняў «кормяцца» гарком, які стаў непатрэбным дадаткам у структуры камсамола, абком і ЦК. І выходзіць, што сам ты шавец без ботаў. Гасразлік патрабуе: за ўсё трэба плаціць — за арэнду залаў, памяшканняў для правядзення камсамольскіх ці піянерскіх мерапрыемстваў, пленумаў ці сходаў, нарад ці агляду мастацкай самадзейнасці, клуба вясёлых і вынаходлівых і г. д. Напрыклад: самая танная арэнда залы на 400 месцаў для аднаго толькі мерапрыемства каштуе 200 рублёў. Прыходзіцца выбіраць. За прызы, падарункі і сувеніры, калі не хапае грошай, а іх заўсёды не хапае, прыходзіцца расплачвацца са сваёй кішэні. Колькі? Ад 10 да 30 рублёў. На гэта ўжо не зважаюць, першы сакратар аддае як належнае. А правесці мерапрыемства — на паклон да дырэктара палаца, які глядзіць на цябе, быццам ты яму вінен. Так што выбіраць асабліва не прыходзіцца...

Гэта толькі некалькі штрыхоў змен у камсамоле. У новых умовах, у новы час становіцца цікавей працаваць. І ўсё ж у поўным сэнсе тэрмін «перабудова» камсамол не закрануў. Выдатна сказаў М. С. Гарбачоў на XX з'ездзе камсамола: «Не бярыце на веру». Пакуль гэтага не здарылася. Крытычнага аналізу дакументаў палажэнняў і пастаноў вышэйшых інстанцый няма. Усё прымаецца на веру і падлягае бяздумнаму, а іншы раз безыдэйнаму выкананню. І ў гэтым таксама нашыя памылкі і камсамольскія хваробы.

## СЁЕ-ТОЕ ПРА КІРАЎНІЦТВА

Шчыра кажучы, думаў далей не пісаць. Проста не верыў, што могуць надрукаваць. Падштурхнуў адзін жывы матэрыял. Фільм «Ваш спецыяльны карэспандэнт» (рэжысёр-пастаноўшчык Мікалай Гібо).

Кіруе намі, падказвае, вучыць і раіць раённы камітэт партыі. Асабіста я ў партыю ўступіў свядома. Пазней я даведаюся, што можна ўступіць у партыю дзеля кар'еры, мець партбілет як дадатак да работы, што можна і пад прымусам. Да апошняе драбніцы памятаю гэты шчаслівы дзень у маім жыцці, калі мы ўдвух з усяго вучэбнага атрада, прайшоўшы некалькі камісій і партсходаў, пасля бяссоннай ночы хваляванняў і чаканняў, сталі перад партыйнай камісіяй. Памятаю, як выйшаў, узбуджаны і радасны, не хапала паветра: я ж стаў кандыдатам у члены КПСС. Скажаце, што зашмат лірыкі. Але тады гэта так і было. А праз год мяне, ужо як цывільнага чалавека, прымалі ў члены КПСС, але пра гэта трохі ніжэй.

Дагэтуль памятаю сваё першае партыйнае даручэнне. Пасля Першамая патэлефанавалі з райкома партыі і сказалі: «Едзь у раён і паглядзі, дзе вісяць яшчэ сцягі, папрасі, каб знялі». І я з усёй сваёй партыйнай адказнасцю сеў у тралейбус і з ранку да абеду ездзіў па ўсіх забытых кутках раёна, не разумеючы яшчэ таго, што выконваю не сваю работу, а некага дубліру́ю. А пасля абеду, як мяне і прасілі, я з пачуццём выкананага абавязку патэлефанаваў і далажыў: усё ў парадку. Мне адказалі: добра. Навошта расказаў пра гэты выпадак? Ды таму, што рабочыя адносіны, узровень даверу паміж апаратам райкома камсамола і работнікамі райкома партыі будуюцца часцей за ўсё паводле такой канцэпцыі: даклад — усё ў парадку, адказ — добра. І паспрабуй не выканай, гэта ж трактуецца як партыйнае даручэнне, і мера адказнасці непараўнальна вышэйшая, чым у камсамольскай структуры. Безумоўна, вы ўжо самі здагадаліся: адказнасць, як і раней, аднабаковая, інакш кажучы, ускладаецца на нас. Калі вы сумняваецеся, прывяду дзеля кантрасту два прыклады.

Першы. Ідэя была такая: 26 чэрвеня, адразу ж пасля таго як пройдуць вечары ў школах, запрасіць выпускнікоў раёна і зладзіць ім свята з гульнямі і атракцыёнамі, дыскатэкаю і ансамблем, ілюмінацыяй і выступленнямі прафесійных калектываў і мастацкай самадзейнасці раёна.

Успомніце сябе. Выпускны клас, апошні школьны вечар, мінула дзесяць гадоў — і якіх гадоў! Гэта варта таго, каб правесці такое свята. А калі без эмоцый, то такая ўрачыстасць каштуе вельмі дорага. Тлумачу коратка. Гэта поўнае ўзаемаразуменне школы, міліцыі, райвыканкома і многіх іншых службаў; гэта два месяцы працы ўсяго актыву раённай камсамольскай арганізацыі... Але ўсё гэта было да 24 чэрвеня, а 25-га прыйшла дырэктыва — забараніць. Мы адразу звярнуліся ў райком партыі, але нам адказалі, што гэта агульная рэспубліканская дырэктыва; я патэлефанаваў у Мінск, ведаючы, што там два раёны праводзяць нешта падобнае. Мне адказалі: дазволена. Звանілі ў гарком, абком партыі — і там усе ў недаўменні, можна толькі здагадвацца, хто, перастрахаваўшыся, забараніў праводзіць гэтае свята. Пра гэты выпадак я пісаў у рэспубліканскую газету і выступаў па абласным радыё, але ўсё засталося без адказу.

Можаце сабе ўявіць, як нам, работнікам райкома камсамола, прыходзіцца глядзець у вочы маладым людзям, тым, хто прымаў удзел у падрыхтоўцы да вечара, як размаўляць са скептыкамі, якіх прыходзілася дзень пры дні зацікаўліваць, пераконваць, прымушаць, а часцей за ўсё прасіць. Зноў выходзіць на трыбуну, зноў агітаваць і заклікаць? Нічога іншага нам не застаецца, але да якога часу? У гэтай традыцыйнай безвыходнасці пастаянна пытаешся ў сябе: да якога часу можна толькі агітаваць і заклікаць? Да

якога часу моладзь нам будзе верыць і мы самі будзем верыць у сваю значнасць і ў сваю сілу? Але самае балючае тое, што іншы раз на пленумах, нарадах ці партсходах, на якіх палова скептычна ўсміхаецца, хоць усе аднадушна галасуюць за праект пастановы, нам яшчэ і кажуць з ухмылкаю: «Што ж вы не праводзіце свае вечары, навучыцеся складаць планы, зусім не працуеце з моладдзю».

Другі прыклад. У нас у раёне добра функцыяніруе Савет маладых настаўнікаў. Гэта моцны калектыў аднадумцаў з маладых педагогаў. Гэта людзі, якія могуць ахвяраваць сваім часам, сям'ёю, проста сваім «я», эрудыраваныя, разумныя хлопцы і дзяўчаты, якім можна даверыцца. Неафіцыйна ў іх лік уваходжу і я, інструктар райкома. У 1988 годзе мы сталі пераможцамі «Клуба вясёлых і вынаходлівых» у горадзе. Цяпер касцяк калектыву працуе над стварэннем палітычнага тэатра. Хто ўдзельнічаў у такіх мерапрыемствах, той зразумее, якіх намаганняў каштуюць гэтыя гульні ў вясёлых і вынаходлівых. Кожная гульня — гэта амаль штодзённы збор на працягу двух месяцаў з 19 да 23—24 гадзін. І гэтая зацікаўленая творчая праца кансалідуе, аб'ядноўвае, у ёй знаходзіш новых аднадумцаў, якія таксама аддаюць не шкадуючы сіл і часу дзеля аднае гуманнае мэты — прынесці людзям радасць. Але ёсць і адваротны бок справы, які адбівае ўсё жаданне працаваць, пачынаць усё нанова, калі за дзень да такога адказнага мерапрыемства прыходзіць да нас работнік райкома партыі, даведаўшыся пра тое, што мы, работнікі райкома камсамола, з'яўляемся таксама ўдзельнікамі, і пачынае павучаць нас прыкладна так: «Як гэта вы, адказныя работнікі, скачаце па сцэне? Вы павінны толькі арганізаваць, абзваніць і пракантраляваць выкананне; знайце меру, і, увогуле, хопіць гэтых забавак». Як вы разумееце, гэта асобны штрых у нашай рабоце, але вось такой уедлівай апекаю з боку райкома партыі ў драбніцах, «бацькоўскім» кантролем у буйных камсамольскіх справах, а іншы раз проста нежаданнем зразумець сутнасць нашых праблем сур'ёзна падрываюць аўтарытэт не толькі апарату, але і ўсяго камсамола. І зусім незразумела, калі з высокіх трыбун партыйнымі органамі робіцца заключная (яна не падлягае сумненню) выснова пра тое, што камсамол страціў свае рубяжы, не з'яўляецца лідэрам у маладзёжным асяродку, непрынцыповы. Навошта падкрэсліваць і сцвярджаць тое, што стала апошнія гады аксіёмаю. Ці не прасцей раздзяліць долю адказнасці і дапамагчы? Для мяне гэта дагэтуль загадка. Аднак гэтае запратакаліраванае меркаванне, бы рэха, падхопліваюць дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы — і, як вынік, гатовая грамадская думка: камсамольскія работнікі заеліся, не хочуць нічога рабіць. Раз не хочуць рабіць, то выконваюць усё дзеля «птушачкі», фармальна; а фармальна — значыцца, нецікава, і нікому гэтая работа не патрэбная. Такім чынам, адбываецца самае жахлівае для кожнага з нас: калі доўгі час не бачыш вынікаў сваёй працы, яна абясцэньваецца, абясцэньваюцца твае думкі, жаданні, час. Азірнуўшыся, нарэшце пытаешся ў сябе: каму, у прынцыпе, патрэбная такая мая праца і што я ў гэтай мітусні паспеў канкрэтна зрабіць за адпушчаны мне час? Сумна, горка, роспачна, калі сам адказваеш: нікому і нічога.

## «НАМ БУДУЦЬ ДОЎГА ПРАПАНОЎВАЦЬ НЕ ПРАГАДАЦЬ»

Урэшце паўстае пытанне «альбо — альбо?». Альбо ісці з працы, альбо заставацца, загадзя разумеючы, што чым далей, тым горшае робіцца становішча, а сітуацыя становіцца незваротная. У такіх умовах жыццёвая рэчаіснасць дыктуе выбраць другое, але сумленне настойвае на першым. Як ні дзіўна, гэта разумеюць усе: і камсамольскія работнікі, і партыйныя, але гэта толькі ў прыватнай гаворцы, а калі трэба пацвердзіць сваё меркаванне публічна, яны хаваюць вочы, прымаюць недаступны выгляд і спалохана змаўкаюць. З гэтае нагоды сярод вызваленай «наменклатуры» распаўсюджана прыказка пра нашую работу: «уваход — рубель, выхад — тры». Рэальна ацэньваючы сваё становішча безвыходнасці, калі абрыдне на працягу паўгода прасіць, усміхацца, узгадняць і прыніжацца, вымушаны ісці на крайнія меры — пісаць заяву пра тое, што я хачу пайсці на работу па спецыяльнасці. Здавалася б, усё — ды не. З гэтага ўсё толькі і пачынаецца. Пачынаюцца ўгаворы, чарговыя абяцанні, папярэджанні і перасцярогі, прапановы працаваць інструктарам у райкоме партыі, завучам у школе, зампалітам у вучылішчы, але толькі ў сваім раёне, інакш кажучы, метад «бізуна і перніка» працуе напоўніцу. А канчаецца ўсё тым, што мяне ветліва запрашаюць на бюро райкома камсамола, дзе прысутнічае прадстаўнік гаркома партыі, і тактоўна даюць зразумець, што я толькі пачынаю, што ў мяне ўсё наперадзе, а калі буду стаяць на сваім і ўпарціцца, дык гэтага можа і не быць, і г. д. Галоўнае — калі вы ўпэўнены, што не памыляецеся — не спасаваць перад сабою. Але, выяўляецца, я яшчэ не ведаю самага апошняга. Роўна праз два месяцы, калі заканчваецца тэрмін маёй заявы, мяне запрашаюць у райком партыі тыя людзі, якія яшчэ ўчора казалі, што выбар зроблены правільна, і падтрымлівалі. Сёння яны кажуць, што ёсць думка райкома партыі, гаркома камсамола і партыі аб тым, што я хачу працаваць, дзе цяплей (гэта ў школе!), што ў мяне няма партыйнай этыкі і ўвогуле я не адбыўся як камуніст і чалавек. «Але гэта толькі думка,— кажуць яны.— Калі ты застанешся працаваць у нашым раёне, яе неўзабаве ўсе забудуць, як быццам яе і не было. Але калі ты будзеш працягваць настойваць, дык з дадзенай фармулёўкаю твая справа ляжа на стол у гарком партыі. А ўвогуле не хвалюйся, не засмучайся, усміхайся і працуй далей». Такім чынам, калі я «наменклатура», у мяне ёсць гаспадар, які можа распараджацца мною, маім лёсам, а значыцца, і маёй сям'ёю як захоча. А пакуль я з усмешкаю дапрацоўваю на старым месцы і іду працаваць у школу ў гэтым самым раёне...

## «ШТО ДАЕ КАМСАМОЛ?»

Часта можна пачуць важкі аргумент у адрас тае моладзі, якая, набраўшыся смеласці, адчайна задае рэзоннае пытанне: да якога часу? Ей гнеўна, з адценнем незразумелае крыўды пярэчаць: як ты змог задаць такое пытанне? І калі таварыш увогуле не разумее, тады пачуе: што ты даў камсамолу?

Але дазвольце ўмяшацца і спытаць яшчэ раз: да якога часу? Да якое пары энергію моладзі, розум, сілу будуць выкарыстоўваць бяздумна, нерацыянальна, закрываючы яе энтузіязмам нашыя народнагаспадарчыя дзіркі і недаробкі і г. д.?

Што зрабіла моладзь для краіны, нашае гісторыі — мы ўсе выдатна памятаем і разумеем. На камсамольскім сцягу шэсць ордэнаў, і не ліпавых, а заслужаных. Лагічна задаць другое пытанне: што дае камсамол? Давайце па парадку. Пасведчанні, розныя бланкі, граматы, дыпломы, характарыстыкі, якія мы даём і якімі ўзнагароджваем лепшых камсамольцаў, настолькі абясцэненыя, што не маюць ніякага значэння пры працаўладкаванні на новым месцы, пры паступленні ў ВНУ, тэхнікум, ПТВ і г. д. Жыллёвае пытанне ў маладзёжным асяроддзі вырашаецца найгорш (гэта ўжо статыстыка). І ўсё ж, калі працуючы на заводзе, прадпрыемстве яшчэ можна атрымаць кватэру, то на вызваленай рабоце, я маю на ўвазе райкомы камсамола, нават маласямейку чакаць няма сэнсу. (Гэта не датычыць гаркомаў і абкомаў камсамола, дзе чарговым прывілеем для выбраных з'яўляецца атрыманне кватэры.)

Вы спытаецеся, што асабіста мне даў камсамол? Вельмі шмат. З напісанага вышэй можа здацца, што шкадую аб змарнаваным часе і незакончаных справах.

Зусім не. Камсамольскую школу магу параўнаць толькі з армейскай. Як служба ў арміі, так і работа ў камсамоле — гэта выдатная жыццёвая загартоўка, гэта школа расчараванняў і станаўлення, пераацэнка такіх каштоўнасцей, як абавязак, сумленне. Як і ў арміі, адразу відаць, хто ёсць хто, дзе праўда, дзе зло. І ўвогуле, аматарам вострых адчуванняў раю прайсці гэтую школу толькі дзеля таго, каб праверыць сябе, хто ты ёсць на самой справе.

Вось коратка і ўсё. Пісаць гэта я пачаў задоўга да XX з'езда і кіраваўся не жаданнем расказаць пра прыватны выпадак з прыватнага жыцця. Усё, пра што я расказаў, засталося і прысутнічае ў нашай рабоце штодня. Напісанае адрэдагавана многімі камсамольскімі работнікамі рознага ўзроўню, розных райкомаў камсамола. Скарочана і пакінута толькі тое, з чым прыйдзецца сутыкнуцца кожнаму камсамольскаму работніку. А прымусілі мяне прыступіць да гэтага частыя пытанні аб тым, як мы працуем, чым займаемся, ці лёгка, ці будуем свае ўзаемаадносіны і г. д.

Можаце спытацца, чаму мала высноў і прапаноў. Адкажу: сэнс напісанага ў тым, каб высновы і прапановы зрабіў сам чытач.

Гомельская вобл.



# ПАВОЛЬНАЕ ТАНГА

Заканчэнне.
Пачатак на стар. 14.

вай дыскрымінацыі, дык яе ў нас даўным-даўно няма. Удзельніца «Пошуку міру» Кім, напрыклад. У яе цёмны колер скуры. Але хіба яна адчувае якуюсьці непаўнацэннасць? Не!

Мішэль (ЗША, Масачусэтс), 18 гадоў.

— Я не магу паверыць, што я ў Расіі, у Кіеве. Усё гэта так нерэальна. Я гляджу вакол і думаю: Мішэль, гэта толькі сон, прачніся! Але я не прачынаюся. Бо ж гэта рэальнасць. Я цяпер у Савецкім Саюзе, і я не магу пераадолець хвалявання. Я адчуваю вялікую цікавасць да вашай краіны, тут можна ўбачыць столькі цікавага, а ў нас так мала на гэта часу. Як хацела б я застацца тут яшчэ на год, а можа, і болей. Самы востры ўспамін — пра музей Вялікай Айчыннай вайны ў Кіеве. Гэта пераварочвае душу. У час экскурсіі я адчувала, што на вачах з'яўляюцца слёзы, што ўсё ўсярэдзіне разрываецца ад гора і пратэстуе супраць таго, што загінула столькі людзей. Бо толькі там я даведалася, што ў вайну ў вас загінула дваццаць мільёнаў. Гэта неверагодна! Гэтыя людзі мёрзлі, хварэлі, паміралі ад голаду, а назвы вёсак, у якіх яны жылі, сціраліся з карты. Я адчувала сум і боль. І злосць. Чаму злосць? Таму што вайна — гэта несправядліва!

Эрык (ЗША, Мінесота), 18 гадоў.

— Калі мы прыехалі ў Мінск, я вырашыў памяняць трохі долараў на вашыя рублі. У касе за 20 долараў атрымаў 10 рублёў, інакш кажучы, за адзін долар — 50 капеек.

— Ну і?..

— А потым я выйшаў на вуліцу, і да мяне падышоў хлопец — зусім нармальны, спакойны, добра адзеты, нават гаварыў трохі па-англійску. Ён прапанаваў за мой долар... 4 рублі!!! Як неразумна і нелагічна! Як незразумела! Я вырашыў, што ён вар'ят. Але калі мы з Бартам пайшлі мяняць грошы ў Ленінградзе, здарылася амаль тое ж самае, а потым зноў... Чаму гэта адбываецца?!

Як бы я сама хацела ведаць, чаму, Эрык!

Хрысціна (Швецыя), 17 гадоў.

— Не магу бачыць, як бесчалавечна мы, людзі, ставімся часам да нашай прыроды. Адчуваю, што трэба нешта рабіць. Кожны павінен нешта рабіць, нешта прапанаваць.

— А ты сама?

— Ёсць і ў мяне канкрэтная прапанова. Неабходна зараз жа адмовіцца ад легкавых машын. Адна такая машына выкідвае ў атмасферу амаль столькі ж шкодных рэчываў, колькі і аўтобус. Але ж аўтобус умяшчае ў сябе пяцьдзесят ці семдзесят чалавек, а машына толькі пяць. Прапаную ўсім ездзіць толькі на аўтобусах!

— А ў цябе, Хрысціна, машына ёсць?

— Ёсць, хоць я і разумею, што гэта дрэнна.

Оса (Швецыя), 17 гадоў.

— Алена, ты памятаеш жанчыну, якая сядзела ў маскоўскім гатэлі на нашым 21 паверсе?

— Не вельмі добра памятаю. Бо ў кожным нашым гатэлі ёсць дзяжурная, якая сочыць за парадкам, выдае ключы гасцям.

— У кожным гатэлі на кожным паверсе?.. Цяпер, здаецца, я разумею, чаму ў вашай краіне няма беспрацоўных.

З уражанняў, прапанаваных у кнігу «Пошук міру».
Эндзі (ЗША, Мічыган), 17 гадоў.

«Абаронца Леніна».

Камень халодны. А салдат — уважлівы і горды. Ён — абаронца героя сваёй краіны, для яго не можа быць гонару, большага за гэты. Напэўна, салдат зрабіў нешта вельмі значнае, каб заслужыць гэтае месца.

Яго хвалюе, што тут ляжыць мёртвы забальзамаваны чалавек. І, вядома, раздражняе, што многія людзі, якія ідуць да містэра Леніна, ненавідзяць яго. Ненавіснікі Леніна — ворагі ягонага абаронцы. У салдата няпростая служба.

Ці пытаецца ён у сябе: «Чаму людзі з капіталістычных краін натоўпамі ідуць убачыць чалавека, які падарваў іхнія ідэі?» У свой час Ленін знаходзіўся ў ссылцы не адзін раз як злачынца. А вось цяпер ля ягонага Маўзалея ганаровы каравул.

У сэрцы ў гэтага салдата патрыятызм. Ён бясконца паважае і шануе містэра Леніна. Напэўна, яму вельмі цікава, што Ленін думаў бы пра галоснасць і перабудову. Як бы Ленін павёў урад сёння!

Савецкі Саюз павінен ганарыцца сваім салдатам. Памятайце гэтага салдата, калі захочаце стрэліць у яго, мае дарагія суграмадзяне амерыканцы! Што святога застанецца ў жыцці, калі вы зробіце гэта? Памятайце!



Свае нататкі я невыпадкова заканчваю замалёўкаю з будучай кнігі «Пошук міру». Эндзі раскрыў свае адносіны да міру праз вартавога, які стаіць ля Маўзалея. Лена лічыць, што «мір — гэта ўзаемаразуменне». Майкл — што «мір — гэта сад». «Мір — гэта танга»,— так уяўляюць яго Ліз і Тобін...

Так, усе мы розныя, у нечым вельмі непадобныя адно на аднаго. І мы пастаянна адкрывалі для сябе штосьці новае, пачыналі задумвацца над тым, што раней здавалася бясспрэчным. Але нязменным заставалася галоўнае — жаданне прачнуцца аднойчы ўранку і даведацца, што закончылася апошняя ў гісторыі чалавецтва вайна.

**Уладзімір АРЛОЎ**

# ВОГНІШЧА НЕЎМІРУЧАСЦІ



Пра што думаў ён у свае астатнія хвіліны на Старым рынку ў Варшаве, пакуль кат з хрысціянскай міласэрнасцю правяраў вастрыню сякеры? Пра родныя Лышчыцы на любай сэрцу Берасцейшчыне? Пра вучняў, якія зберагуць зерне ісціны? Пра таго, хто называў яго сябрам, падымаў хмельны келіх за ягоным сталом і прысягаў у вернасці, каб потым выкрасці запаветны рукапіс і аддаць яго ў рукі езуітаў?

Мы ніколі не атрымаем адказу на гэтыя пытанні. Але можна з пэўнасцю сказаць, пра што ён, ідучы да плахі, не думаў. Ён, чалавек семнаццатага стагоддзя, не думаў ні пра пекла, ні пра райскія сады нябеснага царства. Ён не даручаў сваёй душы ўсявышняму. Дый хіба магло быць іначай, калі перад катам стаяў аўтар трактата, на 265 старонак якога бліскуча і дасціпна даводзілася, што бог — хімера, створаная людскім розумам?

Яго называюць беларускім Джардана Бруна, яго імя стаіць побач з імёнамі такіх волатаў думкі, як Спіноза і італьянскі філосаф Ваніні, адпраўлены інквізітарамі на вогнішча. У клерыкальнай мафіі свайго часу ён выклікаў такую шалёную нянавісць, што суддзям было мала смерці мысліцеля і спалення яго твораў: яны ўнеслі ў прысуд пункт, паводле якога нават дом, дзе ён ствараў свае «ганебныя пісанні», падлягаў разбурэнню як прытулак вар'ята.

Адвага і веліч думкі хвалюе нашчадкаў не менш, чым мужнасць на полі бітвы. Не згубіцца ў стагоддзях ні памяць пра князя Вячку і яго ваяроўпалачан, што ў лютай сечы з крыжакамі склалі галовы за свабоду эстаў, ні памяць пра Францыска Скарыну ці Сымона Буднага. Жыццё Лышчынскага таксама было подзвігам. Подзвігам у імя Ісціны. Яго гераізм яшчэ безліч разоў прыцягне ўвагу даследчыкаў, натхніць пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў...

Беларускі шляхціц Казімір Лышчынскі з'явіўся на свет каля 1634 года, у час, калі над Еўропай ужо дагарала зыркая паходня Адраджэння і на Беларусь усё шчыльней насоўвалася змрочная хмара каталіцкай рэакцыі. Продкі — а род Лышчынскіх старадаўні — спярша былі праваслаўныя, затым уніяты і каталікі. Што да самога філосафа, дык ён узгадаў пра сваё веравызнанне, бадай, толькі падчас суда, калі ў хадайніцтве на імя караля Рэчы Паспалітай Яна Сабескага вымушаны быў назвацца «правaверным каталікам».

Ягоны шлях да навукі ішоў праз навучальныя ўстановы айцоў-езуітаў. Яны давалі добрую адукацыю, але... Працытуем заснавальніка ордэна Лаёлу, які ў сваіх «Духоўных практыкаваннях» павучае: «Каб ні ў чым ні памыліцца, мы павінны верыць, што тое, што мы бачым белым, ёсць чорнае, калі такім яго называе царква». Навучэнцы езуіцкіх калегій і акадэмій мусілі аддаць богу не толькі волю, але і розум. Тут існавала разгалінаваная сістэма віжавання і даносаў, што дапамагала паставіць непакорлівых на калені. Казімір Лышчынскі быў адным з нямногіх, чые розум і характар аказаліся нязломнымі. Няма сумненняў, што светапогляд будучага філосафа-атэіста склаўся яшчэ на студэнцкай лаве. Іначай навошта было кіраўніцтву Віленскай акадэміі ўстанаўліваць за Лышчынскім таемны нагляд? Невыпадкова і тое, што, не звязаны з ордэнам прысягаю, Лышчынскі неўзабаве пасля заканчэння вучобы парывае з езуітамі і вяртаецца ў мясціны маленства, у родавы маёнтак Лышчыцы Брэсцкага павета.

Аб стылі і ладзе жыцця Лышчынскага ў гэты час сведчыць выстаўленае супраць яго на судзе абвінавачванне. Сярод іншых «злачынных грахоў» тут згадваецца, што ён не прызнаваў таемства хрысціянскага шлюбу і выдаў дачку замуж за блізкага сваяка, а на богаўгодныя справы выдаткоўваў не больш як тры фларыны на год. Апрача таго, ён склаў тастамант, дзе загадваў цела сваё пасля смерці спаліць, а попел пахаваць ускрай гасцінца, зрабіўшы на магіле богазневажальны надпіс. У матэрыялах судовага працэсу захаваўся тэкст надпісу: «Падарожнік! Не абміні гэтых камянёў. Ты на іх не спатыкнешся, калі не спатыкнешся на ісціне. Пазнаеш ісціну ля камянёў, бо нават тыя людзі, якія ведаюць праўду, вучаць, што гэта хлусня. Вучэнне мудрацоў — свядомы падман». Відаць, няма патрэбы тлумачыць, каго вальнадумца называе «мудрацамі». Прынамсі самі «мудрацы»-тэолагі гэта выдатна зразумелі.

Але самыя яго дарагія гадзіны дзесьці ў засені адвечнай дубровы ці за пісьмовым сталом кабінета былі прысвечаны філасофскім развагам, спробам па-свойму вытлумачыць свет і законы яго развіцця. Так нараджаўся пісаны на лаціне трактат «Аб неіснаванні бога», кожная выснова якога густа пахла вогнішчам.





Мал. Аляксандра ЛЬДОКАВА

Няцяжка ўявіць стаўленне да вальнадумца з боку «власть предержащих» і перадусім з боку каталіцкай царквы і яе адэптаў езуітаў. Ордэн дзейнічаў старымі, як свет, метадамі. Езуітам трэба быў якраз такі чалавек, як браслаўскі стольнік Ян Бжоска. Даўні знаёмец Лышчынскага, ён здолеў залезці не толькі ў душу філосафа, але і ў ягоныя паперы, перадаўшы «святым айцам» пятнаццаць сшыткаў пакрыёма напісанага трактата.

На жаль ці на шчасце, мы не можам зазірнуць у чорную душу пана Бжоскі. І ўсё ж што прывяло яго да напісання даносу, гучна названага «Маніфестам»? Паслухмянасць у выкананні волі сваіх гаспадароў-езуітаў? Трыццаць срэбранікаў — бо палова маёмасці асуджанага ішла ў дзяржаўны скарб, а палова — даносчыку? Сто тысяч талераў, якія Бжоска быў вінен атэісту? А можа, галоўнаю прычынай была спрадвечная нянавісць нікчэмнасці да таленту?

З «высакародным гневам» Бжоска паведамляе, што Лышчынскі «ілжывым пяром спісаў цэлыя тамы», у якіх даводзіў, што «няма бога ні на небе, ні на зямлі». Даносчык смуткаваў, што ў яго рукі трапіла толькі малая частка «святакрадскіх, горшых за вядзьмарскія» твораў, а астатнія Лышчынскаму ўдалося недзе прыхаваць. Але смуткуе Бжоска дарэмна. Гаспадары задаволеныя: падстаў для расправы з вальнадумцам хапае з ліхвой. Тым больш што на ганебным рахунку Бжоскі яшчэ адзін трафей — выкрадзеная з бібліятэкі Лышчынскага кніга кальвініста Альстэда «Натуральная тэалогія» з пазначкамі на палях. Чаго вартая хоць бы такая паметка філосафа: «Значыць, бога няма».

Бжоска даносіў, што вальнадумец не толькі пісаў скіраваныя супраць бога кнігі, але і заражаў гэтаю атрутай душы юнакоў і людзей паважнага веку. Такім чынам, Лышчынскі, як кожны сапраўдны вучоны-гуманіст, лічыў абавязкам несці свае ідэі сучаснікам. У гэтым яму спрыяла і педагагічная праца ў школе, дзе ён вучыў сялянскіх дзяцей ліку і пісьму, і грамадска-палітычная дзейнасць у якасці пасла на трыбуналах і сейміках, а затым — падсудка брэсцкага земскага суда.

У лютым і сакавіку 1689 года ў сталіцы Рэчы Паспалітай толькі і гаварылі пра злачынца, якога судзіў Варшаўскі сейм, злачынца надзвычай небяспечнага, бо ён пайшоў супроць самога пана Езуса. Заўважым, што першапачаткова судзіць Лышчынскага меркавалі на Гродзенскім сейме, але, відаць, у ініцыятараў працэсу не было ўпэўненасці, што на радзіме атэіста, у Вялікім княстве Літоўскім, будзе вынесены пажаданы прысуд. Беларуска-літоўская шляхта, баронячы свае грамадзянскія правы, чынна патрабавала вызваліць брэсцкага падсудка з-пад варты і перадаць яго справу ў суд усіх саслоўяў.

Казімір Лышчынскі быў абвінавачаны ў тым, што сабраў у сваім трактаце выказванні «розных аўтараў і заморскіх атэістаў» і абгрунтаваў іх доказамі супроць існавання бога. Прырода, сцвярджаў беларускі філосаф, не мае патрэбы ў звышнатуральным розуме. У свеце ёсць адзіная рэальнасць — бясконцая і вечная матэрыя. Стары і Новы запаветы — байкі ашуканцаў. Святая тройца, бязгрэшнае зачацце, уваскрэсенне з мёртвых і іншыя хрысціянскія догматы — мана, што памагае трымаць народ у пакоры. Багасловы гасяць святло розуму.

Матэрыялістычныя погляды Лышчынскага настолькі паслядоўныя, што гучаць у ягоных словах нават тады, калі філосаф, ратуючы жыццё, пачынае запэўніваць сейм у сваёй адданасці хрысціянству. Ён спрабуе пераканаць суд, што яго трактат меўся складацца з дзвюх частак і ўсе атэістычныя думкі, змешчаныя ў першай, ён збіраўся абвергнуць пры напісанні другой. Мысліцель абвяшчае, што мае пераканаўчыя доказы існавання бога. Гістарычныя дакументы данеслі гэтыя «доказы» да нашых дзён. «У кожным родзе істот,— гаварыў на сейме Лышчынскі,— ёсць найбольш дасканалая; у Сусвеце найдасканалейшым з'яўляецца Сонца, у свеце жывёл — чалавек, а сярод разумных істот — бог». За любы з гэтых «доказаў існасці бога» інквізітары ў краінах Заходняй Еўропы маглі без разважанняў адправіць чалавека на аўтадафе. Сапраўды, калі Сонца — самая дасканалая з зорак, значыць, аўтар тэзіса прызнае небяспечную і асуджаную царквою тэорыю Мікалая Каперніка. Калі чалавек найвышэйшая жывёліна — значыць, філосаф сумняваецца ў стварэнні Адама і Евы богам. Ці не занадта старанна вывучаў ён сачыненні Арыстоцеля, які меў нахабнасць лічыць, што людзі павінны выводзіць сваю генеалогію ад малпаў? Не менш ерэтычны быў і трэці «доказ», што дазваляў нізрынуць бога з нябёсаў і параўнаць яго з простым чалавекам.

Выдатны беларускі гуманіст жыў у трагічны для Бацькаўшчыны час. Войны 1648—1667 гадоў забралі палову насельніцтва Беларусі. Многія гарады і вёскі ператварыліся ў курадымныя пусткі, на сялянскіх палетках буяла пустазелле. Відаць, гэтыя малюнкі стаялі перад Лышчынскім, калі ён марыў пра «свет без правіцеля, народ без валадароў, а храмы без святароў», выказваючы ў зародку ідэі утапічнага сацыялізму.



Большасць паслоў сейма прагаласавала за спаленне Лышчынскага на вогнішчы. Кароль ухваліў смяротны прысуд. Папскі нунцый быў трохі незадаволены: каб заспакоіць шляхту, філосафа не катавалі і імёны ягоных паслядоўнікаў засталіся невядомымі. Што да папы рымскага, які пільна сачыў за справай беларускага атэіста, дык той прыслаў каралю крывадушны ліст, дзе называў пакаранне занадта жорсткім.

30 сакавіка 1689 года цела Лашчынскага пасля адсячэння галавы (праява тагачаснага гуманізму) спалілі на вогнішчы, а попелам стрэлілі з гарматы. Каты філосафа хацелі знішчыць любы напамінак пра сваю ахвяру. Але слава беларускага філосафа-гуманіста пракацілася па ўсёй Еўропе.

Вучонага можна забіць, але немагчыма знішчыць мудрасць. Вогнішча расправы стала вогнішчам неўміручасці.

# «Я КАРОЎ ДАІЦЬ ПАЙШОЎ БЫ...»

Максім КАЗУН, будаўнік

Хто з нас не марыў у дзяцінстве аб рамантычных прафесіях? Хлапчукі бачылі сябе касманаўтамі, маракамі, дзяўчынкі — сцюардэсамі, правадніцамі. Усіх вабіла штосьці новае, нязведанае.

Міколка, бадай, быў дзіўным выключэннем. Яго мара была вельмі ўжо зямная, празаічная, звычайная. Ён марыў... даіць кароў на ферме. Многія аднагодкі кпілі, смяяліся з яго. А хлопчык, не зважаючы на «падколкі», бегаў на ферму дапамагаць жывёлаводам.

Не можа, скажаце, такога быць. Гэта, маўляў, чарговае прыхарошванне рэальнасцей жыцця.

Што ж, тады спытайцеся пра гэта ў маладога аператара машыннага даення кароў з калгаса «Расія» Лунінецкага раёна камсамольца Мікалая Кіндрука, у таго самага колішняга Міколкі.

...Вельмі рана прачынаецца вёска Вічны. Яшчэ вісіць густы летні туман над лугам, толькі-толькі кранулі шыбы сонечныя промні, яшчэ так соладка спіцца, а дзед Андрэй, увішна патупваючы, выганяе на пашу кароў:

— Пайшла, мілая, пайшла, Зорачка, малачка Міколку прынясі.

Пачуўшы спрасонку сваё імя, унук імгненна ўскоквае з ложка, ледзь не галяком выбягае на двор:

— Дзядуля, як табе не сорамна?! Я вялікі ўжо! А малако няхай п'е мая маленькая сястрычка.

— Дык які ж ты вялікі, Міколка? — усміхаецца дзед.— Толькі шэсць годзікаў. Табе яшчэ расці ды расці.

— А хто ўчора вечарам дапамагаў кароў даіць? — не здаецца ўнук.— Я дапамагаў, дык, значыць, ужо вялікі.

— Гм, бач ты яго, карову ён даіў. А гэта ж, Міколка, справа немудрагелістая, ды, мабыць, і не мужчынская,— кажа дзед.

Міколка задумваецца.

Доўга блукае на вуснах у старога лагодная ўсмешка. Што ні кажы, а ўнук рос што трэба. Душою цягнуўся да ўсяго жывога. Не раз прыкмячаў дзед, як Міколка пяшчотнымі вачыма пазіраў на кароў, птушак, сабак...

«Любіць жывёлу ўнук — значыць, толк будзе»,— разважаў стары. Дзед Андрэй сам любіў жывёлу, з ахвотай даглядаў яе, а, калі трэба, то і даіў карову. Аднак саромеўся сваёй любові, таму небагата хто пра яе ведаў. Вось і ўнука падахвочваў да гэтай працы не словамі, а справамі.

Камсамольскі сход праходзіў не вельмі актыўна. Размова ішла пра папаўненне фермаў маладымі кадрамі. Сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса Сяргей Хадатчук гутарыў з дзяўчатамі — з кожнай паасобку. Тыя церабілі хустачкі, адводзілі ўбок вочы. Тады Мікалай Кіндрук узняўся і сказаў:

— Я пайду даіць кароў.

Весела зарагаталі дзяўчаты. А ён моўчкі сеў на месца. «Эх, вы,— падумаў,— а яшчэ ў вёсцы выраслі».

Сказана — зроблена. Назаўтра Мікалай пайшоў на ферму, стаў працаваць падменным даяром. А потым, праз год, узяў групу кароў-першацёлак.

Спачатку жартавалі з Мікалая: не было на ферме, нават у гісторыі калгаса выпадку, каб мужчына ў даярках хадзіў. А потым прывыклі. Ды і што адметна. Мікалай працаваў не горш за іншых даярак.

Але не так усё проста было і лёгка, як можа здацца. Колькі разоў прыходзілася Мікалаю літаральна начаваць на ферме, асабліва ў час масавых ацёлаў. Гэта ж не жартачкі — прыняць цяля, такое кволае, бездапаможнае. Дый дойныя каровы дагляду патрабуюць. Дома ж адна рагуля, а тут вунь іх колькі, аж трыццаць пяць! І кожную трэба накарміць, кожную падаіць.

Многія даяркі дапамагалі Мікалаю хутчэй авалодаць сакрэтамі работы. Цяпер Мікалай па-майстэрску ўпраўляецца з даільнымі апаратамі, добра ведае звычкі сваіх кароў. У 1987 годзе Кіндрук надаіў усярэднім ад каровы па 4 тысячы 27 кілаграмаў малака...

...Бегаў у школу Міколка. Сярод аднакласнікаў нічым асаблівым не вылучаўся. Быў, як кажуць, «сераднячком». Асабліва любіў батаніку і біялогію. Па гэтых прадметах атрымліваў выдатныя адзнакі.

Аднаго разу, сустрэўшы яго па дарозе са школы, суседка пажартавала:

— Штосьці мае рукі сталі балець. Дапамог бы, Міколка, кароў даіць. Ты ж, ведаю, умееш.

— З таго часу я пачаў часта наведваць ферму,— успамінае Мікалай.— Прыходзіў сюды пасля заняткаў у школе, дапамагаў то кароў даіць, то цялят даглядаць. Гэтая работа вельмі падабалася. І, мабыць, тады ўпершыню ўгледзеўся ў людзей, улюбёных у сваю простую і ў той жа час напоўненую тысячамі трывог і клопатаў працу, працу жывёлавода.

Пасля заканчэння васьмі класаў Мікалай усё лета працаваў на ферме. Надта ўжо хацелася паспрабаваць сябе ў сапраўднай справе. І як было не азірнуцца на свой след, не паглядзець на сабе збоку, не задумацца пра свой заўтрашні дзень. Не відаць пакуль таго следу, колькі ні ўглядайся. Усё яшчэ наперадзе? Не, такое не суцяшае. Пятнаццаць жа! Дужа хочацца зрабіць штосьці добрае, карыснае.

Неўзабаве праўленне калгаса «Расія» накіравала Мікалая Кіндрука вучыцца ў Пінскі сельскагаспадарчы тэхнікум на заатэхніка. Літаральна праз год юнак з вучобай... развітаўся. Чаму? Паслухаем яго самога:

— Вучыўся, і вучоба падабалася. Але, здаралася, прыеду на выхадныя дамоў, хаджу па роднай вёсцы, а ногі не-не дый на ферму заварочваюць. А як прыйду туды, так і хочацца застацца. Разумею, што прафесія заатэхніка патрэбная, але ж і аператар машыннага даення мае права на павагу.

Можна, вядома, згаджацца і не згаджацца з Мікалаем. Справа ў рэшце рэшт не ў гэтым. Кожны сам выбірае свой шлях, кожны можа памыліцца. Мікалай не з'ехаў з вёскі, зноў прыйшоў працаваць на ферму. «Прыйшоў раз і назаўсёды»,— прызнаўся ён аднойчы жывёлаводам.

Шмат гадоў працуе на той самай ферме бацька хлопца, Фёдар Дзмітрыевіч: летам — пастухом, зімой — падвозчыкам кармоў. Часта прыходзіць дапамагаць бацьку і брату васьмікласніца Галіна. «Сястра,— кажа Мікалай,— калі трэба, можа мяне падмяніць. Але на ферму, хутчэй за ўсё, не пойдзе. Марыць працаваць настаўніцай у вясковай школе».

Што ж, у кожнага свой шлях. Аднак працоўная загартоўка, атрыманая ў школьныя гады, вельмі спатрэбіцца дзяўчыне ў далейшым самастойным жыцці.

Мікалай таксама працягвае вучобу. Сёлета заканчвае 11-ы клас школы рабочай моладзі. Неўзабаве — служба ў Савецкай Арміі. А пасля? Пасля зноў на ферму, да любімай работы. У снежні 1986 года Мікалай быў абраны дэлегатам раённай, а літаральна праз месяц — абласной камсамольскай канферэнцыі. Летась праўленне гаспадаркі прысвоіла Мікалаю ганаровае званне «Лепшы па прафесіі».

Неахвотна цяпер ідзе моладзь на ферму. Ёсць у гэтым і аб'ектыўныя, і суб'ектыўныя прычыны. Наш час, час перамен у жыцці грамадства, патрабуе рашучага змянення ў адносінах да працы і побыту жывёлаводаў. Першыя крокі ўжо зроблены. Вось і на ферме, дзе працуе Мікалай, пабудаваны выдатны Дом жывёлаводаў. У светлых пакоях утульна і чыста. Тут можна добра адпачыць, памыцца ў саўне, пагаманіць за кубкам гарбаты.

Ёсць у Мікалая Кіндрука запаветнае жаданне. Няхай больш ахвотна ідзе моладзь у жывёлагадоўлю. Няхай бяруць з яго прыклад іншыя маладыя хлопцы, а слова «даяр» гучыць таксама звыкла, як і «даярка».

Лунінецкі раён.





# УЧАРАШНІ ДЗЕНЬ

Анатоль ЯРАСЬ



Іван ляжаў у труне і думаў.

Думкі былі розныя, але ў гэтай нязвыклай цішыні ён нязменна вяртаўся да адной: такі ж праўду казаў Косця Шаблін, што калі памірае чалавек, дык яшчэ тры дні ўсё чуе. «Да трох, мусіць, не дацягну, гады не тыя,— памяркоўна разважаў Іван.— У маладосці змог бы, а цяпер... Бач ты, чутнасць ува мне, як у тым тэлевізары. Майстры, вераб'іны пух! Адно слова — кабэво! Паўгадзіны якой пасля іх рамонту цягне, а потым зноў пачынае гіргатаць, бы малады гусак. А гаспадара ў хаце не стане, дык і наогул гамон таму тэлевізару».

З цемнаты да Івана даносіўся незразумелы шэпт старых — маліліся яны, ці што... Паспрабаваў пазнаваць па галасах, але дзе там пазнаеш. Урэшце, Іван і так мог здагадацца, што ля труны Прымачка сядзіць — яна заўсёды пры нябожчыках знаходзіцца. Ды і Бомбіха, вядома, не прапусціць.

«І чаго не спіцца людзям? Ці дапаможаш тут чым? Вось і Вольга, напэўна, не спала ўсю ноч — усё нораў свой паказвае, нат перад нябожчыкам».

«А з другога боку,— вырашыў Іван,— няхай пасядзяць, усё ж весялей. У зямельцы паспею панудзіцца. Там, напэўна, ужо і магілу выкапалі. Сцёпа бязногі, мусіць, капаў. Ён усім капае. Талковы мужык. Інвалід, а джгае лепш за іншага двуногага. Вось толькі каб чарніла яго не загубіла — любіць, бадзяга, каўтнуць...»

Галасоў станавілася больш, гаварылі гучней. «Напэўна, ранак настае»,— вырашыў Іван.

— А ты наш адзі-іны!... а ты наш прыго-ожы!... а за што ж ты нас пакі-ну-уў? — загаласіла раптам на ўвесь голас жонка.

Ад нечаканасці Іван ледзь не ўздрыгнуў. «Залямантавала,— незадаволена падумаў ён.— Па-чалавечы ж казаў — памру, не верыла...»

А жонка галасіла.

«Эх,— засумаваў Іван,— хоць бы аркестр прывезлі. Весялей усё ж з аркестрам. А то ляжыш, як бервяно якое,— ні слова не вымавіць, ні паварухнуцца, а яны шчэ тут канец свету наладзілі. Ну, памёр дык памёр, не ўстану ж ад ляманту... Сабралі б на аркестр як-небудзь, калгас, можа, дапамог бы. Унь, Гнат як памёр, дык нават ваенны вызывалі. Партызан... А мне дык і цывільнага хапіла б...

А потым, зноў жа, вячэра... Вып'юць людзі па чарцы, можа, і добрым словам успомняць. Успомняць, вядома,— хто ж на памінках благое трызніць?.. Шкада толькі, што спяваць нельга — хай завялі б сабе добрую песню...»

Пачуліся галасы суседзяў. Васіль побач стаяў, мармытаў нешта сабе пад нос. Іван прыслухаўся.

— От табе й маеш... Узяў ды памёр... От табе й на... А хто пяць рублёў мне цяпер верне?

«Ну й свалата,— непрыемна здзівіўся Іван.— Якія пяць рублёў? Я ж яму толькі тры вінен, як цяпер помню». Ён хацеў нават мацюкнуцца, але ўспомніў: «На покуці ж ляжу, нягожа».

— Плакала мая пяцёрачка...— бедаваў сусед напаўголаса.

«Ці ж не паразіт гэта,— абураўся Іван,— ну, ці не паразіт?.. І што за людзі ў нас такія — нават памерці спакойна не дадуць. Цэлыя два рублі накінуў».

Ад Васіля Іван не чакаў такога. Сябравалі ж, здаецца, пры жыцці. І суседзямі добрымі былі, дапамагалі адзін аднаму — соткі заўсёды садзілі. Або калі падсвінка асвежаваць — клікалі... Здаецца, раней і давер быў між імі, а во,— не паспеў памерці і — на табе! — «пяцёрачка»...

«Эх, шкада, што ўстаць не магу, я б табе паказаў!» Івану да болю ў сківіцах захацелася ажыць, ён нават паспрабаваў варухнуць нагой, але дзе ж там... Ды і ногі, напэўна, звязаны, нябожчыкам заўсёды звязваюць.

І тут, нарэшце, ён спахапіўся: «Чакай, а чаго гэта я раптам узяў ды й памёр? І не хварэў, здаецца, ніколі. Страўнік, праўда, шморгаў часам. Дык ён, лічы, у кожнага механізатара не лепшы. Кажуць, ад сухога харчу ды ад пылу. Але жывуць жа. А тут — узяў і скапыціўся. Як кажа напарнік Грышка, ласты склеіў...»

Іван паспрабаваў прыгадаць хаця б апошні дзень перад сваёй смерцю. Ранак яму бачыўся выразна. Сабраўся на работу, узяў сідар. На машыне яго завезлі ў поле.

Потым... потым звычайная справа: змазаў, лемяшы на плугах праверыў, завёў матор — тут няма чаго і ўспамінаць.

Ага, перад абедам прыехаў Саня-запраўшчык. Залілі ў бак саляры, пабалабонілі пра сёе-тое. Пачакай, а пра што ж яны гаварылі? Іван напружыў галаву, паспрабаваў «пракруціць» учарашнюю размову з Санем.

Так... Вось ён вымае шланг з гарлавіны бака, неяк мудрагеліста закручвае яго на пузе бензавоза, сядае ў кабіну. Заводзіць. І, перш чым рушыць, гаворыць:

— Во, ледзь не забыў. Дык атрымалі, прыгналі сёння.

— Што атрымалі? — не зразумеў Іван.

— Ды «Кіравец» новы, кажу, атрымалі. Віцю Борсуку нібыта аддаюць.

— Як гэта — Віцю? — разгубіўся Іван і рушыў да Сані.— Ты пачакай. Як — Віцю?..

— Дык ён мне сам хваліўся,— пацiснуў плячыма запраўшчык і ліха рвануў з месца.

— Як — Віцю?..— збянтэжанага паўтараў Іван, гледзячы ўслед машыне.

— А ты наш ненаглядненькі-і-і! — перабіла ўспаміны, завяла густым басам цешча.

Раззлаваўся Іван. «Ненаглядненькі! Я б цябе наглядзеў, Тэкля старая. Сама Вольгу падбухторвала: — «Трактар у яго жонка, хутка і спаць будзе з трактарам, а дзеці

сіротамі растуць»,— у думках перадражніў Іван цешчу.— Во, галасі цяпер ды лепш раві».

Аднак старая, быццам пачуўшы думкі нябожчыка, усхліпнула і заціхла. Нават тут яна паставіла сябе насуперак зяцю.

На змену адным галасам прыходзілі іншыя. Кожны імкнуўся плакаць і прыгаворваць па-свойму, не паўтарацца. Аднак выходзіла, што ўсе гаварылі пра адно і тое ж — які, аказваецца, добры быў нябожчык пры жыцці. «Хоць бы хто справу сказаў,— падумаў Іван,— а то ўсё «міленькі» ды «ненаглядненькі». Надакучыў Івану плач.

А тут яшчэ Кацярына, сястра жонкі, загаласіла. Яе прыгаворкі былі звонкія і працяжныя. Іван напачатку нават заслухаўся — «Прыгожа, халера!»,— але адразу ж спахапіўся: «Ну, ці не сцерва? Учора ж у яе тры рублі прасіў, дык не дала.— «Няма, Ванечка, у хаце ні капеечкі»... Давялося да Васіля ісці. А цяпер ён хутка ўжо да чырвонца налічыць».

«Пачакай,— зноў задумаўся Іван,— а навошта ж мне былі патрэбны грошы?» Ён зноў паспрабаваў сабраць увагу, успомніць учарашні дзень.

Пасля ад'езду запраўшчыка Іван доўга не мог супакоіцца, не мог паверыць яго́ным словам аб тым, што новы трактар аддадуць Віцю — Віцьку Борсуку, які тыдні тры назад вярнуўся з арміі. Абяцалі ж цвёрда — новы трактар будзе яго, Іванаў. На сходах не адзін раз цвярдзілі: «За неаднаразовыя перамогі ў спаборніцтве Івану Рыгоравічу будзе выдзелены...» А цяпер — як жа так?

Ён залез у кабіну, узяўся за рычагі. Аднак калі трактар, натужна задрыжэўшы, рушыў наперад, Іван раптам адчуў, што не зможа ўпэўнена, як звычайна, весці баразну. Спыніўся, скінуў газ. Пасядзеў хвіліну-другую, паспрабаваў яшчэ раз. Не, не атрымліваецца.

Іван заглушыў трактар, старанна закрыў дзверцы кабіны і рашуча пайшоў па свежаўзараным полі на Бакуны, да цэнтральнай сядзібы калгаса. Раптам спатыкнуўся і ледзь утрымаўся на нагах. «Ах ты, ё-маё!..»

Аказалася, труну падымаюць. Зноў пачуўся Васілёў голас. Цяпер ён камандаваў, каму вечка несці, каму выходзіць першым. І сам браўся ля галавы. «Каб хоць не ўпусціў, гад»,— падумаў Іван. Перастаў ён давяраць суседу.

Але вось, здаецца, удала паставілі труну на падлогу кузава. Іван выразна ўяўляў сабе ўсё гэта. Адкрылі барты, дыван паслалі... «Пэўна, той, што на прэмію далі. Дарма, запэцкаецца толькі, вунь, дожджык, падобна, пачынаецца».

Урэшце пад дружныя прыплакванні жанчын грузавік рушыў.

Па дарозе на могілкі Івана чамусьці зацікавіла, як напішуць на крыжы? «З. П. раб божы...» ці проста «Тут пахаваны Іван Рыгоравіч Карпак» — без раба? Другі варыянт яму спадабаўся больш. «Які з мяне раб? Нармальны трактарыст. Хай бы так і напісалі...

А потым, можа, і на помнік Вольга грошай збярэ. Таксама цікава — як напіша? «Ад скарбяшчай жаны...» Прыгожа. А, халера, ці ж не ўсё роўна? Ды і помнік той навошта? Хай лепш дзяцей гадуе ды адзявае...»

Везлі марудна. Іван прыслухаўся да работы матора. «Слабак «газон» супраць трактара,— разважаў ён.— Цікава, каго пасадзяць на мой? Косцю Шабліна можна, але загубіць тэхніку. Не мае ён ласкі да машыны...

І сеяць пара. Летась добра ўправіліся. Ці паспеюць сёлета? Лепш, каб не паспелі,— рашыў Іван,— ведалі б, што значыць без мяне...»

Але вось нарэшце прыехалі. Перанеслі труну да магілы, гаварылі апошнія развітальныя словы. Старшыня калгаса, Даўгайла, першы выступіў. Добра гаварыў, складна. А потым Іван пачуў голас, які міжволі зноў вярнуў да ўспамінаў пра ўчарашні дзень.

...Новенькі «Кіравец» стаяў непадалёку ад майстэрні, быццам паставілі асобна, каб налюбавацца. Іван залез у кабіну, прыладзіўся на зручным сядзенні, памацаў рычагі і з задавальненнем уявіў, як ён выводзіць трактар у загонку...

Андрэя Яшчука, брыгадзіра трактарнай брыгады, Іван знайшоў ля майстэрні.

— Што здарылася, Рыгоравіч? — здзіўлена спытаў брыгадзір.

— Здарылася...— Іван сабраў усе сілы, каб не гарачыцца.— Віцьку Борсука віншаваць прыйшоў.

— Ведаеш, значыць.— Яшчук напачатку нават крыху разгубіўся, не паспеў падрыхтавацца да размовы. І ўсё ж паспрабаваў даводзіць: — Слухай, Рыгоравіч, тут справа такая — Віктар малады, толькі пасля арміі, падмога нам. Ды цяпер усюды ж так... Ну, і ён умову паставіў: не дасце новы трактар — шукайце ветру ў полі...

— Ага. Маладым, значыць, усюды ў нас дарога? — не стрымаўся, усё ж заводзіўся Іван.— А помніш, які мне пасля арміі трактар далі? Амаль не пад плотам стаяў, на металалом збіраліся здаваць. А тут, бач,— новы яму давай... Ты спачатку на старым навучыся, перабяры яго, кожны болцік памацай!..

— Твая праўда, Рыгоравіч. Але ж сам ведаеш — не хапае ў нас механізатараў. Не хочацца яшчэ аднаго губляць.

— Не, чакай! Але ж абяцалі мне? Ты сам колькі разоў казаў: «Шматлікія працоўныя перамогі»,— перадражніў Іван брыгадзіра. І раптам прапанаваў: — Слухай, а давай у хлопцаў спытаем, хто больш заслужыў? Цяпер жа модна — улічваць думку калектыву. Ты ж сам пра бригадны падрад нам расказваў. Вось няхай і прагаласуюць.

— Вядома ж, за цябе будуць хлопцы,— не спрачаўся брыгадзір.— Але мы спадзяёмся, што ты правільна зразумееш. Можа, не трэба на галасаванне? Не гарачыся, падумай спакойна. Ты яшчэ на сваім год-другі можаш папрацаваць. А там ізноў трактар атрымаем.

— Атрымаем,— асуджана вымавіў Іван,— і зноў карасю якому-небудзь аддасце.

...— Як шкада, дарагі Іван Рыгоравіч, што ты не паспеў правесці сваю баразну на выдзеленым табе новым трактары,— урачыста і жалобна гучаў сярод магільных сосен голас Андрэя Яшчука, брыгадзіра.

Івану здалося, што яго затрэсла — так бязбожна маніць перад нябожчыкам! «Ну, няхай сабе Васіль, ён яшчэ, можа, і не скажа нікому. А Яшчук — перад усёй грамадой, перад удавой, перад сіротамі... О, людзі, людзі!.. Можа, і лепш, што не давядзецца жыць сярод такіх.

Але ўсё ж — як я памёр, дзе ж мяне собіла?»

Іван напружана ўспамінаў.

Пасля безнадзейнай размовы з брыгадзірам у поле ён не пайшоў — якая там сёння работа?.. Накіраваўся дахаты і па дарозе, ля магазіна, сустрэўся са Сцёпам Крывулiным. Са Сцёпам усе сустракаліся ля магазіна — ён тут часам нават начаваў.

Іван напачатку супраціўляўся: як гэта, сярод белага дня віно глушыць? Але Сцёпа быў рашучы і Іван не ўстаяў. Ды і настрой пасля размовы з брыгадзірам быў такі, што ўгаворваць доўга не давялося.

«Так,— успамінаў Іван,— потым да Федзькі пацягнуліся. Потым я яшчэ да Васіля збегаў, тры рублі пазычыў... На сваю галаву. А што ж далей? Выйшаў на вуліцу, помню, цёмна ўжо было. Ага, святло нейкае ў вочы сяйнула. Фары, напэўна,— здагадаўся Іван.— Точна, фары. Е-ка-лэ-мэ-нэ! Гэта ж мяне машына збіла!.. Садзік, напэўна... Ен! Хто ж яшчэ на машыне да дзяўчат лётае? Ен і збіў. Знявечыў, мусіць,— адны косці засталіся. Ну, я яму!.. Што — «я яму»? — адразу ж спахапіўся Іван.— Ляжы ўжо».

Гукі прыціхлі, аддаліліся — відаць, накрылі труну вечкам. Пачалі забіваць цвікі. І тут раптам Іван адчуў востры боль у назе. «Во, майстры, цвік толкам не заб'юць»,— паспеў падумаць ён. Не вытрымаўшы болю, закрычаў «О-о-о!» і пачаў губляць прытомнасць...



Іван расплюшчыў вочы і азірнуўся. Праз прыадчыненыя дзверы хляўчука прабіваліся першыя промні туманнага красавіцкага ранку. Цягнучы гаспадара за штаніну, побач радасна падскокваў Цёмка — знайшоў усё ж Івана, разумны сабака.

Так... Гадзіны праз дзве і на работу пара.

Іван сеў, прысланіўся да сцяны. Торгнуў раз-другі галавой — не паверылася. Закурыў — не паверыў. Дым праз нос выпусціў — точна, ёлкі зялёныя,— жывы!

Доўга моўчкі сядзеў, успамінаючы ўсё, што прыплялося. Потым устаў, выйшаў з хляўчука і рашуча накіраваўся да суседскага плота. Вырваў з яго штыкеціну.

Васіль мітусіўся ўжо ля свайго хлява.

— Дык што,— рушыў да яго Іван са штыкецінай.— Пяцёрачка, кажаш плакала?

— Чаго-о? — не зразумеў ці прыкідваўся сусед.

— А вось я табе зараз пакажу — чаго. Зараз!..

Васіль здзіўлена павёў вачыма, потым спалохана павярнуўся і даў лататы. Іван кінуўся за ім.

— Людзі-і! — завերашчаў сусед.— Людзі-і!

«Чаго гэта ён? — здзівіўся на хаду Іван.— Во, прыдурак, не заб'ю ж... Чаго ён крычыць?»

І тут яго асяніла нечаканая і страшная думка:

— А, можа, я і сапраўды памёр?..

Іван спыніўся. Аддыхаўся, яшчэ раз абмацаў сябе. Падыхаў на далонь. «Ды жывы ж!» — радасна ацаніў ён. І адразу ж вырашыў — трэба яшчэ раз схадзіць да брыгадзіра, з ім пагаманіць. Іван прыпадняў, нібы ўзважваючы, штыкеціну...

«Пачакай, а ці ёсць новы «Кіравец». Трактар новы ці ёсць?!»

# Ь
# ПАЭМА



**Сяргей СОКАЛАЎ-ВОЮШ**

Лекцыя 47.
...§ 53. Перад мяккімі зычнымі **з, с, ц, дз** зьмякчаюцца: зьняць, сьляза, цьвіце, дзьве і г. д....
Б. Тарашкевіч. Беларуская граматыка для школ. Выд. пятае. Вільня, 1929.

...У радзе выпадкаў... ужыванне літары Ь можна разглядаць як свядомае імкненне абазначыць асімілятыўную мяккасць зычных: зьведенье, злосьць, масьць, радосьць, сьвет, сьвірэнь, сьмерть...
А. І. Жураўскі. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967. С. 203 (раздзел «Перакладчыцкая дзейнасць В. Цяпінскага»).

## I

Быў далёкі і страшны час,
Як зляталі з плячэй галовы,
Як знішчалі, мо ў соты раз,
Нашу памяць і нашу мову.

Што я ведаю з тых часоў?
Калі быць вельмі шчырым —
Інфармацыю галасоў,
Ледзь нашморганую з эфіру,

Пару кніжак хрушчоўскіх год,
Зачытаных да латак кволых,
Ды маўчання калючы дрот,
Што пануе ў нашых школах...

Ну не верыць жа галасам,
Як і культаўскім звонкім одам.
Лёс гукнуў: «Разбярыся сам,
Хто быў вораг твайму народу...»

Колькі розных прайшло сустрэч:
Інфарматары, дыверсанты...
І над кожным зіхцеўся меч,
Кожны — контра, ці проста — анты...

Хто ж былі ўладары падзей? —
Сведкі, доказы, бланкі, справы,
Ды нібыта сябры людзей
Ад даносчыка да Цанавы.

Нейчы лёс дзеля іх — нішто,
Свой — усё, бо на тым паўсталі,
Пад нагамі — з людзей плато,
Над галовамі — бацька Сталін.

Нікне вечар, іду дамоў,
Думкі чэрап ірвуць на часткі,
Быццам вынік усіх размоў —
Мне навокал здаюцца пасткі.

І ў паветры, нібы ядваб,
Распрамляючы зноў калені,
Вырываюцца з іхніх лап
Без віны вінаватых цені.

## II

Самых цвёрдых бралі спярша:
Гэта цвёрдыя чыняць шкоду,
Гэта ў іх не баліць душа
Пра патрэбы свайго народу.

Гэта цвёрдыя (хто ж яшчэ?)
Нас вядуць па шляхах няслушных.
Кат, нібыта мяснік, ссячэ
Іх галовы пад спеў задушны.

Спеў халодных турэмных брам,
Спеў завей у далёкай Сібіры,
Дзе ярэмна нават вятрам,
Дзе прыгонна таежнай шыры.

Горкай праўдай сталее люд,
А салодкай — марнее, гіне,
Што народжана без пакут,
Тое цяжка цягнуць на спіне.

Бралі ж лёгка і без разваг,
Пазбаўлялі падсудных лавы,
Бо кароткае слова «враг!»
Бараніцца знішчала права.

Іх не стала, на іх табу,
Догма ж, вырасляя ў пачвару,
Абвастраючы барацьбу,
Зноў шукала сабе ахвяру.

І тады, быццам цень, няўзнак,
Безгалосы слуга граматык
Раптам выступіў Мяккі Знак
На арэну смяротных схватак.

Самы мяккі пайшоў у бой,
Браў, як цвёрды, сцены крутыя,
Каб цвярдзейшых прыкрыць сабой,
Каб паспелі ачуцца тыя.

А з фатэляў наўкол віжы
Падымалі свае азадкі
І зіхацелі, нібы нажы,
Здрадай востраныя асадкі.

Быў свінец непатрэбных слоў,
Кананада бязладных гукаў
Вылятала, як гром, з галоў
І лічылася звышнавукай.

Білі ціхага, як заўжды,
Ды завошта, не дайма веры!
Што па-варварску праз гады
Забірае ён шмат паперы.

Ну, вядома ж, паперы брак,
Калі чорных спісаў замнога
І яны даўжэй, чым барак
Ці ў люты Сібір дарога.

Выспяваў спакваля закон,
Як мярцвяк, ажываў пад снегам:
Мяккі Знак асудзіць на скон,
Як буржуйскага здрадцу-шпега.

Колькі супраць было і за?
Ды з абодвух бакоў нямала,
А ў віжоў на канцы ляза
Кожны спрэчнік засеў трывала.

На ашчаджаным аркушы,
У атраманце зберажоным
Затрымцела святло душы
І зайшлося кайданным звонам.

Скон цянёты плёў, як павук,
Рассыпалі завеі спевы,
Тэарэтыкі звышнавук
Для паперняў валілі дрэвы.

І хацелі пляваць яны,
Што ў далёкай бацькоўскай хаце
Ад сапраўднае іх віны
Нехта родную мову страціў:

Песні — песнямі сталі спрэс,
Слёзы — сталі слязьмі наўкола.
Тарашкевіч ішоў пад прэс,
І злачынства вітала школа.

Над жывымі вісеў праклён,
А над мёртвымі? Мёртвы скуль тут?!
Волат Цяпінскі. Нават ён!
Здолеў стацца ахвярай культу...

Восень лісце кладзе на дол,
Воз гісторыі ў брудзе вязне,
Не падкласці пад кола кол —
У Сібіру канаюць вязні.

## III

Божа! Як жа навокал ціха,
Цішыня, і тая знямела,
Ані руху табе, ні дыху
У паветры мярцвяна-белым.

Можа, нехта сканаў вялікі,
А малыя па ім не плачуць,
Бо застылі на вуснах крыкі,
Што нічога не перайначыць,

Бо застылі на вуснах словы,
Бо патухла ў словах памяць.
Калі нельга вынішчыць мову,
То імкнуцца хаця б параніць.

І сцякае яна крывёю
Па халодных, маўклівых вуснах.
Колькі ж вас, паяднаных ёю,
Неразумных, сляпых, распусных.

Людзі — волаты (нат здаля),
А галовы й мазгі пігмеяў.
І усе яны спакваля
Набываюць абрысы змеяў.

Хто згадае той гук і зык,
Хто паўторыць яго нанова?
Калі змейны ва ўсіх язык,
Калі ён двайны да паловы...

Уцякаю, бягу, куды?
Дзе ні ткніся, паўсюдна змеі:
Як жахліва сіпяць гарады,
Як пачварна вёскі нямеюць.

Быццам хто апрануў аброць,
Ды кіруе свет зацугляны
І ніхто ні слова супроць,
Толькі продкаў крывяняць раны.

Мо таму і маўчым цяпер,
Што на гэтай крыві паўсталі,
Што, як ікламі ў цела звер,
Нам у гены уеўся Сталін.

Слова стала нібы праснак,
Раз пачуеш — навек абрыдне,
Алегорыя — Мяккі Знак,
Калі ў хаце пануюць злыдні...

Я прывыкшы глядзець у ноч,
Але я не прыхільнік ночы.
Калі тая шапоча, збоч
Ці заплюшчы ціхенька вочы.

І таму на свечку лячу,
Як матыль, ля яе шалею,
Каб гарэла ярчэй хачу,
А яна не гарыць, а тлее...

# КОЛА ЗНАЁМСТВАЎ

**— Мне 19 гадоў. Скончыла ПТВ. Па спецыяльнасці лабарантка. Цяпер працую вязальшчыцай. Умею шыць. Люблю чытаць мастацкую літаратуру. Хацела б пазнаёміцца з добрым хлопцам, якому больш за 20 гадоў. МАРЫНА Ш.**

**— Мне 31 год. Я яшчэ не жанаты. У мяне ёсць работа, ёсць жыллё, але няма сябра жыцця. Не люблю дзяўчат з цыгарэтаю і на падпітку, сам стараюся абысціся без шкодных звычак. Хачу пазнаёміцца з дзяўчынаю (можна і з жанчынаю з дзіцем), якая стала б вернай спадарожніцаю. ВІКТАР ШЧ.**

**— Мне 18 гадоў. Захапляюся спортам, сучаснай маладзёжнай музыкаю. Хачу знайсці сяброў з іншых гарадоў. НАДЗЕЯ А.**

**— Мне 20 гадоў, жыву ў горадзе Калініне. Працую. Няблага малюю, захапляюся савецкай эстрадаю, люблю чытаць кнігі. Хацеў бы знайсці сапраўдных сяброў. АЛЯКСЕЙ П.**

**— Мне 22 гады. Здаецца, усё ёсць: любімая праца, надзейная сяброўка — але чалавека, з якім можна было б звязаць свой лёс, няма. Люблю чытаць, захапляюся музыкаю, не куру. ВАЛЯНЦІНА А.**

**— Мне 30 гадоў, працую аператарам станкоў з праграмным кіраваннем на вытворчасці. Зарабляю нядрэнна. Маю двухпакаёвую кватэру, але жыву адзін. Вельмі хацеў бы пазнаёміцца з прыстойнай жанчынаю 25—30 гадоў, можна і з жанчынаю з дзіцём. АЛЯКСАНДР А.**

**— Мне 24 гады, адукацыя сярэдняя спецыяльная, вельмі люблю кнігі, паэзію, няблага гатую. Жыву ўдваіх з чатырохгадовым сынам. Можа, ёсць на свеце чалавек, якому мы будзем патрэбныя. ТАЦЦЯНА Д.**

**— Мне 29 гадоў. Характар спакойны, добры. Працавіты. Дамасед. Жыву ў вёсцы. Хачу пазнаёміцца з добрай дзяўчынаю. МІКАЛАЙ К.**

## ЧАКАЮ ЛІСТОЎ

**— Мне 18 гадоў, працую ў г. Баранавічы на тэкстыльнай фабрыцы. Люблю спяваць, захапляюся фотамастацтвам, вучуся граць на гітары, люблю жартаваць, але больш за ўсё люблю дыскуціраваць з усімі, хто памыляецца ў пытаннях жыцця сучаснай моладзі.**

225320, Брэсцкая вобл., г. Баранавічы, д. 6, кв. 90. ЦІХАНОВІЧ Таццяна.

**— Мы людзі ваенныя, і таму наша сувязь з равеснікамі абмежаваная. У нас у групе ёсць хлопцы з розных гарадоў краіны, якія могуць расказаць багата цікавага. Будзем радыя, калі часопіс дапаможа нам набыць новых знаёмых.**

220057, г. Мінск, МВІЗРВ.

**— Так атрымалася, што я ў свае 29 гадоў апынуўся ў адзіноце. Не, я не змрочная асоба, у мяне ёсць свае інтарэсы: музыка, спорт, кнігі. Бог не пакрыўдзіў мяне ні ростам, ні знешнасцю, але, на жаль, абдзяліў чалавечай увагаю. Вядома, у мяне ёсць добрыя сябры, але яны ўжо жанатыя. Хацеў бы пазнаёміцца з высокай сімпатычнай дзяўчынаю.**

246028, г. Гомель, вул. Стара-Чарнігаўская, д. 49, кв. 5. ГАРАДКОЎ Станіслаў.

**— Мне 16 гадоў, займаюся цяжкай атлетыкай, люблю слухаць музыку ў стылі «рок», чытаць дэтэктывы. Даўно хачу пазнаёміцца з дзяўчынаю з падобнымі інтарэсамі.**

225111, Брэсцкая вобл., Жабінкаўскі р-н, пас. Ленінскі, вул. Леніна, д. 45, кв. 1. КЛОПАТ Мікалай.

**— Мне 25 гадоў, працую галоўным бухгалтарам. Захапляюся кнігамі, музыкаю, характар вясёлы. Сама я нарадзілася на Беларусі, але прыйшлося працаваць на Арэнбуржчыне. Я ў гэтых мясцінах адна, усе мае родныя далёка і часам бывае вельмі самотна. Хацела б пазнаёміцца з добрымі людзьмі.**

461530, Арэнбургская вобл., Соль-Ілецкі р-н, п/а Паўночнае, пас. Шахтны, ХОМІЧ Ларыса.

**— Мне 19 гадоў, захапляюся музыкаю, тэатрам, люблю чытаць. Не магу сама справіцца са сваёй адзінотаю, хоць усе лічаць мяне чалавекам вясёлым і кантактным. Буду з нецярпеннем чакаць лістоў.**

220124, г. Мінск, вул. Лынькова, д. 61, кв. 72. БАРЫСЮК Вікторыя.

**Нагадваем, што адрасы рэдакцыя не дасылае. Калі Вы хочаце пазнаёміцца з аўтарам аб'явы, напішыце яму (ёй) ліст і адпраўце ў «Крыніцу», абавязкова ўказаўшы на канверце імя адрасата і нумар часопіса, у якім была надрукавана аб'ява. Ліст будзе дасланы на ўказаны адрас.**

**Фота Яўгена СКУРАТОВІЧА**



# ДЗЕЦІ В'ЕТНАМА









Фотарэпартаж Валерыя МІКАЛАЕВА